ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЁВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 7
15-га КРАСАВІКА 1934 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:

Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.

Тэлефоны: 21044, па камутатару 12.



# Большэвіцкі друк—самая моцная зброя партыі

Друк—самая вострая зброя нашай партыі.

Шырока вядома тое выключнае значэнне, якое надаваў друку В. І. Ленін, разглядаючы яго як арганізатара мас.

«Роля газеты не абмяжоўваецца адным пашырэннем ідэй, адным палітычным выхаваннем і прыцягненнем палітычных саюзнікаў. Газета—не толькі калектыўны прапагандыст і калектыўны агітатар, але таксама калектыўны арганізатар».

Гэта азначэнне ролі газеты з'яўляецца і на сучасным этапе кіруючым для ўсёй работы большэвіцкага друку.

Тав. Сталін наступным чынам вызначае ролю друку:

«Друк—адзіная зброя, пры дапамозе якой партыя штодзенна, штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй патрэбнай ёй мове. Другіх сродкаў працягнуць духоўныя ніці паміж партыяй і класам, другога такога гібкага апарата ў прыродзе няма».

Гэтыя ленінска-сталінскія азначэнні з асаблівай вострасцю павінны быць успрыняты сёння, у дзень друку 1934 года, калі друк так моцна вырас і калі задачы перад ім у святле рашэнняў XVII з'езда партыі паўсталі выключна сур'ёзныя і адказныя.

Большэвіцкі друк на ўсіх этапах гісторыі нашай партыі адыгрываў велізарную ролю. Наш друк безупынна расце і мацнее, бо ён створан на гранітным фундаменце вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Важнейшая аснова пролетарскага друку—яго партыйнасць, класавасць, непарыўная сувязь з шырокімі рабочымі і працоўнымі масамі.

Сіла нашага друку—ва ўсваенні баявых традыцый нашай большэвіцкай партыі і яе ЦО «Праўды», у прынцыповай чыстаце і непрымірымасці да малейшых адхіленняў ад ленінізма.

Напомнім адно з вядомых выказванняў Леніна аб партыйнасці друку:

«Літаратура павінна стаць партыйнай у процівагу буржуазным норавам, у процівагу буржуазнаму прадпрыймальніцкаму, гандлярскаму друку, у процівагу буржуазнаму літаратурнаму кар'ерызму і індывідуалізму, «барскаму анархізму» і пагоні за нажывай,— соцыялістычны пролетарыят павінен высунуць прынцып **партыйнай літаратуры,** развіць гэты прынцып і правесці яго ў жыццё ў як мага больш поўнай і цэльнай форме» (**Ленін,** т. XIII, стар. 387).

Гэты важнейшы прынцып большэвіцкага друку няўхільна ажыццяўляўся і ажыццяўляецца ў нашым друку на ўсіх этапах гісторыі большэвізма.

Дзень друку 1934 г. мы сустракаем у абстаноўцы, калі нязмерна вырасла колькасць газет і іх тыраж. Разавы тыраж газет з 12 млн. у 1929 г. дасягнуў 36 млн. у 1933 г. Аб такіх тэмпах росту і марыць не смела дарэволюцыйная Расія (тыраж газет у дарэволюцыйнай Расіі складаў 2,7 млн.), не можа марыць ні адна капіталістычная краіна, ні адзін з самых магутных «уплывовых» газетных трэстаў. Нават буржуазная статыстыка паказвае, што тыраж буржуазных газет рэзка падае паўсямесна. Асабліва катастрафічна падаюць тыражы фашызаванай прэсы ў Германіі.

Але побач з друкаванымі газетамі, мы маем дзесяткі і сотні тысяч насценак, шматтыражак, якія штодзенна вогненна-большэвіцкімі словамі прасоўваюць справу соцыялістычнага будаўніцтва ў цэху, калгаснай брыгадзе, паравозным дэпо, на сплаве і т. д. Агромная колькасць фабрычна-заводскіх, палітаддзельскіх транспартных газет з'яўляюцца калектыўнымі прапагандыстамі, агітатарамі і арганізатарамі мас у барацьбе за генеральную лінію партыі.

Яшчэ больш яркія поспехі друку ў былых калоніях расійскага самадзяржаўя. Кастрычніцкая рэволюцыя адкрыла нябывалыя магчымасці для эканамічнага і культурнага развіцця раней прыгнечаных нацый. Да рэволюцыі на ўсёй тэрыторыі сучаснай БССР выдавалася менш 20 друкаваных газет, а зараз у БССР выходзіць 256 друкаваных газет: 11 цэнтральных, 75 раённых, 44 газеты палітаддзелаў МТС, 6 транспартных, 29 газет палітаддзелаў соўгасаў, 55 фабрычна-заводскіх, 36 шматтыражак вышэйшых навучальных устаноў. Разавы тыраж газет БССР складае 800 тыс. экз.

Бурны, нябачаны рост газет ёсць рэзультат росту соцыялістычнага будаўніцтва, рэзультат усё ўзрастаючай кіруючай ролі партыі. Рост нашых газет характарызуе рост культурнасці рабочых і калгаснікаў, рост палітычнай актыўнасці рабочых і працоўных мас у нашай краіне.

За нашымі газетамі стаяць мільёны. Цвёрда ажыццяўляючы ленінскую дырэктыву «давайце шырэй рабочым магчымасць пісаць у газету», наша партыя стварыла вакол сваіх газет шырокі рабселькораўскі рух, які расце разам з ростам нашага друку. У СССР больш як трохмільённая армія рабселькораў, у БССР—40 тыс. актыўных удзельнікаў нашага друку—«камандзіраў пролетарскай грамадскай думкі» **(Сталін)**, мільён рабочых і калгаснікаў, якія з'яўляюцца не толькі чытачамі, але таксама актыўнымі ўдзельнікамі большэвіцкага друку. Чытач сам узяўся за пяро, ён піша сваю насценную, раённую, палітаддзельскую, цэнтральную газету. У гэтай масавасці, у гэтай непарыўнай сувязі з масамі—велізарная крыніца сілы большэвіцкага друку, як мацнейшай зброі партыі.

* * *

Бурныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва прад'яўляюць усё новыя і новыя запатрабаванні да нашых газет. Зараз задачы нашага друку і патрабаванні да яго нязмерна ўзраслі. І гэта зусім натуральна, бо іншай становіцца наша вялікая краіна, бо значна ўзрос культурна-палітычны ўзровень мас—мільёнаў чытачоў нашых газет.

Трэба сказаць, што рад нашых газет, асабліва нізавых, не ідзе яшчэ ў нагу з узрастаючымі запатрабаваннямі.

Указанне тав. Сталіна на XVII з'ездзе аб узмацненні ідэйна-палітычнай работы партыі з'яўляецца праграмай усяго нашага друку. Як-жа вядуць нашы газеты прапаганду рашэнняў XVII з'езда партыі, барацьбу за ажыццяўленне гэтых рашэнняў?

Зусім нядаўна ЦК ВКП(б) прыняў пастанову, у якой адзначыў, што тры буйныя абласныя газеты—«Рабочий край», «Коммуна», «Молот»—«нездавальняюча прапагандуюць рашэнні XVII з'езда, не асвятляюць на сваіх старонках, як выконваецца рашэнне з'езда на месцах і як партыйныя арганізацыі растлумачваюць рашэнні з'езда рабочым і калгаснікам». ЦК кваліфікаваў гэтыя зусім недапушчальныя недахопы, як забыццё рэдакцыямі газет сваіх важнейшых абавязкаў.

Апошняя пастанова ЦК ВКП(б) аб прапагандзе рашэнняў XVII з'езда асудзіла як неўласцівыя, чуждыя духу і традыцыям большэвізма формы прапаганды. Гэта пастанова цалкам адносіцца да многіх нашых газет, што адзначалася і ў рашэннях ЦК КП(б)Б.

Стаць арганізатарам глыбокага вывучэння матар'ялаў XVII з'езда—задача нашага друку. На старонках газет трэба паказаць лепшыя ўзоры кіраўніцтва партарганізацый работай па прапагандзе ленінізма па ідэйнаму ўзбраенню кожнага комуніста, выкрываць неўласцівыя большэвікам формы агітацыйна-прапагандысцкай работы, факты паказной шуміхі і зуброжкі, замест сапраўднага ўсваення гістарычных рашэнняў з'езда.

Прапаганду рашэнняў з'езда неабходна весці ў цеснай увязцы тэорыі з практыкай, каб гэта прапаганда суправаджалася канкрэтнымі справамі, каб глыбокае ўсваенне з'ездаўскага матар'яла з'яўлялася кіруючым у дзеянні кожнага комуніста і партарганізацый у цэлым—на канкрэтных даручаных ім участках работы.

У нас, на Беларусі, перабудова партработы ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда некалькі зацягнулася, асабліва ў сельпартарганізацыях. Рад фактаў сігналізуе аб фармальнай перабудове партработы. Прычыны ў тым, што прапрацоўка рашэнняў з'езда праходзіць фармальна ў многіх партарганізацыях. Рад газет слаба спраўляецца са сваёй задачай—дапамагчы партарганізацыям у перабудове работы. Мала, зусім мала ў газетах матар'ялаў з паказам жывога, эфектыўнага вопыту перабудовы, з крытыкай фармальнай і бюракратычнай перабудовы.

Ва ўсёй сваёй рабоце газеты не павінны праглядзець члена партыі. «Член партыі павінен стаяць у цэнтры работы партыйных арганізацый» **(Кагановіч).**

Наш друк павінен весці нястомную барацьбу **за далейшае ўзмацненне радоў нашай партыі**—гэтай кіруючай сілы пролетарскай дыктатуры. У гэтым пытанні наш друк павінен праяўляць максімальную палітычную вострасць і рэволюцыйную пільнасць. Большэвіцкі друк павінен весці штодзенную работу па ўзмацненню радоў нашай партыі, ачыстцы іх ад усіх чуждых і прымазаўшыхся, ад усіх і ўсялякіх апартуністаў, павінен павышаць боездольнасць кожнага комуніста, узмацняць яго палітычны аўтарытэт, яго арганізатарскую ролю.

Нашы газеты павінны ўзяцца, закасаўшы рукавы, за арганізацыю мас на выкананне планаў другой пяцігодкі, за асваенне новай тэхнікі і новых вытворчасцей, за праверку выканання дырэктыў партыі па транспарту, таваразвароту, палепшанню матар'яльна-бытавых умоў працоўных. Праверка і паказ на старонках газет таго, як на гэтых важнейшых рашаючых участках соцыялістычнага будаўніцтва ажыц-

цяўляюцца пастановы XVII з'езда партыі, павінны заняць вялікае месца. Выключнае значэнне мае паказ на старонках газеты таго, як на прадпрыемствах ажыццяўляецца лозунг асваення, барацьба за аўладанне тэхнікай. Узняць энтузіязм і пафас асваення новай тэхнікі—адказнейшая і разам з тым удзячнейшая задача нашага друку.

У цэнтры ўвагі нашай партыі і ўсяго друку БССР павінна быць барацьба за паспяховую, высокаякасную і ў тэрмін праведзеную веснавую сяўбу, барацьба за ўраджайнасць нашых палёў, за разгортванне жывёлагадоўлі.

Ва ўмовах нашай рэспублікі, як нацыянальнай, выключнае значэнне набывае барацьба за большэвіцкае правядзенне ленінскай нацпалітыкі. Нашы газеты павінны сістэматычна паказваць поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР, як вынік правільнага ажыццяўлення ленінскай нацпалітыкі,—на фоне процістаўлення двух светаў, двух сістэм: прагніўшага капіталізма, з аднаго боку, і пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва—з другога.

У сучаснай міжнароднай абстаноўцы пачатку новага туру войн і пролетарскіх рэволюцый друк павінен значна больш увагі ўдзяляць пытанням абароназдольнасці краіны.

Барацьбу за рэалізацыю рашэнняў XVII з'езда, за ажыццяўленне грандыёзных задач другой пяцігодкі нашы газеты павінны весці, выходзячы з данай канкрэтнай абстаноўкі, вызначаючы канкрэтныя пытанні, вядучы сваю работу з веданнем справы і разам з тым аператыўна, у поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі тэмпаў нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Важнейшая ўмова паспяховага ажыццяўлення нашымі газетамі пастаўленых перад імі задач—гэта палепшанне партківаўніцтва друкам, рабселькорамі. Добрая пастаноўка работы газеты нямысліма без сістэматычнага, штодзеннага, моцнага партыйнага кіраўніцтва ёю.

Аднак, на гэтым участку ёсць буйнейшыя недахопы. На днях «Звязда» ў перадавым артыкуле назвала рад раёнаў, дзе газеты зусім нездавальняюча змагаюцца за галоўнейшую задачу дня—веснавую пасеўную кампанію. Такія раённыя газеты, як Лельчыцкая, Нараўлянская, Веткаўская, Тэрахоўская, не паказваюць большэвіцкай арганізуючай ролі ў барацьбе за павышэнне тэмпаў і якасці сяўбы. Ганебна цягнуцца ў хвасце Суражская, Гарадоцкая і Мсціслаўская газеты. Некаторыя раённыя газеты адштурхоўваюць рабселькораў. Такія газеты, як Кармянская, Сіроцінская, Осіповіцкая пішуцца пераважна рэдакцыйнымі работнікамі, і вельмі рэдкі госць на іх старонках—рабселькораўская заметка. На менскай фабрыцы «Комунарка» партком (сакратар Гольдзін) не займаўся ні цэхавымі газетамі, ні шматтыражкамі. 6 месяцаў шматтыражка заставалася без рэдактара. Партком зусім не кіраваў рабкорамі. У выніку—брак і антысанітарыя сталі неадлучнымі спадарожнікамі цукеркавай фабрыкі «Комунарка». Толькі ў апошні час фабком пачаў выпраўляць свае памылкі ў кіраўніцтве нізавым друкам. Была ўмацавана рэдкалегія шматтыражкі, узмацнілася партківаўніцтва насценнымі газетамі.

Гэтыя факты ясна гавораць аб тым, што ў пералічаных партарганізацыях партыйнае кіраўніцтва друкам было зусім нездавальняючым, што яны яўна недаацэньвалі велізарнае значэнне друку, як важнейшай зброі партарганізацый. Дэкаднік друку неабходна адзначыць узмацненнем партыйнага кіраўніцтва газетамі і канкрэтнай дапамогаю рэдакцыям у іх штодзеннай рабоце.

* * *

Выканаць пастаўленыя партыяй перад нашым друкам задачы нашы газеты змогуць толькі пры ўмове, калі яны самі перабудуюць сваю работу ў адпаведнасці з запатрабаваннямі XVII з'езда партыі. Важнейшым кіруючым напрамкам у гэтай справе з'яўляюцца ўказанні т. Постышава ў яго выступленні на другім харкаўскім абласным з'ездзе рабселькораў. Указанні гэтыя цалкам адносяцца і да друку БССР.

У дакладзе т. Постышава ва ўсю веліч ставіцца пытанне аб разгортванні работы з рабселькорамі, аб узмацненні парткіраўніцтва імі. Тым часам наш друк вядзе зусім недастатковую работу з рабселькорамі, слаба звязан з імі, вельмі мала атрымлівае ад іх лістоў і заметак і яшчэ менш змяшчае ў газетах, што прыводзіць да адрыву і страты сувязі з масамі. Нават цэнтральныя газеты—«Звязда», «Рабочий», «Калгаснік Беларусі»—гэтаму важнейшаму і адказнаму ўчастку работы не ўдзяляюць неабходнай увагі. Работа з лістамі ў гэтых рэдакцыях часта даручаецца палітычна нехваліфікаваным і арганізацыйна няздольным работнікам. Каштоўнейшая карэспандэнцыя рабочых і калгаснікаў перасылаецца з аддзела ў аддзел, а потым накіроўваецца ў архіў без усякага рэагавання. Цэнтральныя газеты недапушчальна слаба рэагуюць на фармальна бюракратычныя адносіны рэспубліканскіх і раённых устаноў да лістоў працоўных і заметак рабселькораў.

Трэба рашуча пакончыць з той палітычнай недаацэнкай, з тымі пагардлівымі адносінамі да лістоў рабочых і працоўных, якія маюць месца як у рэдакцыях нашых цэнтральных і раённых газет, так і з боку пракуратуры, розных устаноў і арганізацый.

Наш друк павінен змагацца за ўмацаванне сувязі з рабселькорамі, зрабіць карэспандэнцыі рабселькораў асноўным матар'ялам нізавых органаў друку, значна павялічыць колькасць масавых матар'ялаў на старонках цэнтральнага друку, дабіцца дзейснасці рабселькораўскіх заметак, значна палепшыць парткіраўніцтва рабселькораўскім рухам.

**Якасць работы нашых газет** трэба грунтоўна палепшыць, бо яна сёння ўжо не задавальняе ўзрослых патрабаванняў мільёнаў чытачоў.

> «Вырасшы чытач законна патрабуе зараз, каб газета рабілася культурна, каб газетныя артыкулы былі не толькі правільны, але і зручна чытаемы, каб разнастайней была тэматыка газетнага матар'ялу. Чытач—рабочы і калгаснік—патрабуе ад кожнай газеты больш шырокай інфармацыі аб усім выдатным, што адбываецца не толькі ў яго раёне, але і ва ўсёй нашай краіне і за яе межамі» **(«Правда»).**

Барацьба за якасць публікуемага матар'ялу павінна стаць задачай усяго нашага друку. Пабольш жывых, захапляючых кавалкаў самога жыцця. Біць ворага трэба цяпер больш востра, больш ядавіта. Паказваць многаграннае наша жыццё больш ярка. Навучыцца авалодваць тэхнікай слова. Узняць культуру мовы. Рашуча выкарчоўваць факты неахайнага карыстання ёю. Аб'явіць рашучую барацьбу з непісьменнасцю газет. Даць чытачу культурную і добра апрацаваную граматную газету.

ВКП(б)—ударная брыгада Комінтэрна. Па друку СССР раўняецца друк брацкіх камуністычных партый. На савецкай прэсе газеты

брацкіх компартый вучацца метадам арганізацыі мас для барацьбы за дыктатуру пролетарыята. Рукамі фашыстаў звар'яцелы капіталізм кідае ў канцлагеры ўдзельнікаў замежнага большэвіцкага друку. Але ніякія кастры не здольны спаліць большэвіцкай думкі, ніякія турмы не змогуць замкнуць большэвіцкае вуснае і друкаванае слова. Усё больш мацнее, да часу падпольнае, слова германскіх большэвікоў, друкаванае слова большэвікоў іншых брацкіх компартый.

«Друкаванае слова комунізма ўсё шырэй распаўсюджваецца па ўсяму свету. Бо ведаюць комуністы: друк ёсць і будзе самай вострай, самай моцнай зброяй сусветнага большэвізма» (**«Правда»**).

---

**Дмітрыеў**

# Жывёлагадоўлю—у цэнтр увагі

Тав. Сталін на XVII з'ездзе ВКП(б) з усёй большэвіцкай вострасцю паставіў пытанне аб соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Жывёлагадоўля—першачарговая праблема, за вырашэнне якой павінна з усёй большэвіцкай настойлівасцю ўзяцца ўся партыя, усе нашы работнікі і партыйныя і беспартыйныя.

Аднаўленне і павелічэнне пагалоўя, павышэнне прадукцыйнасці жывёлы—задача першаступеннай важнасці, асабліва для БССР, як адной з буйных жывёлагадоўчых рэспублік Саюза ССР. Наша жывёлагадоўля па сваіх размерах яшчэ не дасягнула даваеннага ўзроўню. Жывёлагадоўчая галіна сельскай гаспадаркі найбольш хварабіта перанесла рэарганізацыйны перыяд, калі стада спачатку рэзка пашло на скарачэнне з-за контррэволюцыйнай работы класавага ворага.

Тав. Сталін на XVII з'ездзе партыі сказаў:

> «Відавочна, што найбольшая насычанасць жывёлагадоўчых галін сельскай гаспадаркі буйна-кулацкімі элементамі, з аднаго боку, і ўзмоцненая кулацкая агітацыя за забой жывёлы, меўшая спрыяючую глебу ў гады рэарганізацыі, з другога боку»... і далей... «нашы земорганы не толькі не падымаюць трывогі з поваду цяжкага становішча жывёлагадоўлі, а, наадварот,—стараюцца замазаць пытанне».

Гэта зусім заслужаная і справядлівая рэзкая крытыка павінна была-б прымусіць зямельныя органы заварушыцца, перагледзець справу ў сваім раёне і безадкладна прыняць меры, каб пакончыць з ненармальнасцямі ў развіцці жывёлагадоўлі і забяспечыць рашучы пералом на гэтым адказнейшым участку соцыялістычнага будаўніцтва. Аднак, зямельныя органы і рад партарганізацый не зрабілі яшчэ патрэбных вывадаў з даклада т. Сталіна, не пераключыліся па-большэвіцку на вырашэнне задачы соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

Па раду раёнаў БССР скарачэнне пагалоўя жывёлы ўсё яшчэ прадаўжаецца, а ёсць выпадкі, галоўным чынам у аднаасобным сектары,—ідзе ўзмоцненым тэмпам. Так, у Нараўлянскім раёне стада буйнай рагатай жывёлы, пры стабільнасці ў калгасах, па аднаасобнаму сектару з 1932 г. зменшылася на 51,3 проц. (з 3240 галоў засталося 1578), конскага пагалоўя—на 26 проц. у Касцюковіцкім раёне толькі за другую палову 1933 г. стада буйнай рагатай жывёлы зменшылася на $^1/_5$, а дробнай прадукцыйнай жывёлы яшчэ больш. Тое-ж мы маем і ў Гарадоцкім, Быхаўскім, Дубровенскім і іншых раёнах БССР.

Пра стан жывёлагадоўлі ў **Веткаўскім раёне** за рад гадоў гаворыць у процантах наступная табліца.

| Від жывёлы | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. | 1/I 1934 г. |
|---|---|---|---|---|
| Коняй | 100 | 95,1 | 92,6 | 74,5 |
| З іх рабочых коняй | 100 | 91,4 | 97,2 | 77,6 |
| Буйнай раг. жывёлы | 100 | 96,8 | 98,6 | 77,9 |
| з іх кароў | 100 | 100,8 | 89,1 | 73,2 |
| Свіней | 100 | 93,8 | 89,2 | 59,0 |
| з іх матак | 100 | 95,9 | 76,5 | 54,4 |
| Авец і коз | 100 | 114,7 | 90,9 | 19,4 |
| з іх пярэзімак | 100 | 94,9 | 75,4 | 19,6 |

К 1 студзеня 1934 г. бачым рэзкае скарачэнне: 25,5 проц. усяго конскага стада і 22,6 проц. рабочых коняй. Такім чынам толькі за 6 месяцаў 1933 г. стада рабочай жывёлы скарацілася на 18 проц., рабочых коняй—на 20 проц. Прычым разбазарванне стада да апошняга часу не спынялася.

З буйнай рагатай жывёлай малюнак той-жа. На 1/I—34 г. стада буйнай рагатай жывёлы скарацілася да 77,9 проц. у адносінах да 1931 г., кароў—да 73,2 проц. Найбольш рэзка знізілася пагалоўе авечак і свіней, хоць Веткаўскі раён і лічыцца свінагадоўчым. За гэты-ж перыяд свіное стада скарацілася на 41 проц., у тым ліку свінаматак—на 45,6 проц. Найбольш скарацілася стада авечак. У адносінах да 1931 г. у раёне іх засталося толькі 19,4 проц., у адносінах да 1932 г. яшчэ менш—17 проц.

Асабліва рэзка скарацілася стада ў аднаасобным сектары:

| Від жывёлы | У проц. да 1931 г. | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. | 1/I—34 г. |
| Усяго коняй | 100 | 95,1 | 88,1 | 65,7 |
| з іх рабочых коняй | 100 | 100,2 | 96,1 | 70,5 |
| Усяго буйнай рагатай жывёлы | 100 | 87,3 | 97,3 | 66,0 |
| з іх кароў | 100 | 105 | 89,3 | 67,4 |
| Усяго свіней | 100 | 93,7 | 92,2 | 45,6 |
| з іх матак | 100 | 117,2 | 74,3 | 48 |
| Усяго авец і коз | 100 | 126,1 | 93,7 | 16,6 |
| з іх пярэзімак | 100 | 104,1 | 74,7 | 16,5 |



Так, стада коняй скарацілася на 34,3 проц., у тым ліку рабочых на 29,5 проц., буйнай рагатай жывёлы—на 34 проц., свіней—на 54,4 проц., авечак на 83,4 проц. Ёсць сельсоветы, дзе тэмп скарачэння жывёлагадоўчага стада яшчэ вышэй, асабліва ў аднаасобным сектары.

За гэты-ж перыяд стада буйнай рагатай жывёлы ў аднаасобным сектары і ў калгаснікаў скарацілася: кароў на 29 проц., нецелей на 100 проц., маладняка да 2-х год на 100. На 1/І—33 г. у аднаасобным сектары і ў калгаснікаў не лічыцца ні адной галавы маладняка буйнай рагатай жывёлы.

Свіней узростам больш 4-х месяцаў у аднаасобнікаў і калгаснікаў на 1/VII—32 г. было 454 шт., а на 1/I—34 г. засталося толькі 234 шт. (51,3 проц.). Маладняк-жа свінога пагалоўя зусім знішчан.

Авечак пярэзімак з 892 засталося толькі 56 шт. (12,1 проц.), а маладняка—ні адной штукі.

Стада буйнай рагатай жывёлы па калгаснаму сектару з 1931 г. павялічылася толькі на 27 проц. (кароў) і на 5,6 проц. (нецелей), прычым цёлак і цялят паменшылася на 16 проц.

З 6 калгасаў сельсовета свіней мае толькі адзін калгас «Ударнік», дзе запраектавана СКТФ. Пагалоўе-ж матак гэтай СКТФ з 1931 г. паменшылася на 74 проц., і не засталося ні адной штукі маладняка.

У Мухаедаўскім сельсовеце, Нараўлянскага раёна, за адзін год пагалоўе рабочых коняй у аднаасобнікаў скарацілася амаль удвая (не ўключаючы ў гэты лік калектывізаваных). Пагалоўе быкоў знізілася яшчэ больш. На 1/І—33 г. сельсовет меў 41 рабочага вала, на 1/І—34 г. засталося ўсяго 16. У сельсовеце лічаць, што вала як рабочую сілу яны перараслі, і цяпер ім патрэбен не вол, а трактар. Падобныя «настроі» супроць вала, а таксама і каня, мы маем не толькі ў Мухаедаўскім сельсовеце.

У галіне контррэволюцыйнай агітацыі і падрыўной работы, накіраванай на знішчэнне конскага пагалоўя, класавы вораг папрацаваў не мала і, як бачым, не без поспеху. А рад-партарганізацый і земорганаў гэтую тактыку класавага ворага праглядзелі, пусцілі справу развіцця конскага пагалоўя на самацёк, не ўлічылі ўсю шкоднасць і контррэволюцыйнасць гэтых антыконскіх тэорый і лявацкіх голамеханізатарскіх тэндэнцый апартуністаў.

Асабліва трэба падкрэсліць, што рад раёнаў за апошнія два гады па-бальшэвіцку не займаўся пытаннямі жывёлагадоўлі. І зусім зразумела, што класавы вораг скарыстаў з гэтага ў сваіх падрыўных мэтах. Вось некалькі фактаў.

У калгасе «Барацьбіт» Барталамееўскага сельсовета старшым конюхам на стайні працуе былы жандар царскай ахранкі. Коні ў вельмі дрэнным стане. Сечку не запарваюць, коні абязлічаны, здзельшчыны няма. У рэзультаце — да 40 проц. коняй стаяць на карантыне, з пабітымі плечамі, холкамі, прычым раны не прамываюцца і не лечацца. Трое коняй зусім не ўстаюць. Маткі ўсе абартавалі. Праўленне калгаса п'янствуе.

У калгасе «Ударнік» Сівенскага сельсовета конюх—п'яніца. У калгасе нястача сена, тым часам яго разбазарваюць на стайні, коні сена топчуць, раструшваюць, бо ў кармушках вялікія пралёты. Канцэнтраваных кармоў у калгасе даволі, але коням іх не даюць. Стайня не ацеплена, станкі кароткія, а месца аж занадта для таго, каб іх падоўжыць. Праўленне калгаса займаецца разбазарваннем і крадзежам (раскрадзена да 300 р. грошай, 10 цэнт. бульбы, 48 пудоў

аўса). Коняй кормяць і пояць несвоечасова, ніколі не чысцяць. Тры маткі абартавалі, бо абкормлены былі зялёнай грэчкай. У рэзультаце ўсяго гэтага ў 1934 г. пала 11 коняй і абартавалі ўсе маткі.

Кулацкія, класава-чуждыя элементы прабраліся ў калгасы, на стайні, а кіраўніцтва хлопае вушамі і не бачыць пад сваім носам контррэволюцыйную падрыўную работу. Такое кіраўніцтва ёсць, бясспрэчна, шырма, за якою кулацкі элемент разгортвае падрыўную работу ў калгасе.

Задача партарганізацый — уважліва праверыць работнікаў, якія даглядаюць коняй — гэту асноўную сілу калгасаў. На калгаснай, а таксама соўгаснай стайні павінны працаваць лепшыя людзі, аддадныя справе соцыялістычнай гаспадаркі, справе партыі і ўрада.

Разбазарванне цяглавай сілы, як мы бачым з вышэйпаданага, надта адчувальна ў аднаасобным сектары. Яно і зразумела. Кулацкая работа асабліва пашырана сярод аднаасобнікаў. Спрыяе гэтаму слабая, у параўнанні з калгасамі, а ў радзе выпадкаў і поўная адсутнасць партыйна-масавай, палітычнай работы сярод аднаасобнікаў. Вось характэрныя факты.

У адстаючых сельсоветах Нараўлянскага раёна (Хаткаўскі, Бярозаўскі, Мухаедаўскі і інш., дзе разбазарваецца стада, класавы вораг узмоцнена насаджае бабтысцкія секты. Каб больш насельніцтва ўцягнуць у секты, пастар спецыяльна аб'яжджае нямецкія калоніі і інш. пасёлкі, ходзіць з візітамі па дварах і збірае спецыяльныя дробнагрупавыя сходы. Праз бабтысцкія секты класавы вораг вядзе ўзмоцненую агітацыю супроць калектывізацыі, за разбазарванне жывёлы, каб сарваць выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай. У рэзультаце гэтай работы сельсоветы калектывізаваны на 17—24 проц., матар'яльнае і культурнае становішча насельніцтва нізкае. Контррэволюцыйнай рабоце класавага ворага партарганізацыі не проціпаставілі сваёй шырокай і ўсебаковай палітыка-масавай, партыйнай і арганізацыйнай работы.

Адстаючыя сельсоветы звычайна знаходзяцца на далёкай адлегласці ад раённага цэнтра (35—60 клм.), менш умацаваны партыйнымі і совецкімі кадрамі, раённае кіраўніцтва рэдка туды заглядае. Дрэнна арганізавана культбытавая работа. Газеты дастаўляюцца са спазненнем на 7—10 дзён, чытка не наладжана. Хаты-чытальні і чырвоныя куткі не працуюць. У дзіцячых яслях Мухаедаўскага і Чырвонапольскага сельсоветаў бруд, вільгаць, дзеці не мыюцца, гульняў няма, харчаванне не арганізавана.

Аналагічныя факты і ў Сівінскім сельсовеце, Веткаўскага раёна. Падрыўную работу супроць калгасаў і выканання абавязацельстваў перад дзяржавай праводзяць жонка сына палкоўніка **Гайкова**, які ў 1933 г. скрыўся, сын кулака **Новікаў**, дачка кулака **Рудкоўская**, дачка контррэволюцыянера (цяпер высланага) **Кудраўская.** Гэта група цесна звязана з кулацкімі элементамі вёскі. Адзін з такіх—Мельнікаў—падгаварвае насельніцтва разбазарваць жывёлу, укрывацца ад дзяржабавязацельстваў і заклікае паследваць яго прыкладу, бо ён прарабіў ужо гэтыя аперацыі. Зусім зразумела, што група не толькі не прымае ўдзелу ў грамадскай рабоце сельсовета, а стараецца яе сарваць. Насценгазета не выходзіць ужо 2 месяцы. Кудраўская запіскамі і сваімі паводзінамі хацела 22-II сарваць пашыраны пленум сельсовета. Усё гэта праводзіцца пад носам у 12 комуністаў і 7 комсамольцаў, частка якіх амаль зусім бяздзейнічае (Міхасёў, Багданаў, Шапавалаў).

Тое-ж трэба сказаць і пра Свецілавіцкі, Барталамееўскі, Жэлезнянскі і іншыя сельсоветы.

Разбазарваць жывёлу пачала кулацкая і заможная частка вёскі, заахвочваючы к таму аднаасобнікаў. Вось кулацкія «піонеры» разбазарвання жывёлы:

**Тітарэнка** Еўдакія (Жэлезнякі) да 1929 г. мела 24 га зямлі, 2 коняй, 5 кароў і да дзюжыны свіней. Мела наёмных рабочых. Сама— член царкоўнага совета, мужа за контррэволюцыйную работу выслалі.

**Флешар** Антон (Свецілавічы) былы гайдамак. Да масавай калектывізацыі меў: 40 га зямлі, 2 коняй, 3 каровы, наёмную сілу. На запытанне, чаму забіў каня, проста адказаў: «Не хачу выканаць план лесавывазак».

Гэтай кулацкай рабоце ў радзе месц дапамагае лявацкае адміністраванне. Так, напр., некаторыя сельсоветы за няўплату культзбора, нявывазку лесу і невыкананне іншых абавязацельстваў забіраюць са двара найперш карову. У Барталамееўскім сельсовеце за нявывазку лесу ўзяты 4 каровы, у Нова-Грышацкім—9 кароў, 2 свінні і 4 авечкі. У Закружскім сельсовеце на сцяне вісіць плакат-план: «Што трэба зрабіць да адкрыцця XVII з'езда ВКП(б)». План складаецца з 13 пунктаў, а ў заключэнне напісана: «Усе вінаватыя за невыкананне данага ўказання будуць прыцягвацца да найстражэйшай адказнасці— члены і кандыдаты КП(б)Б будуць выключаны з партыі, а беспартыйныя аддавацца пад суд». Падпісалі: сакратар ячэйкі КП(б)Б **Вашкевіч**, старшыня сельсовета **Тачыленка**.

Зусім зразумела, што такімі метадамі работы справы ўперад не пасунеш. Голае адміністраванне — гэта ланцугі прасоўванню ўперад, тормаз сапраўды бальшэвіцкай рабоце. Рэзультаты работы адзначаных сельсоветаў як нельга лепш аб гэтым сведчаць. З дзейнасці такіх гора-кіраўнікоў партарганізацыі павінны зрабіць адпаведныя вывады.

Палітмасавую работу, асабліва з аднаасобнікамі, трэба ўзняць на належную вышыню. Выхаваўчую работу разгарнуць так, каб кожны серадняк, бядняк, калгаснік добра ведалі і правільна разумелі ўсе дырэктывы партыі і ўрада. Тым часам ёсць выпадкі зусім няправільнага, а нярэдка і кулацкага талкавання закона аб мяса-малакопастаўках (Рудня Сталбунская, Нова-Грамыкі—Веткаўскага раёна, Мухаеды—Нараўлянскага раёна і інш.). Праз партмасавую работу трэба мабілізаваць насельніцтва на барацьбу за план, за хутчэйшае і добраякаснае выкананне ўсіх сельскагаспадарчых і палітычных кампаній, арганізаваць навакол іх соцспаборніцтва і ўдарніцтва, вылучаючы лепшых людзей, бязлітасна выкрываючы і громячы кулацкія, класава-чуждыя элементы і іх злачынную контррэволюцыйную дзейнасць.

У бальшэвіцкай рабоце па ўмацаванню і ўздыму жывёлагадоўлі асабліва важна пільнасць, уменне выкрываць тактыку класавага ворага і яго агентуры, патрэбна дакладнасць, уважлівасць, вялікі клопат аб кожнай дробязі, канкрэтнасць кіраўніцтва, шырока разгорнутая ўсебаковая палітыка-масавая выхаваўчая работа, бо якраз невыкананне гэтых фактараў—асноўная прычына зусім нецярпімага стану раду жывёлагадоўчых ферм.

У калгасах, дзе пануе безгаспадарнасць, неарганізаванасць, дзе няма кіраўніцтва, стада не толькі не дае прыросту, але часта ідзе на зніжэнне. Возьмем калгас «Новае жыццё № 2» (Нараўлянскага

раёна). У аборы дзверы не зачыняюцца, навокал—шчыліны. Занесеная снегам жывёла збіваецца ад холаду ў кучу. Каровы целяцца ў агульным стадзе. Не лепш і ў стайні. У рэзультаце — з 32 галоў рабочай жывёлы праз год засталося 23. На 30 проц. скарацілася колькасць буйнай рагатай жывёлы. У калгасе «XIII Кастрычнік», таго-ж раёна, за год прапала 5 рабочых коняй, 6 кароў і іншая дробная жывёла.

Таварна-жывёлагадоўчая ферма калгаса «Пераможац» (Веткаўскі раён) мае абору на 200 галоў. Аднак, будынак не ацеплены, праз шчыліны ў даху жывёла заносіцца снегам. Па палавых і ўзросных групах не разбіта. Кормяць яе адною саломай, нават сечкі не даюць. Старшы скотнік—п'яніца, гультай, зусім за фермаю не сочыць. Работнікі часта мяняюцца, бо пануе абязлічка. Ад дрэннага догляду жывёла худая. Усе каровы абартавалі, адна пры гэтым пала. Усяго за 2 месяцы пала 3 каровы.

Аналагічныя факты і на ферме «Партызан». Цікава, што раённыя работнікі часта не прыкмячаюць бясчынства. Кіраўнік райжывёлагадоўчага аб'яднання **Прымак** на фермы не ходзіць, а для інфармацыі заклікае старшыню калгаса ці заг. фермай у канцылярыю сельсовета (калгас «Партызан»).

На ферме калгаса Рудня, Стамбунскага сельсовета, кароў дагляадаюць падлеткі. Гэту з'яву кіраўнікі тлумачаць тым, што дарослых за дрэнныя адносіны судзяць, а дзяцей да 17 год не судзяць, і за сваю работу яны ні перад кім не адказваюць. На гэтай ферме цялят да года кормяць азімай саломай, жывёла ў дрэнным целе.

Па гэтых калгасах пагалоўе за апошні час значна скарацілася. А хіба нельга было ўзняць там жывёлагадоўлю і развіваць яе далей? Пры добрым кіраўніцтве, арганізацыі людзей і мабілізацыі іх на хутчэйшае і лепшаеператварэнне ў жыццё дырэктыў партыі і ўрада дабіцца гэтага не цяжка.

Прыкладаў добрай работы ў нас не мала, яны таксама пацвярджаюць, што справа жывёлагадоўлі залежыць ад людзей, ад іх арганізацыі і кіраўніцтва. Набыты лепшы вопыт трэба перанесці ў адстаючыя калгасы і ў іх умовах рэалізаваць яго.

Прыкладам таму—калгас «Новы Канатоп», Нараўлянскага раёна, дзе за адзін толькі год стада буйнай рагатай жывёлы павялічылася на 37 галоў. А трэба сказаць, што гэты калгас знаходзіцца ў значна горшых прыродных умовах, чым «Новае жыццё» Нараўлянскага раёна, або «Пераможца»—Веткаўскага.

Прыводзім параўнаўчыя даныя за два гады:

| Гады | Кароў | Нецелей | Цёлак | Цялят | Быкоў вытвор. | Быкоў кастр. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1932 . . . . . | 69 | 13 | 13 | 29 | 3 | — | 127 |
| 1933 . . . . . | 71 | 10 | 24 | 51 | 3 | 5 | 164 |

Дзве цёлкі з агульнага стада адданы калгаснікам, з 69 кароў 62 далі прыплод, які поўнасцю захован. З ростам малочнага стада павялічыўся і ўдой. У 1932 г. адна карова давала ў сярэднім 441 літр малака, а ў 1933 г.—871—павелічэнне ў два разы. Павысіўся і працант тлушчаў у малаку: з 3,9 да 4,2. «Новы Канатоп» пабудаваў для жывёлы спецыяльнае памяшканне, палепшыў догляд за ёю. Кі-

раўніцтва МТФ моцна аддана справе жывёлагадоўлі, якая дала калгасу вялікія грашовыя даходы (46 кап. на працадзень) і разам з тым забяспечыла паляводства гноем, чаго няма ў калгасах «Р. Люксембург», «Новае жыццё» і інш. Калгас датэрмінова выканаў план мясазагатовак на 1934 год.

Аглядаючы ферму «Новы Канатоп» адразу адчуваеш клапатлівую гаспадарскую руку, стараннасць і выканальнасць работнікаў фермы. У аборы цёпла, суха, мякка насцелена саломай. Жывёлу кормяць па нормах і ў вызначаны час. Пры добрым надвор'і—выпускаюць на прагулку. Кожны работнік фермы ведае, дзе і што ён павінен рабіць і колькі за работу атрымае.

Такіх калгасаў як «Новы Канатоп» у нас не мала ў кожным раёне. Задача партарганізацый у тым, каб на прыкладзе лепшых дабіцца сапраўднага пераломy ў развіцці жывёлагадоўлі. Трэба толькі арганізаваць парадак на аснове здзельшчыны, аплачваць працу паводле атрымліваемай прадукцыі, захавання і вырошчвання маладняка. Кожная наглядчыца павінна адказваць за даручаную ёй жывёлу ад моманту нараджэння да поўнага ўзросту. Вопыт раду жывёлагадоўчых ферм паказаў, што яны дабіваюцца лепшай прадукцыйнасці пры камбінацыі ў адной асобе і даглядчыка і даільшчыка, з адначасовай адказнасцю за прыплод і выпайку цялят. Вопыт гэты трэба пашырыць на ўсе МТФ, цвёрда памятаючы, што справу жывёлагадоўлі, захавання стада і яго аднаўлення вырашаюць людзі, іх арганізацыя ў вытворчасці і адданасць партыі.

Захаванне і аднаўленне жывёлагадоўчага стада—адна з найбольш адказных і сур'ёзных задач. Выконваючы дырэктывы XVII з'езда ВКП(б), партарганізацыі павінны дабіцца на фермах і ў індывідуальных гаспадарках максімальнага захавання і добрага стану ўсяго прыплоду ацёлаў і апаросаў. Ні ў якім разе не можам цярпець таго, што ў радзе калгасаў і соўгасаў адыход маладняка дасягае 35, 50 проц. і болей, як, напр., у калгасе «Чырвоны кут», Веткаўскага раёна, з 13 нарадзіўшыхся цялят 9 пала ад таго, што паілі кіслым перагонам.

У Сіванскім сельсовете на 774 каровы на 1/VII—32 г. прыпадала 92 шт. маладняка ва ўзросце да 2 год, на 1/VII—33 г. на 733 каровы прыпадала маладняка ў тым-жа ўзросце 55 штук, а на 1/I—34 г.—ні адной галавы.

* * *

Адной з рашаючых умоў аднаўлення стада з'яўляецца злучная кампанія. Аднак, рад раёнаў яе недаацаніў, пусціўшы на апартуністычны самацёк. А ў рэзультаце план сарваўся. Пацверджаннем служаць даныя аб злучцы конскага пагалоўя за 1933 г. па Веткаўскаму раёну:

| | План | Пакр. матак | Проц. вык. | У тым ліку абсеменена штучна |
|---|---|---|---|---|
| Калгасы | 690 | 459 | 66,56 | 47 |
| Ад наасобнікі | 1830 | 107 | 5,85 | — |
| Па раёну | 2520 | 566 | 22,46 | |

Такім чынам, план злучнай кампаніі па раёну выканан на 22 проц., па аднаасобнаму-ж сектару толькі на 5,8 проц. Не гледзячы на такі ганебны зрыў плана, раённыя арганізацыі не забяспечылі правільны догляд за жаробнымі кабыламі. Ад празмерных нагрузак і перагону кабыл атрымалася масавае абартаванне. Так, з 459 пакрытых матак у калгасах абартавала 74 (17,9 проц.), 46 матак аказаліся нежаробнымі.

Ёсць калгасы, дзе процант абартаваўшых матак яшчэ большы:

| Калгасы | Пакр. матак | Абартавала | Проц. абартав. |
|---|---|---|---|
| „3-ці рашаючы" . . . | 14 | 6 | 43 |
| „Молатава" . . . . . | 12 | 7 | 56 |
| „Чырвоны шлях" . . | 12 | 6 | 50 |
| „Варашылава" . . . . | 25 | 8 | 32 |
| „Сталіна" . . . . . . | 20 | 5 | 25 |
| „Барацьба" . . . . . | 4 | 4 | 100 |

У калгасе «Ударнік» за 1933 г. ні адна матка не дала прыплоду; у калгасе «Перадавік» з 16 матак далі прыплод толькі 2, у калгасе «Пераможца» з 62 кароў ацяліліся ў мінулым годзе толькі 18, у калгасе «Партызан» з 21 кароў далі прыплод толькі 10.

Побач з яўна дрэннымі колькаснымі паказчыкамі аднаўлення жывёлагадоўчага стада, нізкі і якасныя паказчыкі. Пародзістыя вытворцы нерацыянальна выкарыстоўваюцца. Высокапародзістых вытворцаў калгасы не набываюць, да метызацыі пагалоўя адносяцца безуважна, адсюль і нізкаякасны склад стада.

Прыведзеныя факты гавораць аб адным: партарганізацыі справай жывёлагадоўлі, догляду і вырошчвання маладняка па сур'ёзнаму не займаліся. Таму новую злучную кампанію трэба сустрэць ва ўсеўзбраенні і правесці так, як гэта патрабуецца ад бальшэвікоў. Зараз-жа ўлічыць усіх матак не толькі па колькасці, але і якасці. Улічыць вытворцаў, арганізаваць злучныя пункты, прымацаваць да іх пэўныя калгасы і аднаасобнікаў. Вакол злучной кампаніі скласці грамадскую думку і правесці як кампанію вялікай палітычнай і гаспадарчай важнасці.

* * *

Вялікае значэнне ў развіцці жывёлагадоўлі мае ўнутрыраённае планаванне і размяшчэнне ферм. У гэтай галіне, як нідзе, старанна папрацавалі контррэвалюцыйныя шкоднікі, даючы калгасам няправільную спецыялізацыю без усякага ўліку канкрэтных эканамічных і прыродных умоў развіцця данай гаспадаркі. У дробныя калгасы давалі буйныя фермы, у калгасы, дзе многа лугоў, выпасаў, дзе пясчаныя глебы, давалі свінаводчыя фермы і т. д. Адным з метадаў контррэволюцыйнага шкодніцтва была ўраўнілаўка ў размеркаванні ферм і іх пагалоўя ў калгасах—механічны метад планавання. Вось харак-

тэрны прыклад шкодніцкага планавання пагалоўя свіней па калгасах Дубровенскага раёна:

| Калгасы | Плошча калгаса ў *га* | Даведзены план свінога пагал. (у галовах) |
|---|---|---|
| „Перамога" . . . . . | 180 | 100 |
| „Варашылава" . . . . | 128 | 100 |
| „Ком. Леніна" . . . . | 450 | 100 |
| „Пагран. маяк" . . . | 620 | 100 |

Здавалася-б, што масюкоўшчына, тарасаўшчына ўстрахне раённыя зямельныя арганізацыі, прымусіць перагледзець размяшчэнне жывёлагадоўчых ферм па раёну, безадкладна выправіць злачынства шкоднікаў і свае памылкі. Аднак, зроблена гэта далёка не ўсюды. У калгасе «Чырвоны ўсход», Лагойскага раёна, дзе навокал балоты, шмат выпасу і сенакосу (26 проц. усёй зямлі), дзе 26 гаспадарак на 190 га ворыва, там даюць куравадную ферму на 4000 курэй, не забяспечыўшы яе ні памяшканнем, ні падрыхтаванымі работнікамі. Ясна, што з такой фермы толку няма. Курэй 248 шт., ды сам калгас пачаў разводзіць вутак (92 шт.), бо для гэтай птушкі тут усе ўмовы. У Веткаўскім раёне 40 проц. усіх калгасаў атрымалі спецыялізацыю, не адпавядаючую канкрэтным умовам развіцця данага віду жывёлы.

У калгасах з добрай, высока ўрадлівай глебай, якая не патрабуе многа гною, дзе мала лугоў і выпасу,—насаджаліся малочна-таварныя фермы. І наадварот,—дзе багата лугоў і выпасу, а глеба бесструктурная, з нізкай ураджайнасцю, вымагаючая добрага ўгнаення, насаджаліся свінаводчыя фермы. І вышла так, што ў адных калгасах лугі і выпасы выкарыстоўваліся часткова, нерацыянальна, а рад ферм не меў магчымасці стварыць сабе моцную кармавую базу, што ўнесла дадатковыя цяжкасці ў развіццё жывёлагадоўлі.

У сувязі з гэтым раённыя арганізацыі былі вымушаны перакінуць свінатаварныя фермы з адных калгасаў (Мар'інскага с.-с. «Праўда»—39 шт. і «Будаўнік соцыялізма» 76 шт.; Касінінскага с.-с. «Барацьбіт рэволюцыі»—64 шт.; Акшынскага с.-с. «Багатыр»—44 шт., Хізаўскага с.-с. «Зара комуны»—32 шт.) у другія калгасы, дзе размер гаспадаркі і глебавыя ўмовы спрыяюць развіццю свінагадоўлі (Талабунскі, Радушскі, Сівінскі, Данілаўскі і іншыя сельсоветы, у якіх свінафермы налічваліся адзінкамі.

Выконваючы дырэктывы XV з'езда КП(б)Б, партарганізацыі павінны ў першую чаргу паставіць сабе задачу «карэннага палепшання калгаснага планавання з улікам асаблівасцей кожнага калгаса, рашучай барацьбы з механічным размяшчэннем дзяржаўных заданняў паміж калгасамі» ( з пастановы XV з'езда КП(б)Б па дакладу т. Гікало).

* * *

Развіццё аўцагадоўлі ў БССР з'яўляецца важнейшай задачай партыйных арганізацый. Аднак, аўцаводныя фермы ў раёнах—вялікая рэдкасць. Аўцаводную гаспадарку, як падсобную для жывёлагадоўчага ці іншага напрамку калгаса, часта недаацэньваюць. Напрыклад,

у Нароўлі пануе яшчэ шкодная «тэорыя» аб немагчымасці развіцця аўцаводства ў раёне. Раённае кіраўніцтва дагэтуль не ўсвядоміла і не зрабіла адпаведных вывадаў з таго, што «тэорыя нерэнтабельнасці аўцаводства ва ўмовах БССР» зыходзіла з вуснаў класавага ворага, з вуснаў контррэвалюцыйнага шкодніцтва і накіравана была на аслабленне сыравіннай, мясной базы краіны, на аслабленне соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Падобным контррэволюцыйным тэорыям трэба безадкладна даць рашучы і рэзкі адпор. Мы маем усе ўмовы хутка і шырока развіць аўцагадоўлю. Перадавыя калгасы за гэтую справу пачынаюць ужо брацца па-сур'ёзнаму, бо на вопыце пераканаліся ў рэнтабельнасці аўцаводнай гаспадаркі. Не мала калгасаў і калгаснікаў патрабуюць арганізаваць падсобную аўцаводную галіну, бо без яе нерацыянальна выкарыстоўваецца рад выпасаў, адыходаў і т.д.

Развіццём аўцагадоўлі трэба па-большэвіцку, канкрэтна і аператыўна кіраваць. Партарганізацыі павінны безадкладна пакончыць з разбазарваннем дробнай жывёлы, асабліва авечак і завярнуць справу так, каб не было ні аднаго калгаса, ні аднаго калгасніка без авечак (гл. рэзалюцыю XV з'езда КП(б)Б).

* * *

Вялікае значэнне ў захаванні і палепшанні жывёлагадоўлі, у правільным доглядзе, вырошчванні, барацьбе з хваробамі мае ветработа. Аднак, ветэрынары ў лепшым выпадку «займаюцца» канстатацыяй фактаў, што конь ці паход ужо, ці заўтра падохне, але не кансультуюць, як трэба хадзіць за жывёлай, не праводзяць прафілактычнай работы. Ёсць факты фармальна бюракратычных адносін да сваіх абавязкаў і нават сабатажа.

У Даўгалёвай Ганны (аднаасобніца вёскі Палсуеўка, Сівенскага сельсовета) захварэў конь. Яна звярнулася за дапамогай к ветфельчару Сіліцкаму, які знаходзіўся ў той-жа вёсцы. Не гледзячы на ўсе просьбы Даўгалёвай, Сіліцкі прыйсці адмовіўся, матывуючы тым, што ў яго выхадны дзень. Назаўтра конь паў.

Ветэрынары раёна, як і Сіліцкі, наогул нічога не робяць, а ў лепшым выпадку канстатуюць факт пагібелі жывёлы, выдаюць запіскі для прыёму коняй на салатопку, а нярэдка прапануюць зарэзаць жывёлу як безнадзейную, хоць пры належным доглядзе яна выздараўлівае (калгас «Ударнік»).

Партарганізацыі гэтаму ўчастку работы ўздяляюць надта мала ўвагі, забываючы, што ветработа—адзін з адказнейшых участкаў жывёлагадоўлі, дзе ідзе жорсткая класавая барацьба, а таму патрэбна пільнае партыйнае вока і кіраўніцтва. Задача партарганізацый—зрабіць карэнны пералом ва ўмацаванні ветработы, дабіцца, каб ветурач стаў актыўным барацьбітом за захаванне стада, за развіццё жывёлагадоўлі.

* * *

Далёка не ўсе партарганізацыі зрабілі адпаведныя вывады з пастановы ЦК КП(б)Б аб рэалізацыі Касцюковіцкім, Пухавіцкім, Дубровенскім і інш. раёнамі пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб дапамозе бескароўным калгаснікам (гл. «Б. Б.» № 16 за 1933 г.). Райпартарганізацыі Нароўлі, Веткі і інш. забылі, што асноўная маса іх жывёлагадоўчага стада знаходзіцца ў аднаасобным сектары і ў калгаснікаў, што аднаўленне жывёлы ў асноўным пакуль што ідзе па гэтай лініі,

не вялі патрэбнай работы і пусцілі справу развіцця жывёлагадоўлі як у калгаснікаў, так і ў аднаасобнікаў на самацёк.

Рад раённых арганізацый і дагэтуль не ўяснілі сабе сутнасці сельска-гаспадарчай арцелі і апусцілі пытанне развіцця жывёлагадоўлі ў калгаснікаў.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК аб надзяленні і дапамозе калгаснікам набыць кароў праводзілася фармальна. Не ўсе калгаснікі надзелены цёлкамі. Ёсць калгасы, дзе калгаснікам не далі на карову ні аднаго кілаграма кармоў—ні сена, ні саломы (калгасы «Гарадок»—Нова-Крамяцкага сельсовета; «Партызан», «Перможца», «Ударнік»—Сівінскага сельсовета і інш.). Ёсць выпадкі (калгасы «Партызан», «Перадавік»), дзе поўнасцю яшчэ не размеркаваны кармы, і ў калгаснікаў няма чым карміць кароў.

Бясспрэчна, што так ў далейшым справа ісці не можа. Усякім тэндэнцыям ігнаравання і недаацэнкі жывёлагадоўлі ў калгаснікаў трэба даваць рашучы адпор. У 1934 г. не павінна быць ні аднаго калгасніка без уласнай каровы, незабяспечанага грубымі кармамі. Аб гэтым трэба паклапаціцца зараз-жа.

* * *

ЦК КП(б)Б і СНК БССР за апошні час вынеслі рад рашэнняў па пытаннях разбазарвання жывёлагадоўчага стада, па пытанню зусім слабой рботы ў галіне жывёлагадоўлі ў радзе раёнаў (Касцюковічы Дуброўна). У гэтых рашэннях канкрэтна гаворыцца аб тым, якімі шляхамі павінна ісці аднаўленне стада і развіццё ўсёй жывёлагадоўлі. Трэба вакол гэтых рашэнняў разгарнуць шырокую масава-растлумачальную работу, выкарыстаць насценны і раённы друк, дошкі спаборніцтва, гутаркі, вытворчыя нарады; арганізаваць агляды, праверку жывой цягавай сілы і наогул жывёлагадоўлі. Побач з масава-растлумачальнай работай моцна біць па сабатажніках, па кулаку і яго агентуры, па тых, хто знішчае нашу жывёлагадоўлю. Міліцыя і пракуратура павінны праявіць тут большую гібкасць, забяспечыць палітычны эфект пры разборы злачынных спраў.

Партарганізацыі павінны ўзмацніць партадказнасць і палепшыць кіраўніцтва справай жывёлагадоўлі, узняць на большую вышыню барацьбу за большэвіцкую рэалізацыю рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б.

У рашэнні XV з'езда КП(б)Б аб задачах комуністаў сказана:

> «З'езд патрабуе ад усіх партыйных і совецкіх арганізацый, ад кожнага члена партыі па-большэвіцку працаваць над пытаннямі жывёлагадоўлі, далейшага павелічэння пагалоўя, павышэння якасці жывёлы, яе прадукцыйнасці, таварнасці, на аснове лепшага догляду і ўтрымання, стварэння моцнай кармавой базы, правільнага кармлення, барацьбы з ялавасцю, падзежам і адыходам маладняка, развіцця племяннной жывёлагадоўлі, укаранення соцыялістычных метадаў працы ў жывёлагадоўлі».

Гэта патрабаванне трэба з чэсцю выканаць, памятаючы, што толькі большэвіцкае правядзенне ў жыццё дырэктыў партыі і ўрада, большэвіцкая рэалізацыя пастаноў XVII з'езда партыі і ўказанняў т. Сталіна забяспечаць вырашэнне праблемы жывёлагадоўлі.

**«1934 год павінен і можа стаць годам пералому к уздыму ва ўсёй жывёлагадоўчай гаспадарцы» (СТАЛІН).**

**Хацкевіч**

# Балансавая кампанія—важнейшая задача



«Калі мы, стварыўшы трэсты і прадпрыемствы на гаспадарчым разліку, не зможам дзелавым, купецкім спосабам забяспечыць поўнасцю свае інтарэсы, то мы акажамся круглымі дурнямі. Сачыць за гэтым павінен ВСНГ, але яшчэ больш Наркамфін, праз Дзяржбанк і праз спецыяльных інспектароў, бо іменна Наркамфін, не будучы зацікаўленым непасрэдна, абавязан устанавіць сапраўдны рэальны кантроль і праверку».

Так пісаў Ленін у сваім вядомым гістарычным лісце па пытаннях гаспадарання і фінансаў, яшчэ першага лютага 1922 г. Гэтую думку Леніна, вялікі яго паслядоўца, геніяльны правадыр наш—тав. Сталін не раз падкрэсліваў з усёй рашучасцю і асабліва чотка паказаў у сваіх гістарычных 6 умовах.

Выходзячы з указанняў Леніна—Сталіна, ажыццяўляючы гаспадарчае соцыялістычнае будаўніцтва, праводзячы кантроль рублём, мы павінны ператварыць гадавыя балансы гаспадарча-фінансавай дзейнасці ў інструмент апаратыўнага кантроля і кіраўніцтва соцыялістычнай гаспадаркай, кіраўніцтва новым капітальным будаўніцтвам на кожным канкрэтным участку гаспадарчай і будаўнічай работы. На жаль, не толькі гаспадарчыя органы, але часта нават і фінансавыя недаацэньваюць той вялікай ролі, якую могуць адыгрываць балансы і іх аналіз для далейшага паспяховага будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне. «Баланс—гэта справа бухгалтараў, няхай яны ў ім разбіраюцца»—такі адказ можна было пачуць ад «гаспадарнікаў», нават ад кіраўнікоў пару год назад. Гэта садзейнічала таму, што мы яшчэ не ператварылі баланс са сродку справаздачнага значэння ў сродак апаратыўнага кіраўніцтва соцыялістычнай гаспадаркай. Зразумела, што справаздачнае значэнне балансаў было і ёсць агромным. Праз баланс гаспадарнік здае справаздачу перад кіраўніцтвам, перад грамадскасцю за народныя сродкі, што былі і знаходзяцца ў яго распараджэнні.

Аднак, рашаючае значэнне баланса—гэта праверка і кантроль над ажыццяўленнем задач у гаспадаранні на кожным канкрэтным участку. Вось чаму пад кіраўніцтвам партарганізацый і вышэйшых кіруючых гаспадарчых органаў і наркаматаў балансавая кампанія павінна стаць генеральным аглядам, генеральнай праверкаю ўсіх вынікаў гаспадарчых мерапрыемстваў і тых кадраў работнікаў-гаспадарнікаў, якія што-



дзенна кіруюць заводамі, фабрыкамі, соўгасамі, магазінамі і інш. З разгляду балансаў мы павінны зрабіць не толькі ацэнку гаспадарчага фінансавага становішча, але і якасці работы, прыгоднасці данага гаспадарчага кіраўніцтва.

У мінулыя гады балансавыя кампаніі гэты момант змазвалі. Вынікі балансавай кампаніі належным чынам не ацэньваліся, на паасобныя факты не рэагавалі. Балансы, матар'ялы па іх, з-за пэўных настрояў у мінулым рабіліся, на жаль, набыткам нашых архіваў. Вось чаму ў балансавую кампанію гэтага года, побач з умацаваннем справаздачнай ролі баланса, паўстае агромнага значэння задача—ператварыць баланс у сродак аператыўнага кіраўніцтва і перш за ўсё практычнага зніжэння сабекошту, палепшання гаспадарчага будаўніцтва.

Гаспадарчыя наркаматы, цэнтральныя ўстановы і фінансава-крэдытныя органы прааналізавалі ўжо сотні балансаў за 1933 год, атрыманых ад гаспадарчых арганізацый і сярэдняга звяна.

Якія-ж характэрныя рысы фінансавай і гаспадарчай дысцыпліны паасобных арганізацый і іх кіраўнікоў выяўляюцца на аснове ўжо прааналізаванага матар'ялу?

Перш за ўсё, бачым тэндэнцыю рабіць значныя перавыдаткі па адміністрацыйна-гаспадарчай лініі.

Вельмі яркі таму прыклад—Белкааплодагародніна, якая ў мінулым годзе перавыдаткавала 185 тысяч рублёў, адпушчаных ёй на пераапрацоўку гародніны. Хлебная кантора Белгандля таксама перавыдаткавала па гандлёвай лініі 396 тысяч рублёў і па адміністрацыйна-кіраўнічай—23 тысячы рублёў за кошт 611 тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў, свядома затрыманых ёю і скарыстаных не па прызначэнню.

Пераплата значных сум штрафаў і пені за невыкананне і парушэнне дагавароў ператварылася ў масавую з'яву і абыходзіцца вельмі дорага.

Белскуртрэст за дрэнную якасць прадукцыі выплаціў 260 тысяч рублёў; Белшвейтрэст за брак—350 тысяч рублёў; аптовая база Белкаапсаюза—200 тысяч рублёў; Белдзяржтранс—179 тысяч рублёў. Выплачаныя штрафы і пені даюць у суме сотні тысяч рублёў.

Безадказнасць ва ўзаемных фінансавых разліках прыводзіць да таго, што на рахунках найбольш «энергічных» гаспадарчых арганізацый асядаюць вялікія сумы чужых сродкаў, тым часам як сваіх абавязкаў па пастаўках, здачы і разрахунках гэтыя арганізацыі не выконваюць.

На дзень аналіза справаздачы Белкааплодагародніны на яе рахунках лічыўся мільён рублёў чужых сродкаў. Не выконваючы ўзятых на сябе абавязкаў па пастаўках плодагародніны і таму маючы значныя грашовыя рэзервы, Белкааплодагародніна вельмі шырока практыкавала перавыдаткі супроць планаў і каштарысаў, ацэнкі тавараў і т. д.

Белкаапмалако выбрала іншы метад. Рэалізуючы малочную прадукцыю маслазаводаў сельпо і райспажыўсаюзаў, яно не лічыць патрэбным расплачвацца з нізавымі пастаўшчыкамі, накапляючы на сваім рахунку наяўныя грошы.

Пры аналізе баланса выявілася, што на рахунках гэтай арганізацыі—532 тысячы рублёў вольных сродкаў, тым часам як малаоздатчыкам не выплачана 110 тысяч рублёў.

Побач з адзначаным метадам стварэння фінансавага «добрабыту», ёсць факты самых безадказных адносін да захавання і ўтрымання ўласных сродкаў.

Белшвейтрэст з-за несвоечасовага спагнання даўгоў страціў 195 тысяч рублёў; Белскуртрэст—58 тысяч рублёў; Гомельскі Молпрамтрэст—168 тысяч рублёў; Белгандаль—160 тысяч рублёў. ОРС фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», каб пазбавіцца разлікаў з даўжнікамі, вырашыў справу зусім проста—раздаў абедаў на 12 тысяч рублёў бясплатна.

Пры аналізе балансаў па капітальнаму будаўніцтву і прамысловасці выяўлена 2.620.000 рублёў, якія лічацца за рознымі арганізацыямі і ўстановамі, звыш дырэктыўных норм, што дазваляе, пры ўмове мабілізацыі гэтых рэсурсаў, зменшыць суму фінансавання.

Арганізацыя складскай гаспадаркі і ўліку матар'яльных каштоўнасцей мае яшчэ столькі сур'ёзных недахопаў, што наша гаспадарка на гэтым участку, як паказаў аналіз балансаў, траціць агромныя сумы.

На торфазаводах сістэмы Белторфтрэста, пры інвентарызацыі матар'яльных каштоўнасцей, выяўлена недастача 1 мільёна рублёў. Побач з гэтым, там-жа выяўлена лішкаў матар'яльных каштоўнасцей на 600 тысяч рублёў.

Па Белшвейтрэсту недахопы ад пакраж склалі 190 тысяч рублёў, прычым па адной толькі фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» ў мінулым годзе было ўкрадзена 4 тысячы пар штаноў.

Па Белскуртрэсту недахопы гатовых матар'ялаў і сыравіны склалі 156 тысяч рублёў; па хлебнай канторы Белгандля—77 тысяч рублёў.

Барацьба за зніжэнне сабекошту не знаходзіць сабе месца ў рабоце арганізацый, кіраўнікі якіх, «не шануючы сябе і ў першую чаргу дзяржаўных сродкаў», паказваюць прыклады, як не трэба працаваць.

За мінулы год, з прычыны парушэння Белторфтрэстам зацверджаных СПА цэн па перавозках, пераплаты на транспарт склалі 359 тысяч рублёў.

Па аптовай базе Белкаапсаюза недапаступіла накапленняў 500 тысяч рублёў, бо база загружана нехадавымі таварамі, пераацэнка якіх дала страты 500 тысяч рублёў. Па Белкаапплодагародніне асабістым распараджэннем дырэктара праведзена пераацэнка грыбоў і віна, што былі на складзе,—страты 400 тысяч рублёў.

Па ОРС'у фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» бой сталовай пасуды ацэнен у 13 тысяч рублёў.

Побач з прыведзенымі прыкладамі адсутнасці барацьбы за зніжэнне сабекошту і стратамі, не менш характэрны «буржуазна-нэпманскія тэндэнцыі» ў галіне ўстанаўлення адпускных цэн на сваю прадукцыю і захавання ад дзяржавы звышпланавых накапленняў.

Пры вывучэнні гадавой справаздачы Белдзяржвыдавецтва была звернута ўвага на тую акалічнасць, што гэта арганізацыя ніколі не карыстаецца банкаўскім крэдытам, маючы па характару сваёй вытворчасці пры нармальным фінансавым становішчы безумоўную патрэбу ў ім.

Далей выяснілася, што на 1/І—34 г. Белдзяржвыдавецтва стварыла нават рэзерв у 900 тысяч стабільных падручнікаў для пачатковай і сярэдняй школы на суму 700 тысяч рублёў, пакрыўшы гэты рэзерв уласнымі грашыма.

Справа аказалася вельмі простай: пры сабекошце стабільнага

падручніка ў 24 капейкі, адпускная цана была ўстаноўлена ў 89 капеек. Зусім зразумела, што накапленняў пры такім працанце можна стварыць не толькі на 700 тысяч рублёў, але і на мільёны, не парушаючы «нармальную» дзейнасць арганізацыі.

Не менш характэрна вялікая «скромнасць» некаторых гаспадарчых арганізацый і іх кіраўнікоў пры ацэнцы фінансавых вынікаў сваёй дзейнасці.

Праверка баланса Белкаапмалако выявіла 1.352.000 руб. чыстых прыбыткаў замест паказаных арганізацыяй 653 тысяч рублёў. Розніца ў ацэнцы вынікаў на 700 тысяч рублёў узнікла з простага жадання ўтоіць ад дзяржавы свае звышпланавыя накапленні. З гэтай мэтаю пускаюцца ў ход беспадстаўныя абгрунтаванні неабходнасці грашовага забяспечання ў выглядзе рэзервных фондаў на ўсялякія выпадкі жыцця, аж да магчымых страт ад землятрасення.

Кіраўніцтва хлебнай канторы Белгандля, забыўшы час і месца свайго існавання, дазволіла сабе і сваім аддзяленням скарыстаць 611 тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў, падлягаўшых безадкладнай здачы ў даход дзяржавы, разглядаючы гэтыя грошы як нармальнае крэдытаванне дзяржавай дзейнасці канторы.

Каб мець уяўленне аб характары дзейнасці паасобных гаспадарчых арганізацый, паглядзім як яны скарыстоўваюць зваротныя сродкі, у якім стане знаходзіцца фінансавая дысцыпліна на будаўніцтве.

Вынікі разгляду гаспадарчых арганізацый як у галіне эксплаатацыйнага, так і капітальнага будаўніцтва, пацвярджаюць, што некаторыя наркаматы і трэсты яшчэ вельмі дрэнна ведаюць сапраўднае фінансавае становішча сваіх фабрык і заводаў, а значыць і няправільна надзяляюць іх зваротнымі сродкамі.

Папярэднія вынікі па канторы Промбанка паказваюць, што ў капітальнае будаўніцтва прамысловасці было ўкладзена за 1933 год уласных зваротных сродкаў 2.596.000 рублёў і затрачана на па-запланавае будаўніцтва, з тых-жа крыніц, 1.724.000 рублёў.

Па суме затрат звяртаюць на сябе ўвагу: прадпрыемствы Белдрэўтрэста—укладзена на 405 тысяч рублёў зваротных сродкаў і 470 тысяч рублёў затрачана на пазапланавае будаўніцтва; Белметалтрэста—270 тысяч руб. зваротных сродкаў і 338 тысяч рублёў пазапланавага будаўніцтва; Белдзяржспірта адпаведна—492 тысячы і 285 тысяч рублёў.

Асобнае месца ў гэтым спісе займаюць прадпрыемствы Белскуртрэста, які закончыў справаздачны год стратай 875 тысяч рублёў. Не гледзячы на такую значную стратнасць, у капітальнае будаўніцтва ўкладзена было 385 тысяч руб. зваротных сродкаў і на пазапланавае будаўніцтва затрачана 75 тысяч рублёў.

Прыведзеныя прыклады абавязваюць нас быць больш пільнымі і асцярожнымі пры разглядзе і зацверджанні квартальных планаў надзялення гаспадарчых арганізацый зваротнымі сродкамі. З усёй рашучасцю трэба папярэдзіць магчымасць разбазарвання зваротных сродкаў, прымусіць гаспадарчыя органы мабілізаваць усе ўнутраныя рэсурсы сваіх прадпрыемстваў. А што такія магчымасці ёсць, пацвярджае вылічэнне, зробленае на падставе аналіза балансаў па капітальнаму будаўніцтву прамысловасці. Гэтыя рэсурсы толькі па прамысловаму будаўніцтву ацэньваюцца ў 8 мільёнаў рублёў.

Работа па разгляду і ацэнцы вынікаў дзейнасці гаспадарчых арганізацый за 1933 год, распачатая сёлета раней і лепш як у мінулыя

гады, у бліжэйшы час будзе закончана, і па выніках будуць зроблены канкрэтныя прапановы.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што сёлета значна палепшылася справа справаздачнасці як у галіне якаснага складання, так і своечасовага прадстаўлення.

Адзначаемы агульны зрух у разуменні ролі своечасовай і якаснай справаздачнасці для правільнага гаспадарчага кіравання не знайшоў яшчэ патрэбнага водгуку ў такіх адказных гаспадарчых арганізацыях, як **Галоўдартрансе, Белжылсаюзе, Трактарацэнтры і Сельгастрэсце.**

Спасыланнем на спецыфічнасць і асобыя ўмовы прыкрываецца дрэнная фінансавая дысцыпліна, нежаданне і няўменне наладзіць па-сапраўднаму фінансавую гаспадарку.

Паставіўшы перад сабою задачу ператварыць баланс у інструмент апаратыўнага кіраўніцтва соцыялістычнай гаспадаркай, мы павінны дабіцца, каб ва ўсёй гаспадарчай і фінансавай дзейнасці разглядаемых арганізацый даваліся хутка і ў канкрэтных лічбах заданні на бягучы год, каб знішчаліся ўсе недахопы гаспадарчай дзейнасці, выяўленыя за мінулы год.

Мы павінны звярнуць выключную ўвагу на ўпарадкаванне нашага капітальнага будаўніцтва. Трэба памятаць, што фінплан капітальнага будаўніцтва на 1934 год складзен па СССР з разлікам мабілізаваць унутраныя рэсурсы на 1 мільярд рублёў для пакрыцця плана фінансавання будоўлі. Не выканаць гэтую задачу—значыць сарваць план фінансавання капітальнага будаўніцтва, аб чым мы павінны сігналізаваць і своечасова прымаць канкрэтныя меры для ліквідацыі прарыву.

Рэспубліканская балансавая камісія, газеты «Звязда» і «Экономическая жизнь» правялі рэйд-праверку і ўстанавілі, што работа балансавых камісій наркаматаў, гаспадарчых і гандлёвых арганізацый замкнута ў габінетах, што вынікі іх адмоўнай гаспадарчай дзейнасці за мінулы год застаюцца невядомымі грамадскасці, не абгаварваюцца на рабочых сходах, на сходах устаноў, калектываў, што партарганізацыі і грамадскасць не займаюцца гэтай важнейшай справай.

Кіраўнікі ўстаноў і партарганізацыі павінны вынесці разгляд балансаў кожнага кіруючага трэста з усімі вынікамі на абгаварэнне мас, ударнікаў—непасрэдных штодзенных барацьбітоў за промфінплан, каб зрабіць прапановы аб перабудове работы сапраўды рэальнымі, эфектнымі, каб вынікі работы можна было скарыстаць для яшчэ больш энергічнага, большэвіцкага штурму за аўладанне тэхнікай, за дасягненне найбольшых вынікаў па колькасці і якасці працы на канкрэтным гаспадарчым участку.

Канкрэтныя меры па выніках павінны садзейнічаць таму, каб адзначаныя агідныя факты дрэннага гаспадарання ў далейшым не паўтараліся.

Разгляд і абгаварэнне пастаноў балансавых камісій наркаматаў шырокімі масамі рабочых і служачых, пад кіраўніцтвам партарганізацый, павінны з'явіцца мабілізуючым фактарам у барацьбе за планавую і фінансавую дысцыпліну, супроць разбэшчанасці і безгаспадарнасці, за палепшанне на аснове пастаноў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б апаратыўнага кіраўніцтва, за поўную рэалізацыю колькасных і якасных планавых заданняў на другі год другой большэвіцкай пяцігодкі.

Красоўскі

# Этапы і праблемы лясной гаспадаркі БССР[1])

*... „У нашых руках агромныя прыродныя багацці, якія толькі зараз па-сапраўднаму ставяцца на службу інтарэсам усёй краіны, інтарэсам усёй масы працоўных".*
*(З даклада т. Молатава на XVII з'ездзе ВКП(б).*

## 1. Лясная гаспадарка і Кастрычніцкая рэвалюцыя

Значэнне лесу для народнай гаспадаркі надзвычай вяліка і шматгранна. Гаворачы аб здабыцці з лесу ўсіх народна-гаспадарчых карыснасцей, неабходна мець на ўвазе не толькі драўніну, якая дае сыравіну дрэваапрацоўчай, папяровай, лесахімічнай прамысловасці, як адзін з асноўных матар'ялаў будаўніцтва, відаў паліва, адна з асноўных крыніц нашага экспарта, але таксама кліматычнае, водаахоўнае, глебаахоўнае, стратэгічнае і інш. значэнні лесу. Аднабаковы падыход да карыстання лесам толькі па лініі эксплаатацыі драўніны быў-бы надзвычай вузкім, абмяжоўваючым тыя шматлікія і часта непаддаючыяся дасканаламу і наогул матар'яльнаму выражэнню блага, якія лес можа даць. Доўгі-ж аднаўленчы працэс лясной гаспадаркі (да 150 год), які ва многа раз перавышае асноўныя працэсы ў іншых галінах народнай гаспадаркі, патрабуе не толькі ўліку сучаснага, але і будучага гэтай галіны народнай гаспадаркі.

Кастрычніцкая рэвалюцыя, правёўшы нацыяналізацыю лясоў, паставіла перад советскай уладай вялікую і надзвычай складаную задачу планавай арганізацыі велізарнейшай, раскінутай на агромнай тэрыторыі, нявывучанай, адсталай, і надзвычай разбуранай ў мінулым лясной гаспадаркі, большая частка якой прадстаўляла мёртвыя, не ўцягнутыя ў эксплаатацыю масівы, а астатняя частка—драпежніцкі эксплаатаваныя прыватнаўласніцкія лясы (па БССР прыватнаўласніцкіх лясоў было 80 проц.).

Ва ўмовах БССР, якая мае 3,6 млн. га лясоў, лясная гаспадарка з'яўляецца адной з асноўных галін народнай гаспадаркі, асноўнай крыніцай знешняга гандлю (да 50 проц. экспарта БССР) і пасля сельскай гаспадаркі—адным з асноўных заняткаў насельніцтва. БССР з'яўляецца пастаўшчыком лесу бязлесным паўднёвым раёнам Саюза, асабліва Донбасу. Распалажаныя ў верхавінах Дняпра лясныя масівы БССР маюць вялікае значэнне ў рэгуляванні воднага рэжыму на тэрыторыі БССР і УССР.

[1]) Артыкул у частцы паасобных прапаноў друкуецца ў парадку абгаварэння.

У перыяд 1917—1921 г. лясы БССР бязлітасна знішчаліся пажарамі і драпежніцкімі рубкамі розных акупантаў (белапалякаў, немцаў), якія імкнуліся выкарыстаць ва ўсю сваё кароткатэрміновае прабыванне.

Адначасова з пачаткам агульнага аднаўленчага працэсу нашай соцыялістычнай гаспадаркі (1922—1927 гг.), на аснове адпаведных дырэктыў партыі і ўрада, намячаецца паварот у галіне лясной гаспадаркі БССР, а іменна: паступовае прывядзенне ў вядомасць ляснога фонда, дзяленне яго на лясы агульнадзяржаўнага і мясцовага значэння, выдзяленне ўчасткаў у земфонд (каля 500 тыс. га); устанаўленне прынцыпаў лесаэксплаатацыі.

Аднак, усё-ж гэты перыяд унёс параўнальна мала радыкальных змен у становішча і напрамак лясной гаспадаркі БССР і быў пераважна перыядам вузка-эксплаатацыйным, са значнымі перарубкамі (з прычыны адводу ў рубку штогодна 3—4 гадовых лесасек), пры слабым вывучэнні і зусім мізерных мерапрыемствах у галіне лесааднаўлення наогул і лесакультур у прыватнасці, не адказваў патрабаванням правільнага вядзення лясной гаспадаркі.

Інтарэсы соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны высунулі ў рэканструкцыйны перыяд праблему лясной гаспадаркі на адно з першых месц.

К таму часу ўжо рэзка кідаўся ў вочы глыбокі разрыў паміж становішчам і развіццём лясной гаспадаркі, лясной прамысловасці і іншымі галінамі лясной гаспадаркі, непадрыхтаванасць лясной гаспадаркі да прад'яўляемых ёй усё большых і большых патрабаванняў.

Гэта высунула, як неадкладную задачу, павярнуць лясную гаспадарку тварам к соцыялістычнаму будаўніцтву, праблему карэннай рэканструкцыі, арганізацыі лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці. Пачатак гэтай рэарганізацыі пакладзен быў у 1932 г. пастановай урадавых органаў Саюза і БССР.

Сутнасць гэтай рэарганізацыі лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці зводзілася да яднання лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці, як адзінай галіны народнай гаспадаркі на базе адзінага планавання і апаратыўнага кіраўніцтва.

Побач з правядзеннем тэрытарыяльнага перараёнавання паасобных лесазагатоўчых трэстаў, падвергласся карэннай рэарганізацыі і ўнутраная структура асноўнага вытворчага плана. Замест старога лясніцтва створана была цэльная і магутная ўзбуйненая нізавая вытворчая адзінка—леспрамгас—з прарабскімі лесаводнымі ўчасткамі, якія ахапляюць увесь цыкл лесагаспадарчых мерапрыемстваў ад рубак да лесааднаўлення, чотка ўвязаная з адміністрацыйным дзяленнем на раёны, чым інтарэсы лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці ў значнай меры наблiжаны да раённых арганізацый і адначасова ўзмоцнена ўвага і адказнасць апошніх за становішча гэтай важнейшай галіны народнай гаспадаркі.

Выяўленыя ў гэты перыяд арлоўска-марозаўскія тэорыі знайшлі сабе месца таксама і ў лясной гаспадарцы БССР.

Акадэмічная лясная школа Арлова-Марозава, якая з'яўлялася ідэолагам феадальна-памешчыцкага капіталістычнага лесаводства і адкрыта выступала супроць нацыяналізацыі лясоў, за святое захаванне ў лясной гаспадарцы капіталістычных асноў: пастаянства і роўнамернасці карыстання, супроць індустрыялізацыі лясной гаспадаркі, кап-

цэнтрацыі рубак, механізацыі яе, за дробную гаспадарчую адзінку, якая базіруецца на аднаасобнай сялянскай гаспадарцы, каб затрымаць развіццё лясной гаспадаркі.

Ва ўмовах БССР наяўнасць гэтых шкодніцкіх элементаў і тэорый выявілася ў складанні яўна шкодніцкіх планаў вядзення лясной гаспадаркі, рубак, падсочкі, лесааднаўлення, шкодніцкіх форм лесаўпарадкавання і арганізацыі лясной гаспадаркі.

Шкодніцкія арлоўска-марозаўскія тэорыі зараз поўнасцю ўскрыты і разгромлены; забяспечана падрыхтоўка новых пролетарскіх кадраў лясных спецыялістаў. Аднак, гаварыць аб канчатковай ліквідацыі рэштак арлоўшчыны-марозаўшчыны ў лясной гаспадарцы і аб адсутнасці ў нас гэтай небяспекі яшчэ рана. Трэба быць на варце, хутка і рашуча перасякаць усякія спробы працягвання гэтых шкодніцкіх тэорый у любой галіне лясной гаспадаркі. Адначасова трэба максімальна выкарыстаць усё тое са старой лясной навукі і практыкі, што магло-б нам спатрэбіцца, цалкам і рашуча адкінуць усё застарэлае, непатрэбнае, шкоднае.

Сутнасць шкодніцкіх тэорый Арлова-Марозава ў галіне лясной гаспадаркі не ўсімі ўсвядомлена. Часта паасобныя работнікі лясной прамысловасці БССР на практыцы дапускаюць то апартуністычную недаацэнку значэння лесу, лясной гаспадаркі, лесааднаўлення, то левыя загібы, адвяргаючы неабходнасць якой-бы там ні было ўвязкі рубак з лесааднаўленчымі працэсамі (напрыклад, у планах, паслядоўнасці, тэрмінах, метадах).

## 2. Сучасны стан лясной гаспадаркі БССР

Побач з бясспрэчнымі дасягненнямі ў галіне лясной гаспадаркі БССР, як у адносінах яе арганізацыйных форм, эксплаатацыі, развіцця экспарта, новых відаў хімічнай перапрацоўкі (падсочка, каніфольна-скіпідарная, спірта-парашковая вытворчасць і інш.), пачатку брыкетавання хвоі на паліва, у адносінах правядзення лесакультурных работ, значна перавысіўшых даваенныя размеры, у адносінах палепшання санітарнага стану лясоў (ачыстка, барацьба са шкоднікамі і інш. і інш.), становішча лясной гаспадаркі БССР адначасова прадаўжае заставацца нездавальняючым, аб'ём мерапрыемстваў у гэтай галіне зусім не адказвае сапраўдным запатрабаванням.

У рэзультаце драпежніцкага знішчэння лясоў у перыяд вайны і акупацыі, як вынік акруглення дзяржаўнага лясного фонда (перадача ў земфонд каля поўмільёна га) і часткова ўзмоцненых рубак пасляравалюцыйнага перыяду (штогод вырубалася ў сярэднім да 10 млн. м³ пры прыросце 5,2 млн. м³), лясістасць БССР знізілася да 20 проц. супроць 33 проц. у даваенны час (асабліва моцна пацярпелі найбольш каштоўныя дубова-ясеневыя насаджэнні); лясы Беларусі застаюцца яшчэ слаба вывучанымі, прадукцыйнасць іх (прырост) складае 2,4 к. м. (у Германіі да 6 к. м.) на га лясной плошчы, пры вельмі яшчэ нерацыянальным выкарыстанні драўніны (не больш 60 проц. масы) і пры амаль поўным невыкарыстанні драўнінных адыходаў; мы не навучыліся davoлі рацыянальна і беражна падыходзіць да эксплаатацыі нашых лясных багаццяў і выкарыстання ўсіх карысnасцей лесу.

Кіраўніцтва і дапамога трэста «Лесбел» месцам яшчэ недастатковы і не сканцэнтраваны на асноўных рашаючых леспрамгасах.

Новая вытворчая адзінка лясной гаспадаркі—леспрамгас—абмяжоўвае сваю дзейнасць амаль выключна эксплаатацыяй і амаль не ўдзяляе ўвагі ахове і лесааднаўленню; социялістычныя метады працы, брыгадны метад укаранены слаба.

Адкінуўшы старыя аджыўшыя і шкодныя ўстаноўкі ў лесаўпарадкаванні, мы ўсё яшчэ не забяспечылі ў агульных установках планаў лясной гаспадаркі строга мэтавага народна-гаспадарчага ўхілу, які-б забяспечыў бягучыя задачы прамысловасці і будаўніцтва.

Неаблесіўшыяся плошчы лясного фонда БССР складаюць на 1-І—33 г. 236 тыс. га, а намечаныя тэмпы лесааднаўлення далёка не забяспечваюць аднаўлення іх у другой пяцігодцы; культуры праводзяцца без уліку вопыту мінулых год і па якасці сваёй далёка нездавальняючыя; зусім не праводзяцца мерапрыемствы, якія-б садзейнічалі натуральнаму лесааднаўленню, і ў мізернай меры—па догляду за лесам; культуры і маладнякі не толькі не ахоўваюцца належным чынам ад патраў, але ёсць нават выпадкі атручвання іх уласным абозам леспрамгасаў, не гаворачы ўжо аб свядомых праявах шкодніцтва ў галіне лесакультур; ачыстка, санітарнае становішча лясоў—нездавальняючыя; наглядаецца надзвычайная захламленасць, заражанасць шматлікімі шкоднікамі, супроць якіх прымяняюцца вельмі недастатковыя меры.

Як на прыклад няўважлівасці, недаацэнкі лесааднаўлення можна ўказаць хоць-бы на тое, што, не гледзячы на важнасць ва ўмовах БССР дубова-ясеневых насаджэнняў, няма ніякіх вывадаў, ніякіх матар'ялаў і даных аб ходзе лесааднаўлення і культур гэтых каштоўнейшых парод, нават па такому вядомаму на сусветным рынку аб'екту, як Кашалёўская дубовая дача, якая была аб'ектам усякіх абследванняў на працягу, прыкладна, 100 год.

Значэнне механізацыі пры нашых тэмпах работы надзвычай вяліка. Яно ярка ахарактарызавана наступнымі словамі т. Сталіна: «думаць, што можна абыйсціся без механізацыі пры нашых тэмпах работы і маштабах вытворчасці, значыць разлічваць на тое, што можна вычарпаць мора лыжкай». Тым часам, у галіне тэхнічнага стану, механізацыі лясной гаспадаркі, дзе працэсы работы асабліва працаёмкі, мы значна адсталі, напрыклад, ад сельскай гаспадаркі. У той час як у галіне сельскай гаспадаркі знаходзіць сабе прымяненне значная колькасць складаных машын (камбайны, трактары, складаныя малатарні, пасеўныя і ўборачныя машыны), у галіне лясной гаспадаркі БССР мы працуем яшчэ па-старынцы, прымітыўным тапаром, пілой, лапатай, матыкай і амаль выключна на сялянскім кані. Наглядаецца кансерватызм, закаранеласць да навін і нават да наяўных механізмаў (плугі «Экерта», фрэзеры, сеялкі, маторныя пілы не выкарыстоўваюцца), трактарная цяга амаль не прымяняецца; увядзенне першых лежневых дарог у БССР сустрэлі вельмі адмоўна нават кіраўнікі некаторых леспрамгасаў, трапіўшыя пад уплыў шкодніцкіх элементаў.

Для ўсякага ясна, што развіццё нашай социялістычнай гаспадаркі павінна базавацца на строга навуковай глебе, на базе канкрэтных вывадаў спецыяльных навуковых даследванняў. Аднак, і тут мы наглядаем недаацэнку, кансерватызм, пагардлівыя адносіны гаспадарчага кіраўніцтва трэста і паасобных леспрамгасаў да навуковых дасягненняў, вопытаў. Кіраўніцтва Лесбела не ўсвядоміла значэння навукова-даследчай справы, не гледзячы на канкрэтную ўстаноўку, даную т. Лобавым, што «вытворчаснікі павінны ва што-б там ні стала ўсво-

іць і ажыццявіць погляд на навукова-даследчыя інстытуты, як на навуковы штаб сваёй работы». Закончаныя навукова-даследчыя работы інстытута лясной прамысловасці не прапрацоўваюцца сярод шырокіх колаў практычных работнікаў і спецыялістаў сістэмы НКЛеса, і не ажыццяўляюцца на практыцы; лясны-ж інстытут не вядзе барацьбы за рэалізацыю сваіх прац.

У пытанні лясных кадраў, якое зараз займае адно з асноўных і рашаючых месц у справе правільнага вядзення лясной гаспадаркі, мы маем надзвычай глыбокі прарыў як у адносінах спецыялістаў (неадпаведнасць выпускаемых спецыялістаў прад'яўляемым лясной гаспадаркі патрабаванням, яе напрамку), так і ў адносінах нізавых кадраў у лесе (непадрыхтаванасць, няздольнасць працаваць у новых умовах, засмечанасць класава-чуждымі элементамі).

Нарэшце, уся злучнасць пытанняў упарадкавання арганізацыі і эксплаатацыі лясной гаспадаркі БССР безумоўна павінна была праходзіць пры актыўнейшым удзеле партыйнай і прафесіянальнай арганізацыі як трэста, так асабліва леспрамгасаў. Аднак, іх дзейнасць у гэтай галіне праяўляецца яшчэ надзвычай слаба.

Мы маем у БССР вельмі значны лесаводны апарат (250 лесаводаў у значнай меры з вышэйшай адукацыяй, каля 600 культурных лесанаглядальнікаў, шматлікі штат лясной варты), заклікаць для непасрэднай работы ў галіне лясной гаспадаркі. Тым часам, мы наглядаем надзвычай агіднае становішча лясоў, зусім нездавальняючы, не адказваючы патрабаванням лясной гаспадаркі ход лесааднаўленчых працэсаў, драпежніцкія рубкі, нерацыянальнае выкарыстанне фонда, надзвычайную захламленасць, распаўсюджанне шматлікіх шкоднікаў.

Сярод паасобных работнікаў лесаэксплаатацыі існуе думка, што лесаводны апарат (г. зн. лесазаводы, культурныя наглядальнікі)— бяздзельнікі, непатрэбны баласт, выхаваны на шкодніцкіх тэорыях Арлова-Марозава.

За апошнія гады склад лесаводнага апарата значна змяніўся, аднавіўся, вялікай колькасцю маладых, упаўне савецкіх спецыялістаў, партыйцаў, камсамольцаў, бадзёрых, энергічных работнікаў, любячых сваю справу і шчыра жадаючых працаваць у галіне ўпарадкавання і рэарганізацыі лясной гаспадаркі на соцыялістычны лад, павышэння яе прадукцыйнасці.

Аднак не створаны ўмовы для рацыянальнага выкарыстання і нармальнай работы лесаводаў, пакідаецца без увагі антаганізм паміж работнікамі лесаэксплаатацыі і лесаводамі і шматлікія факты грубых парушэнняў інтарэсаў лясной гаспадаркі з боку лесазагатоўчага апарата на месцах; часткова маюць месца нават выпадкі праследвання і запалохвання лесаводаў. Зусім ненармальным з'яўляецца прыцягванне лесаводаў на ўсялякія кампаніі і работы (па сельскай гаспадарцы, загатоўках, вярбоўцы рабгужсілы).

Кіраўніцтва трэста «Лесбел», леспрамгасаў, а таксама іх партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі мала зрабілі, каб ліквідаваць гэтыя ненармальныя з'явы, стварыць неабходныя ўмовы для нармальнай работы лесаводаў і тым самым забяспечыць інтарэсы лясной гаспадаркі, а значыць, і інтарэсы народнай гаспадаркі ў цэлым. У рэзультаце ўсяго гэтага лесаводы, не маючы падтрымання, будучы абязлічаны, у радзе выпадкаў страцілі свой твар і голас.

Рэзультатам гэтай недаацэнкі, асабліва адчувальнай ва ўмовах інтэнсіўнай лясной гаспадаркі БССР, з'яўляецца былая (ды і цяпер-

наглядаецца яшчэ) неадпаведнасць размераў капітальных укладанняў і аперацыйных выдаткаў на лясную гаспадарку сапраўднай патрэбнасці ў іх.

Пры такім стане лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці мы безумоўна не паспеем за тэмпамі нашага соцыялістычнага будаўніцтва, не здолеем задаволіць попыту народнай гаспадаркі.

### 3. Чарговыя праблемы лясной гаспадаркі БССР

Гіганцкія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, інтарэсы індустрыялізацыі краіны патрабуюць усямернага выкарыстання таксама і натуральных багаццяў, сярод якіх у БССР адно з першых месц займае лясная гаспадарка.

Лозунг—«лес на службу індустрыялізацыі» набывае ў другой пяцігодцы сугубае значэнне. Рашэннем XVII з'езда пастаўлена перад лясной прамысловасцю задача павялічыць сваю прадукцыю ў параўнанні з 1932 г. у два разы, каб забяспечыць усё гіганцкае будаўніцтва другой пяцігодкі, намечаны рост вытворчасці прадметаў шырокага спажывання і інш.

Не гледзячы на тое, што лясной гаспадарцы і лясной прамысловасці БССР аддавалася асобая ўвага партыяй, урадам, аднак сучаснае становішча гэтай важнейшай галіны народнай гаспадаркі БССР яшчэ далёка нездавальняюча; застаецца нявырашаным рад важнейшых праблем, ад якіх залежыць правільная пастаноўка лясной гаспадаркі і лесаэксплаатацыі, павышэнне прадукцыйнасці лясной гаспадаркі, а адсюль і лепшае забяспечанне растучага попыту нашай соцыялістычнай гаспадаркі, гіганцкага будаўніцтва краіны Саветаў.

Трэба памятаць аб тым, што да лясоў БССР, да яе інтэнсіўнай лясной гаспадаркі нельга падыходзіць з аднолькавай меркай, як да лясоў і лясной гаспадаркі Поўначы, Сібіру, дзе эксплаатуюцца глухія, неабдымныя і неасвоеныя лясныя масівы з надзвычай высокім процантам перастойных насаджэнняў.

Рашуча выкарчоўваючы рэшткі шкодніцкіх тэорый і практыкі ў галіне лясной гаспадаркі, неабходна забяспечыць хутчэйшую праработку, абагуленне і давядзенне на месцы цвёрдых, большэвіцкіх, марксісцка-ленінскіх установак у лясной гаспадарцы і лесаэксплаатацыі. Гэта неадкладная задача ўсёй лесагаспадарчай сістэмы, усёй грамадскасці на чале з Наркамлесам Саюза. Чым хутчэй мы гэта зробім, тым хутчэй пазбавімся частых скажэнняў, хістанняў і ўхілаў у сваёй практычнай рабоце, папярэдзім страты як у лясной, так і ў народнай гаспадарцы ў цэлым.

Гэтыя ўстаноўкі ў галіне лясной гаспадаркі і лесаэксплаатацыі ўяўляюцца нам, прыкладна, у выглядзе такіх асноўных палажэнняў, праблем і задач:

1. **Лясная гаспадарка з'яўляецца непарыўнаю часткай усёй народнай гаспадаркі і павінна быць падпарадкавана ў сваіх планах і развіцці агульным планам развіцця народнай гаспадаркі.**

2. **Асноўнай задачай лясной гаспадаркі з'яўляецца магчыма поўнае задавальненне попыту народнай гаспадаркі, соцыялістычнага будаўніцтва.**

3. **Максімальна павысіць прадукцыйнасць лясоў** можна, з аднаго боку, поўным і рацыянальным выкарыстаннем драўніны (распрацоўка

верхавін, утылізацыя пнёў, галля (і т. п.), узмацненнем прамежкавага карыстання (выбарка перастою, несеннікаў); з другога—узмацненнем догляду за лесам. Прадуманым у мэтавым напрамку доглядам за лесам мы папярэджваем непажаданую змену парод, узмацняем прырост драўніны, паляпшаем якасць асартыментаў, можам надаць лесааднаўленню ўхіл у патрэбным нам напрамку.

Ва ўмовах дубова-ясеневай гаспадаркі БССР, надзвычай змешанай, разнастайнай па ўзросту і ўкрапленай у іншыя пароды, мэтазгодней прымяняць не звычайныя канцэнтраваныя суцэльна-лесасечныя рубкі, а выбарачныя ці палепшаныя (паступовыя і інш.) на канцэнтраваных участках—адводах. Такім чынам не будзе заўчасна знішчацца падрост гэтых каштоўных насаджэнняў, які праз 20—30 год можа даць высока-таварныя асартыменты (тым часам як пры рубцы зараз-жа пойдзе ў дровы) і, адначасова, унікнем значных выдаткаў на закультыванне вырубаемых плошчаў, бо пры ўмелай, паступовай і выбарачнай рубцы можна забяспечыць добрае натуральнае лесааднаўленне.

Спроба ажыццявіць суцэльныя канцэнтраваныя рубкі ў дубова-ясеневай гаспадарцы БССР на практыцы ператварылася ў сістэму дрэнных выбарачных рубак.

Нарэшце, неабходна арганізацыя спецыяльных мэтавых гаспадарак: дубова-ясеневых, альховых, бярозавых і на паасобныя асартыменты—баланс, фанера і інш.

4. **Рацыянальная эксплаатацыя лясной гаспадаркі.** У пэўных раёнах Саюза, у тым ліку і БССР, у інтарэсах забяспечання тэмпаў індустрыялізацыі, соцыялістычнага будаўніцтва мы будзем яшчэ некаторы час ісці па шляху значных перарубак гадавога прыросту. Аднак гэта ні ў якім разе не значыць, што мы ставім сабе мэтай звесці на нішто нашыя лясы: гэта часовае адступленне ад устаноўленых правіл вядзення лясной гаспадаркі, якое патрабуе кампенсацыі, адпаведнага разгортвання мерапрыемстваў у галіне лесааднаўлення.

Стаўшы ў галіне эксплаатацыі лесу ў асноўным на шлях канцэнтрацыі суцэльна-лесасечных рубак, не трэба забываць пра так званае прамежкавае карыстанне, пра догляд за лесам (прачыстка, прарэжванне, прахадныя рубкі, выбарка насеннікаў, перастою, уборка мёртвага і заражанага лесу, ветравалу, сухастою), што дасць значнае дадатковае карыстанне, якое даходзіць у Германіі да 70 і больш процантаў асноўнага (галоўнага карыстання), у нас-жа пакуль не больш 20—30 проц.

Далей, нельга ні ў якім разе абыйсці той факт, што з агульнай кубатуры дрэва на корані мы выкарыстоўваем у лесарапрацоўках не больш 60 проц., астатнія 40 проц. (верхавіны, галлё, пні, кара, іглы, лісце, нават маладняк) ідуць у адыход, кідаюцца ў лесе, гніюць і заражаюць яго. Тым часам **праблема хімізацыі лясной гаспадаркі, перапрацоўкі** драўнінных адыходаў (сухая перагонка, вытворчасць пластычных мас, гідроліз), атрымаўшая ўжо некаторае развіццё ў смалакурэнні, падсочцы, дзёгцекурэнні, спіртапарашковай справе, а таксама праблема брыкетавання хвоі на паліва, для ажыццяўлення якой ужо прыняты ў БССР канкрэтныя крокі,—адкрываюць асабліва багатыя перспектывы ў лясной гаспадарцы БССР, дадатковыя крыніцы даходнасці лесу. У недалёкім будучым мы навучымся здабываць з драўніны бялкі ў якасці прадуктаў харчавання і т. д.

Нарэшце, эксплаатацыя лясной гаспадаркі БССР павінна быць

накіравана ў бок асваення больш глухіх і яшчэ слаба эксплаатуемых лясных участкаў (па рацэ Нёману, у верхоўях Прыпяці і т. д.).

5. **Праблема аднаўлення неаблесіўшыхся лясных плошчаў,** а таксама аблясенне плошчаў, непрыдатных для сельскай гаспадаркі, на бліжэйшы перыяд павінна стаць адною з асноўных праблем лясной гаспадаркі. У адпаведнасці з інтэнсіўнасцю рубак павінны развівацца і мерапрыемствы па лесааднаўленню. Лесааднаўленне павінна ісці ў строга мэтавым напрамку, базуючыся на вопыце і планах народнай гаспадаркі, з максімальна магчымым уздзеяннем на біялагічную прыроду лесу шляхам строга прадуманага, навукова-абгрунтаванага планавага ўмяшання. Асабліва ўважліва трэба аднесціся да аднаўлення знікаючых каштоўных парод: дуба, ясеня.

Побач з шырокім развіццём культывавання неабходна забяспечыць натуральнае лесааднаўленне, якому ва ўмовах БССР, асабліва для лісцяных парод, выключна спрыяюць глебава-кліматычныя прадпасылкі (агарожа, узрыхленне, закрыццё пашы да рубкі, падсеў пад палогам лесу і інш.).

У галіне леса-культурнай справы, дзе маем цыкл 80—100 год, дапушчаныя памылкі сказваюцца не хутка. Таму трэба базавацца на строга навуковых і правераных на вопыце даных, штогод улічваючы ход штучнага і натуральнага лесааднаўлення, падагульняючы вопыт старых культур.

Ачыстка лесу, санітарны стан яго, барацьба са шкоднікамі, як непасрэдна звязаная з працэсамі лесааднаўлення задача, застаецца вельмі актуальнай у бліжэйшы перыяд. Тут асаблівай увагі заслугоўвае авіяхімічны метад барацьбы зляснымі шкоднікамі і пасеў лесу з аэраплана.

6. **Да аховы і зберажэння лясоў** ад пажараў, патраў, асабліва згубных для маладых насаджэнняў, побач з адпаведнымі мерамі (агарожа, проціпажарныя паласы, вышкі, вартаўнікі ў летні перыяд, тэлефонная сувязь і т. д.)—павінна быць прыцягнута ўвага шырокай грамадскасці.

7. **Асабліва асцярожны і прадуманы падыход патрэбен да выключэння ўчасткаў з лясного фонда БССР.** Пры гэтым неабходна ўлічваць узрастаючы попыт на драўніну, а таксама водаахоўнае, глебаахоўнае, стратэгічнае значэнне лясоў Беларусі; абаронныя і іншага спецыяльнага прызначэння лясы павінны быць строга вызначаны, агароджаны і ахаваны.

8. **Праблема механізацыі** лесараспрацовак і іншых лясных работ з'яўляецца першачарговай. XVII з'езд партыі паставіў як абавязковую задачу—павялічыць механізацыю асноўных лесазагатоўчых працэсаў па вывазцы ў 6 раз і па раздзелцы ў 3 разы. Без гэтага лясная гаспадарка будзе моцна адставаць ад тэмпаў і попыту соцыялістычнага будаўніцтва, затрымліваць іх.

Тут, ва ўмовах БССР, у першую чаргу павінна быць сканцэнтравана ўвага на механізацыі вывазкі (пад'язныя веткі, лежнеўкі, аўтовывазка), апрацоўку глебы пад культуры (трактары, фрэзеры, плугі «Экерта»), сплаў (плытагонныя агрэгаты, механізаваная цяга плытоў і выкатка з вады), а таксама на ўкараненне механічнай валкі, раскражоўкі і наогул увядзенне палепшанай пілы і тапара (канадскія і інш.).

9. **Далейшая перабудова арганізацыі лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці згодна рашэнняў XVII з'езда:** узняць арганізацыйную работу да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, шляхам пераходу ад

агульнага і абстрактнага да канкрэтнага кіраўніцтва, цеснай жывой сувязі з нізавымі звеннямі вытворчасці і кіраўніцтва, ліквідацыі функцыяналкі і абязлічкі ў рабоце, устанаўлення адзінаначалля і перабудовы апарата па вытворча-тэрытарыяльнаму прынцыпу. Забяспечыць умацаванне нізавога вытворчага звяна—лесаводчага і прарабскага ўчасткаў,—абавязкова ўвязваючы раёнаванне лясной гаспадаркі з адміністрацыйным раёнаваннем (леспрамгас, раён).

У найкарацейшы тэрмін закончыць пачатую рэарганізацыю лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці зверху да нізу на базе 6-ці гістарычных умоў тав. Сталіна, падпарадкаваўшы ўсе яе часткі, усе галіны агульным патрабаванням народнай гаспадаркі.

**Узмацніць увагу, аператыўнае і тэхнічнае кіраўніцтва трэста «Лесбел» асноўнымі леспрамгасамі**, выконваючымі праграму (Рэчыца, Осіповічы, Барысаў і інш.).

Нізавая вытворчая ячэйка лесазагатоўчай арганізацыі—леспрамгас—**павінна стаць сапраўднаю фабрыкай драўніны.** Яе задача не толькі рацыянальна эксплаатаваць лес, лесасечны фонд, але адначасова і аднаўляць сыравінную базу.

**Верхавы, выплавачны сплаў трэба перадаць леспрамгасам,** а за сплаўканторай пакінуць толькі транзітны. У галіне арганізацыі лясной гаспадаркі **ўстанавіць гарманічнае спалучэнне лесаводнай і лесаэксплаатацыйнай** частак адзінай лясной гаспадаркі.

Перад партыйнай і прафесіянальнай арганізацыямі Наркамлеса і леспрамгасаў стаіць вялікая і надзвычай важная работа—знішчыць беспрынцыпныя трэнні паміж работнікамі лесазагатовак і лесагаспадарчага фронту, якія згубна адбіваюцца на становішчы, інтарэсах і развіцці лясной гаспадаркі.

10. **Хутчэйшае правядзенне інвентарызацыі лясоў БССР.** Лясную гаспадарку БССР, яе сыравінную базу трэба ў найкарацейшы тэрмін прывесці ў дакладную вядомасць (па пародах, узросту, якасці, запасах); выпрацаваць мэтавы план вядзення лясной гаспадаркі ў адпаведнасці з попытам прамысловасці, будаўніцтва, экспарта, патрэбнасцямі шырокага рынку; поўнасцю ўлічыць прадукцыйныя сілы лясной гаспадаркі.

Карэнным чынам перабудаваць старую сістэму лесаўпарадкавання, прыстасоўна да сучаснага попыту народнай гаспадаркі, і адначасова максімальна спрасціць; у найкарацейшы тэрмін выявіць усю наяўнасць запасаў сыравіннай базы лясной гаспадаркі, увесь яе інвентар, скласці баланс драўніны, гібкі план эксплаатацыі, каб забяспечыць усебаковае, мэтазгоднае і планавае выкарыстанне лесу па цэльных буйных эканамічных раёнах.

11. **Выдзяленне лясоў мясцовага значэння з агульна-дзяржаўнага фонда не адпавядае ўжо інтарэсам народнай гаспадаркі ў цэлым,** бо не забяспечвае адзінага планавання, размеркавання, рацыянальнай распрацоўкі і поўнага скарыстання высокатаварных асартыментаў для ўзрастаючых патрабаванняў краіны, лесаэкспарта і спецыяльных заданняў. Таму **лясы мясцовага значэння павінны быць уліты ў агульна-дзяржаўны лясны фонд.**

12. **Далейшае захаванне ва ўмовах БССР трох лесазагатоўчых арганізацый** (Лесбел, НКПС-транслесгасы і Наркамзем—лясы мясцовага значэння) не выклікаецца неабходнасцю; трэба правесці ў жыццё даўнейшы праект пераходу да **адзінага лесазагатоўшчыка**—Лесбела, усклаўшы на яго забяспечанне лесам НКПС і мясцовых патрэб.

13. Паколькі сыравінная база—драўніна—паступова адыходзіць ад старых лесапільных дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, неабходна, у адпаведнасці з рашэннем урада БССР, **перагледзець геаграфічнае** размяшчэнне дрэваапрацоўчай прамысловасці ва ўвязцы з сыравіннаю базай і транспартам.

14. **У галіне працы** ў лесе асноўны ўпор трэба зрабіць на **шырокае ўкараненне брыгаднага, соцыялістычнага метадаў,** якія дагэтуль амаль зусім адсутнічаюць.

15. **Праблема кадраў**—усё яшчэ адно з найбольш вузкіх месц у галіне лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці БССР.

Каб унікнуць залежнасці лясной гаспадаркі ад выпадковых прыліваў і адліваў рабочай сілы, павысіць кваліфікацыю рабочай сілы, неабходна стварыць кадры пастаянных рабочых, шырока ўцягнуць жаночую працу, арганізаваць уласныя абозы. Пастаянным кадрам забяспечыць належнае бытавое і культурнае абслугоўванне. Арганізаваны набор рабочай сілы, сувязь з калгасамі на аснове двухбаковых абавязацельстваў з увядзеннем работы ў лесе ў планы і балансы рабгужсілы калгасаў—усё гэта дапаможа ўнікнуць затрудненняў з рабсілай. Асобай увагі заслугоўвае падбор і падрыхтоўка нізавых тэхнічных кадраў і рацыянальнае выкарыстанне маладых спецыялістаў.

16. **Усе лесагаспадарчыя мерапрыемствы павінны базавацца на строга-навуковых лесаводных асновах.**

На змену акадэмізму ў навукова-даследчай лясной справе павінны прыйсці канкрэтная работа, якая адказвала-б патрабаванням сёнешняга дня з улікам эканамічнага эфекта намечаных мерапрыемстваў.

Для пастаяннай жывой сувязі лесагаспадарчых арганізацый і асабліва іх нізавых вытворчых адзінак (леспрамгасаў, участкаў) з лясным навукова-даследчым інстытутам, з яго станцыямі, павінна быць прыцягнута шырокая грамадскасць, ячэйкі ІТР. **Праблема гаспадарчага асваення навукова-даследчых дасягненняў**—важнейшая задача ў галіне ўпарадкавання лясной гаспадаркі.

17. **Транспарт драўніны**—рашаючы фактар своечасовага забяспечання дрэваапрацоўчай прамысловасці сыравінаю, рабочых цэнтраў—дрывамі. Таму **праблема транспарта** (гужавога, аўто, воднага, чыгуначнага) павінна быць адной з першачарговых.

18. **Лясная гаспадарка і яе прамысловасць у мінулым была бедна асноўнымі капіталамі,** абаротныя сродкі праходзілі тры вытворчыя стадыі (лесараспрацоўку, сплаў, заводскую апрацоўку) пры значнай удзельнай вазе ў балансе банкаўскага крэдыта, што стварыла пастаяннае фінансавае напружанне. Гэта галіна гаспадаркі настойліва патрабуе **павелічэння капіталаўкладанняў у адпаведнасці з яе характарам і сапраўдным попытам,** асабліва ва ўмовах інтэнсіўнай лясной гаспадаркі БССР.

Паколькі лясная гаспадарка з'яўляецца значнай крыніцай валютнага даходу, мы ўправе патрабаваць адпаведнай увагі да яе і адпаведных укладанняў. З другога боку, улічваючы абмежаванасць капіталаўкладанняў у лясную гаспадарку, мы павінны асабліва прадумана і беражна выкарыстоўваць гэтыя сродкі, каб мець ад іх максімальны эфект.

* * *

Выходзячы з таго палажэння, што лясная гаспадарка нараўне з іншымі галінамі заклікана служыць інтарэсам народнай гаспадаркі ў цэлым, недапушчальна прадаўжаць ранейшую неплянавую эксплаатацыю лясоў, недаацэньваць зберажэнні, ахову і лесааднаўленне.

Пры выключных тэмпах індустрыялізацыі, будаўніцтва БССР, росце попыту на экспарт і т. д. і т. д.—роля лясной гаспадаркі БССР надта вялікая. У мінулым мы яе запусцілі, зараз неабходна ў найкарацейшы тэрмін навярстаць страчанае, падцягнуць адстаючую лясную гаспадарку, інакш яна будзе замаруджваць узятыя партыяй і ўрадам тэмпы развіцця іншых галін народнай гаспадаркі і соцыялістычнага будаўніцтва ў цэлым. Трэба, каб усе совецкія, партыйныя і прафесіянальныя органы, уся совецкая грамадскасць стала тварам к лесу, к лясной гаспадарцы. Трэба рашуча адкінуць памылковую, шкодную, дэмабілізуючую думку, што «лес сам нарасце», што «на наш век лесу хопіць» і рашуча ўзяцца за развіццё гэтай важнейшай ва ўмовах БССР галіны народнай гаспадаркі.

---

П. Корчык

# Нацыянал-апартунізм у КПЗБ і ідэалагічная спадчына „Беларускай рэволюцыйнай арганізацыі“

Выкрыццё ў БССР контррэволюцыйнай нацыяналістычнай беларускай арганізацыі, на чале якой стаялі былыя дзеячы «Грамады» і «Змагання»—Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Дварчанін, Гаўрылюк і інш., а таксама дэмаскаванне агентаў польскай дэфэнзівы і беларускага нацыянал-фашызма ў верхавіне ТБШ нанеслі жорсткі ўдар махінацыям беларускага нацыянал-фашызма і польскага імперыялізма. З гэтага пункту погляду, асабліва-ж калі прыняць пад увагу, што асноўнаю мэтай гэтых агентур было нанесці рэволюцыйнаму руху ўдар у рашаючы момант,—дэмаскаванне іх павінна расцэньвацца як перамога рэволюцыйнага руху. Але разам з тым тая акалічнасць, што гэтым агентам удалося пранікнуць у рэволюцыйны рух, а іх дзейнасць на працягу доўгага часу заставалася нявыяўленай, сведчыць аб невыстарчальнай большэвіцкай пільнасці КПЗБ.

Польскі імперыялізм надае асаблівае значэнне Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, як плацдарму для ваеннага нападу на СССР. З гэтай прычыны побач з узмоцненым тэрорам польская дэфензіва прымяняе асабліва ўтончаныя метады па разгрому і разлажэнню рэволюцыйнага руху на Зах. Беларусі і Зах. Украіне. Акупацыя і дзікі нацыянальны ўціск польскага імперыялізма ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне аблягчае беларускай і ўкраінскай буржуазіі маскаваць сваю контррэволюцыйную дзейнасць плашчом барацьбітоў за нацыянальнае вызваленне.

Магутны размах і сіла нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, які ўзмацняецца пад непасрэдным уплывам БССР і развіваецца пад кіраўніцтвам КПЗБ, вымушае беларускую буржуазію шырэй прымяніць побач з метадамі адкрытай барацьбы—метады маскавання рэволюцыйнай фразай, метады правакацыі і закансціраванай дзейнасці сваіх агентаў у арганізацыях рэволюцыйнага руху.

Усё гэта патрабуе ад партыі ўзмоцненай барацьбы з нацыяналізмам, ідэалагічнай загартаванасці яе кадраў, большэвіцкай рэволюцыйнай непрымірымасці ў барацьбе з нацыяналістычнай ідэалогіяй і хітрымі махінацыямі класавага ворага. Рад акалічнасцей, у першую чаргу не зжытая да канца нацыяналістычная спадчына розных увайшоўшых у партыю груп, слабасць пролетарскага ядра ў партыі, націск на яе дробна-буржуазнай сялянскай стыхіі, адбіўся на замаруджванні тэмпаў большэвізацыі КПЗБ. Слабасці і недахопы КПЗБ у

гэтых умовах у пэўнай меры аблягчалі дзейнасць агентур беларускага нацыянал-фашызма і польскага імперыялізма.

Гэтымі прычынамі тлумачыцца той факт, што на працягу раду год вядомыя кіраўнікі беларускай контррэволюцыі, якія ў час грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі не раз праяўлялі сябе, як адкрытыя і непрымірымыя ворагі Кастрычніцкай рэволюцыі і агенты польскіх, нямецкіх, французскіх і іншых імперыялістаў, у тым ліку людзі, якія арганізоўвалі паўстанні супроць савецкай улады і актыўна дапамагалі інтэрвентам, што гэтыя людзі маглі пралезці ў рэволюцыйныя арганізацыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і нават станавіцца на чале іх, адыгрываць ролю рэволюцыянераў, уваходзіць у давер'е партыі, а некаторыя нават уступіць у партыю. У выніку гэтага падобным тыпам удавалася сваю брудную справу давесці да таго, што яны маглі эміграваць у БССР у якасці «рэволюцыйных барацьбітоў» і займаць там адказныя пасады з мэтай арганізацыі кулацтва, падрыву соцыялістычнага будаўніцтва, развальвання калгасаў і папросту весці шпіёнскую работу на карысць польскага або нямецкага генеральных штабоў, падрыхтоўваць інтэрвенцыю імперыялістычных дзяржаў, каб паняволіць БССР і разграміць СССР.

Рад іншых, менш яркіх, але ўсё-ж важных фактаў, таксама сведчыць аб недастатковай барацьбе нашай партыі супроць буржуазнага беларускага нацыяналізма, супроць націску на нашы рады нацыяналістычнай ідэалогіі, супроць нацыянал-апартунізма ў нашых уласных радах. Рэзалюцыя II пленума ЦК КПП, як і студзеньская рэзалюцыя ЦК КПЗБ, зусім правільна падкрэсліваюць, што КПЗБ не дала адразу належнага адпору беларускаму нацыяналізму, які за апошні час разгарнуў асаблівую актыўнасць у барацьбе супроць СССР і рэволюцыйнага руху ў Польшчы, не дэмаскавала своечасова контррэволюцыйных махінацый беларускага нацыянал-фашызма. Здрадніцтва з боку паасобных членаў галоўнай управы ТБШ, іх агітацыя за супрацоўніцтва ТБШ з польскімі фашысцкімі арганізацыямі і беларускай хэдэцыяй, іх удзел у правядзенні свята беларускай контррэволюцыі—гадавіны пракламавання так званай БНР (Беларускай народнай рэспублікі), іх контррэволюцыйныя выступленні на працэсе галоўнай управы ТБШ,—доўгі час мы не толькі не выкрывалі перад масамі, а памылкова ацэньвалі, як хістанні інтэлігенцкіх элементаў. Паасобныя члены партыі, асабліва працаваўшыя ў арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху, самі паддаваліся націску нацыяналізма і цягнуліся ў хвасце агентаў нацыянал-фашызма.

Недастатковасць большэвіцкай пільнасці і непрымірымасці ў барацьбе з буржуазным нацыяналізмам з'яўляецца асабліва грознай небяспекай у даны момант, у момант абвостранай класавай барацьбы і непасрэдна навісшай пагрозы імперыялістычных войн, асабліва контррэволюцыйнай вайны супроць СССР.

Барацьба з нацыянал-апартунізмам стаіць перад партыяй як асабліва актуальная задача. Але для таго, каб да канца перамагчы нацыянал-апартунізм і гніла-ліберальныя адносіны да націску буржуазнага нацыяналізма, мы павінны бязлітасна ўскрыць іх карэнні. **Карэнні гэтыя ляжаць у нязжытых яшчэ да канца рэштках нацыяналістычнай ідэалогіі, унесеных у нашу партыю разнастайнымі групамі і элементамі,** якія ўвабрала партыя па меры свайго росту.

**Нацыяналістычныя элементы тармазілі і тармозяць да гэтага часу працэс большэвізацыі нашай партыі. Нацыянал-апартунізм у КПЗБ—гэта ў першую чаргу спадчына непернагражанай да канца нацыяналі-**

**стычнай ідэалогіі беларускай, т. зв. «рэволюцыйнай» арганізацыі, якая ўлілася ў партыю ў канцы 1923 г.**

Надзвычай слабая работа ў галіне павышэння ідэалагічнага ўзроўню нашай партыі, выяўлення і высвятлення ўсяго, што засмечвала ідэалогію нашай партыі, спрыяла і спрыяе існаванню і пастаяннаму адраджэнню нацыянал-апартунізма. КПП, выконваючы пад кіраўніцтвам свайго аднаўленага ЦК большэвіцкую лінію ў барацьбе з ухіламі, і ў першую чаргу ў барацьбе з праваапартуністычнай групай Варскага-Кастшэвы, правяла ўжо агромную работу для ўзмацнення ідэалагічных устояў партыі, перамагання перажыткаў люксембургіянства і меншавіцкай спадчыны ППС-лявіцы. Але адпаведная работа ў КПЗБ у адносінах яе мінулага бадай яшчэ не распачата. А якраз спадчына гэтай мінуўшыны ў нашых спецыфічных умовах рабіла і робіць націск на нашу партыю ў непараўнальна большай меры.

КПЗБ складалася ў асаблівых умовах. Заходняя Беларусь мае слаўныя рэволюцыйныя традыцыі буйных баёў пролетарыята ў 1905 г. пад кіраўніцтвам большэвіцкіх арганізацый, а таксама гераічную барацьбу пролетарыята і сялянскіх мас пад кіраўніцтвам большэвікоў за савецкую ўладу супольна з Чырвонай арміяй у 1918—20 гг. Вытокі КПЗБ, значыць, былі іменна ў гэтых арганізацыях, з якіх паўсталі арганізацыі КПРП на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Кадры гэтых арганізацый, хоць значна лікам зменшыўшыяся пад ударамі затрыумфаваўшай контррэволюцыі, пасля грамадзянскай вайны, асабліва пасля польска-савецкай вайны, былі і засталіся ядром КПЗБ.

У тыпова сялянскай краіне з адносна слабым прамысловым пролетарыятам і перавагай у ім дробна-прамысловага і саматужна-рамесніцкага тыпу рабочых, цесна звязаных і паддаючыхся ўплыву дробнамяшчанскага і сялянскага асяроддзя, прытым у краіне з асаблівым пераплётам нацыянальных адносін,—мы маем, з аднаго боку, значны ўплыў і традыцыі рэфармісцкіх социял-здрадніцкіх партый (ППС, Бунд і інш.), з другога—вельмі значны ўплыў нацыяналізма.

Перамога пролетарскай рэволюцыі ў былой царскай імперыі, насяванне рэволюцыйных падзей у Заходняй Еўропе і ў самой Польшчы ва ўмовах узрастаючай эксплаатацыі рабочага класа, збяднення мас сялянства і вострага нацыянальнага ўціску, спрыяюць шпаркай адбудове і росту комуністычных арганізацый у Заходняй Беларусі, у першую чаргу за лік уцягнення лепшых рабочых (Беласток, Вільна, Брэст, Гародня) і сялянскіх элементаў (Берасцейшчына). Але гэты рост ва ўмовах быстрай радыкалізацыі мас ішоў таксама і за лік наплыву цэлых груп левых апазіцый розных згодніцкіх рабочых і сялянскіх партый (Бунд, ПЦ, ППС, анархісты, Беларуская рэволюцыйная арганізацыя і т. д.), пры гэтым не толькі іх радавых членаў, але часта і кіраўнікоў. Уваходзячы кампактнаю масай у партыю, кожная з гэтых груп прыносіла з сабою значны багаж сваіх згодніцкіх рэфармісцкіх, нацыяналістычных дробна-мяшчанскіх традыцый і ідэалогій.

Усё гэта патрабавала паглыбленай ідэалагічнай работы і бязлітаснай крытыкі чуждых ідэалагічных уплываў, асабліва напружанай барацьбы за большэвізацыю партыі. У сапраўднасці-ж, з прычыны слабасці асноўных большэвіцкіх і эсдэкаплёўскіх[1]) кадраў, працэс перавыхоўвання масы новых членаў партыі і выкарчоўвання перажыткаў класава-чуждай ідэалогіі быў моцна затруднен і затармажан. Не менш важнай акалічнасцю, тармазіўшай гэты працэс, быў той факт, што

[1]) **Соцыял-дэмакратыя Польшчы і Літвы.**

кіраўніцтва ўсёй КПП знаходзілася тады ў руках правай групы Касташэвы-Варскага, праяўляўшай ліберальныя адносіны да выхадцаў з рэфармісцкіх і нацыяналістычных партый і прымірэнцтва да ўплыву на партыю варожых ідэалогій.

Сярод іншых груп, якія ўліліся ў КПЗБ, асаблівую ўвагу трэба аддаць Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Гэтая група ўнесла і немінуча павінна была ўнесці ў нашу партыю ідэалагічную засмечанасць, аслабляючы яе адпорнасць і пільнасць у барацьбе з беларускім нацыяналізмам, які стараўся стварыць у ёй грунт для нацыянал-апартуністычных ухілаў, спрыяючы пастаяннаму адраджэнню гэтых ухілаў на працягу ўсяго існавання КПЗБ на сёнешні дзень. Не падлягае ніякаму сумненню факт, што БРА заставалася па сутнасці нацыяналістычнай арганізацыяй, а некаторыя яе дзеячы прышлі к партыі як свядомыя агенты беларускага нацыяналізма.

Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя вышла з нетраў контррэвалюцыйнай буржуазнай нацыяналістычнай партыі «Беларускай соцыялістычнай грамады», адным з закладчыкаў якой з'яўляецца вядомы цяпер беларускі нацыянал-фашыст А. Луцкевіч. Асноўныя кіруючыя кадры БРА вышлі з партыі беларускіх эсэраў, якая ўзнікла ў выніку расколу Беларускай соцыялістычнай грамады—на беларускіх эсдэкаў (меншавікоў) і эсэраў. Ідэалогія і контррэвалюцыйная роля беларускіх эсэраў у барацьбе супроць Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі, у арганізацыі контррэвалюцыйных паўстанняў супроць совецкай улады (напр., арганізацыя кулацкага слуцкага паўстання), у дапамозе інтэрвентам, асабліва імперыялістычным планам Пілсудскага—добра ўсім вядомы.

Яўнае здрадніцтва і контррэвалюцыйнасць беларускіх нацыяналістычных партый выклікае глыбокае хваляванне ў нізах гэтых партый, ахапляючых пераважна сялянства, нізавую інтэлігенцыю і поўінтэлігенцыю. Польская акупацыя, жорсткі нацыянальны ўціск, аднаўленне панавання памешчыцтва на вёсцы з усёй нагляднасцю выкрывалі перад масамі ўсю ілжывасць лозунгаў беларускіх меншавікоў і эсэраў аб стварэнні незалежнай Беларускай народнай рэспублікі, вядома, пад пратэктаратам Польшчы. Фармаванне пад гэтымі лозунгамі ваенных аддзелаў у дапамогу Пілсудскаму і арганізацыя контррэвалюцыйных паўстанняў супроць совецкай улады выклікалі абурэнне мас. Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўмацаванне дыктатуры пролетарыята ў БССР усё больш пераконвала гэтыя масы і звязаныя з імі нізы меншавіцкіх і эсэраўскіх арганізацый у правільнасці большэвіцкага рэвалюцыйнага шляху, у правільнасці ленінскай нацыянальнай палітыкі. Пад уплывам гэтых акалічнасцей у 1921 г. узнікла апазіцыйная плынь у партыі беларускіх эсэраў, якая пазней парывае з партыяй эсэраў і афармляецца як «Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя», якая ставіць сваёй мэтай барацьбу з польскай акупацыяй і аб'яднанне Заходняй Беларусі з БССР.

Аднак, адносіны БРА да асноўных пытанняў большэвіцкай ідэалогіі, стратэгіі і тактыкі былі пад лічынай блытанай фразеалогіяй па сутнасці **негатыўныя і варожыя,** бо ў іх пераважалі эсэраўскія ўстаноўкі. Стоячы фармальна на пазіцыі советаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, БРА па сутнасці займала **негатыўную пазіцыю адносна дыктатуры і гегемоніі пролетарыята, зразумела рабоча-сялянскі ўрад, як кааліцыю «рэвалюцыйных» рабочых і сялянскіх партый, а тактыку адзінага фронта, як блок усіх так званых соцыялістычных партый.** Нацыянальнае пытанне расцэньвалася БРА не як састаўная падпарад-

каваная агульным задачам пролетарыята частка рэволюцыйнай стратэгіі, а як **самамэта**. Глыбока караніліся таксама эсэраўскія погляды аб бясклрасавасці беларускага народу, **адмаўленне існавання беларускай буржуазіі і расслаення ў беларускай вёсцы, тэорыя аб самабытных шляхах развіцця беларускага народу, як, напр., дамарошчаная тэорыя аб тым, што нацыянальнае вызваленне Беларусі тым самым вырашае і пытанне класавага вызвалення пролетарыята і сялянства.**

З такой пастаноўкі пытання, прама супярэчлівай большэвіцкай пастаноўцы, рабіўся вывад, што шлях да вызвалення вядзе праз адзіны нацыянальны фронт барацьбы супроць акупацыі. Ясна, што, застаючыся на гэтых пазіцыях, БРА не магла весці барацьбу з польскай акупацыяй, і таму зусім невыпадковымі былі такія крокі БРА як падтрыманне ў час выбараў у сойм у 1923 г. спісу блока нацыянальных меншасцей у Польшчы. Усё гэта сведчыць аб тым, што БРА была тыповай дробна-буржуазнай нацыяналістычнай арганізацыяй, левым крылом буржуазнага лагера, аб развіцці якой у цэлым у напрамку комунізма не магло быць і гутаркі. У гэтай арганізацыі адбываўся падвойны працэс: кулацкія і звязаныя з імі інтэлігенцкія элементы ішлі назад да эсэраўшчыны, бядняцка-серадняцкія элементы хісталіся ў бок комунізма.

Абавязковай умовай забяспечання магчымасці развіцця членаў БРА ў бок комунізма з'яўляўся разгром да канца яе дробна-мяшчанскай ідэалогіі, бязлітасная крытыка ўсіх яе ўстановак і поўнае адмаўленне ад іх. Уваходзячы ў кантакт з паасобнымі комуністычнымі арганізацыямі на падставе штодзеннай работы, паасобныя члены БРА з вялікімі цяжкасцямі перамагалі сваё эсэраўскае мінулае і набліжаліся да комунізма, але гэты працэс быў толькі ў пачатковай стадыі, і нават элементы, якія ішлі да нас, не даспелі да ўключэння яе ў КПЗБ. На канферэнцыі БРА ў канцы снежня 1923 г. была, праўда, аднагалосна прынята пастанова аб тым, што БРА ў цэлым павінна ўліцца ў КПЗБ, але асноўным момантам гэтай пастановы было **не асуджэнне ўсёй сваёй ідэалогіі і адмаўленне ад яе, не цвёрдае ўсваенне асноў большэвізма, а прыняцце нацыяналістычных памылак II з'езда КПРП як уступак яе нацыяналістычнай дробна-мяшчанскай ідэалогіі.**

Такім чынам, БРА ўлілася ў партыю са сваім нязжытым эсэраўскім нацыяналістычным багажом, перамаганне якога ў самой партыі было затруднена нацыянал-апартуністычнымі памылкамі на II з'ездзе КПРП. Устаноўкі БРА, яе эсэраўскае мінулае ні на самой канферэнцыі, ні пасля не былі раскрытыкаваны і рэвізаваны. Перавыхаванне гэтай уліўшайся ў партыю ідэалагічна чуждай большэвізму кампактнай масы, многія з членаў якой яшчэ нядаўна актыўна змагаліся супроць Кастрычніцкай рэволюцыі, прымалі ўдзел у слуцкім паўстанні або сфармаваных у дапамогу Пілсудскаму беларускіх ваенных аддзелах, патрабавала велізарнай ідэалагічнай работы. Толькі на падставе гэтай работы маглі быць выяўлены свядомыя агенты беларускага нацыяналізма ў радах БРА. Толькі ў выніку гэтай работы магчым быў адсеў усіх класава-чуждых і варожых элементаў.

Ясна што. ў гэтых умовах толькі паасобныя б. члены БРА ў працэсе большэвізацыі ўсёй КПЗБ паступова і з трудом перамагалі сваё эсэраўскае мінулае. Найбольш класава-чуждыя элементы адышлі ад партыі ўжо ў першыя месяцы пасля іх механічнага ўключэння ў партыю (у тым ліку адзін з трох кааптаваных са складу БРА членаў ЦК КПЗБ). Частка-ж, астаючыся ў партыі, з'ўлялася носьбітамі нацыяналістычных і кулацкіх ухілаў, а таксама спрыяючай глебай, на якой

беларуская буржуазія і польская дэфензіва маглі лётка ўзгадаваць сваіх агентаў, правакатараў з мэтай развалу нашай партыі.

Гэта асабліва ярка мы бачым на прыкладзе т. зв. «сэцэсіі». Іменна толькі ва ўмовах наяўнасці ў партыі цэлай групы з нязжытым нацыяналістычным эсэраўскім мінулым, ва ўмовах, калі соцыяльны склад нашай партыі быў (і застаецца да гэтага часу) пераважна сялянскім, агенты беларускай буржуазіі і польскай ахранкі Ігнатоўскі і Гурын маглі асмеліцца спрабаваць апанаваць кіраўніцтвам партыі, а калі гэтая іх спроба не ўдалася, арганізаваць апазіцыю з ярка выражанай эсэраўскай ідэалогіяй і спрабаваць раскалоць нашу партыю і пацягнуць за сабою якраз часткі тых партарганізацый, якія ўвабралі ў сябе б. арганізацыі БРА. Зразумелая рэч, не выпадкова многія з б. кіруючага актыва БРА апынуліся ў радах сэцэсіі (**Сталевіч, Лекса, Капуцкі** і інш.), ды нават і тыя, якія, як напрыклад, аўтар гэтага артыкула, асудзілі сэцэсію і выступалі на барацьбу з ёю, зрабілі гэта не адразу, а ўключна да III з'езда КПП і на самым з'ездзе праявілі хістанні. Так, напрыклад, выступаючы на III з'ездзе супроць сэцэсіі, і асуджаючы яе, я адначасова лічыў тады і выказваў сваю думку, што поспехам сэцэсіі спрыяла існуючая нібыта ў кіраўніцтве КПП і КПЗБ недаацэнка нацыянальнага пытання, у той час, калі ў сапраўднасці падставай для ўзнікнення сэцэсіі была не зжытая ў часткі партыі нацыяналістычная ідэалогія БРА, а абставінамі, спрыяючымі яе развіццю і затрудняючымі барацьбу з ёю, была спадчына правага кіраўніцтва ў КПП і нацыянал-апартуністычная памылка II з'езда КПРП і II канферэнцыі КПЗБ.

Барацьба з сэцэсіяй ускалыхнула партыю і безумоўна была важным этапам у працэсе большэвізацыі КПЗБ, асабліва ў справе асваення большэвіцкай лініі па сялянскаму і нацыянальнаму пытанню, завастрыўшы ўвагу партыі на барацьбе з нацыяналізмам і нацыянал-апартунізмам. Вялікае значэнне мелі ў гэтым напрамку пастановы V кангрэса Комінтэрна і III з'езда КПП, якія рашуча раскрытыкавалі правае кіраўніцтва КПП у асобе групы Варскага-Кастшэвы.

Аднак, работа па перамаганню нацыяналістычнай спадчыны БРА ўсё-ж да канца не была праведзена. У адносінах да былых сэцэсіяністаў быў праяўлен лібералізм паўторным прыняццем іх у партыю. Парткіраўніцтва, звычайна, здавальнялася толькі агульнымі заявамі б. сэцэсіяністаў аб іх разрыве з сэцэсіяй, не правяло індывідуальнага адсеву, не правярала на справе шчырасці іх заяў.

III канферэнцыя КПЗБ, даўшы ацэнку контррэволюцыйнай групе сэцэсіі і крытыку яе ўстановак, не звязала ўзнікнення сэцэсіі са спадчынай БРА і не дала ацэнкі і крытыкі гэтай арганізацыі. Трэба з усёй сілай падкрэсліць, што і па сёнешні дзень гэта работа не праведзена. Мы не адзін раз сустракаліся са спробамі ідэалізаваць БРА (Сталевіч і інш.). Адказнасць за гэта цалкам ляжыць на кіруючай групе ў КПЗБ, і ў першую чаргу асабліва на мне, як былым члена БРА, найпершым абавязкам якога перад партыяй была ўсебаковая вычарпальная крытыка нацыяналістычнага багажа БРА.

Неперамажаная да канца нацыяналістычная спадчына БРА была ў тым ці іншым выглядзе крыніцай адраджаючыхся нацыянал-апартуністычных канцэпцый у КПЗБ, у першую чаргу тэорыйкі аб **безбуржуазнасці беларускага народу**, якая знашла найбольш яркае выражэнне ў артыкуле Сталевіча ў часопісе «Полымя» і была падвергнута крытыцы з боку ЦК КПЗБ. Але наколькі гэтыя погляды глыбока праніклі ў нашу партыю, сведчыць хоць-бы той факт, што ў пастановах пар-

тыі і партыйнай літаратуры да I з'езда КПЗБ (1928 г.) у ацэнцы расстаноўкі класавых сіл на Зах. Беларусі нідзе не сустракаем яснага і выразнага акрэслення **ролі беларускай буржуазіі.**

Адсюль выцякала і няправільная ацэнка ролі беларускай інтэлігенцыі, вышаўшай пераважна з асяроддзя беларускай буржуазіі і кулацтва, прыпісванне ёй рэволюцыйнай ролі ў барацьбе супроць польскай акупацыі, разгляданне яе, як авангарда нацыянальна-вызваленчага руху. Гэта мела фатальны ўплыў на нашу **палітыку кадраў** у арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху, якія на практыцы часта вылучаліся галоўным чынам (асабліва гэта датычыць кіруючых кадраў) з асяроддзя інтэлігенцыі, не гледзячы на тое, што значная частка гэтых людзей мела за сабою выразнае контррэволюцыйнае мінулае.

Яркім прыкладам гэтага з'яўляюцца нашы адносіны да складу кіруючай верхавіны «Грамады» і «Змагання». Памылкі, якія былі дапушчаны нашай партыяй адносна БРА, у асноўных рысах былі паўтораны і ў адносінах **да выхадцаў з розных беларускіх контррэволюцыйных арганізацый, прымазаўшыхся да нацыянальна-вызваленчага руху.**

У выніку агульнага росту рэволюцыйнага ўздыму ў Польшчы і ўплыву КПЗБ, у Заходняй Беларусі ў 1925—26 гг. нацыянальна-вызваленчы рух набыў велізарны размах, які выліўся ў шырокую сапраўды масавую стотысячную арганізацыю «Беларускай сялянска-работніцкай грамады». Беларуская буржуазія і польская дэфензіва паставілі перад сабой задачу—аўладаць гэтым рухам, каб разваліць яго і ў рашаючы момант нанесці яму ўдар у спіну. У выніку ідэалагічнай і араганізацыйнай расхлябанасці і недастатковай пільнасці з боку кіраўніцтва КПЗБ беларускай буржуазіі і польскай дэфензіве лёгка ўдаецца праціснуць сваіх агентаў у ЦК «Грамады» і пасольскі клуб «Змаганне».

Нашы гніла-ліберальныя адносіны да заядлых беларускіх контррэволюцыянераў, якія перафарбаваліся ў рэволюцыянераў і барацьбітоў за нацыянальнае вызваленне, непасрэдна выцякалі з адсутнасці ў нас чоткай ацэнкі ролі беларускай буржуазіі і беларускіх нацыяналістычных партый у час Кастрычніцкай рэволюцыі, з непераможанай да канца нацыяналістычнай спадчыны БРА, з невыкарчаванага да канца з нетраў нашай партыі нацыянал-апартунізма. Гэта і палегчыла Луцкевічам, Астроўскім, Рак-Міхайлоўскім, Дварчаніным, Бурсевічам і інш. пасрэдна ці беспасрэдна захватваць у свае рукі рад камандных вышынь у арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху.

Партыя не выкрыла перад масай контррэволюцыйнага мінулага гэтых паноў, не падвергла публічнай крытыцы іх буржуазнай нацыяналістычнай ідэалогіі, а лёгкадумна на слова паверыла шчырасці заяў з'еўшых зубы палітычных машэннікаў. Такіх адносін да гэтых паноў не магло-б быць, калі-б наша партыя не толькі прыняла праграмныя лозунгі большэвіцкай нацыянальнай палітыкі, а на справе ўсвоіла асноўныя прынцыпы і мэтавую ўстаноўку гэтай палітыкі, якая грунтуецца на непрымірымай барацьбе супроць усякага нацыяналізма і на няўхільным інтэрнацыянальным выхаванні мас. Спробы агентаў беларускага нацыяналізма прышчапіць нацыянальна-вызваленчаму руху нацыяналістычную ідэалогію не сустракалі з боку партыі публічнага выкрыцця, а ў лепшым выпадку канчаліся «вырашэннем» гэтых пытанняў «па-сямейнаму»—павярхоўнай і ў дадатак непаслядоўнай кры-

тыкай, якая даводзілася толькі да вузкага замкнутага кола самой верхавіны нацыянальна-вызваленчага руху.

Трэба з усёй рашучасцю падкрэсліць, што гэтыя прымірэнчыя і гніла-ліберальныя адносіны кіраўніцтва КПЗБ мелі месца наперакор выразным дырэктывам і перасцярогам з боку ЦК КПП. Укажам тут на два найбольш яркія прыклады:

Калі ў час выбараў у сойм у 1928 г. група Дварчаніна-Уласава адкрыта выступала з платформай адзінага нацыянальнага фронта, ЦК КПП даў правільную дырэктыву рашуча змагацца супроць гэтай групы і выкрыў яе перад масамі. Контррэволюцыйныя агенты, сустрэўшы рашучы адпор, відаць у згодзе з дэфензівай, быстра пераарыентаваліся, выступілі з «самакрытыкай» і ілжывым адмаўленнем ад сваёй платформы. Гэта было даволі, каб сакратарыят ЦК КПЗБ падтрымаў высунуты імі спіс у сойм на чале з Дварчаніным, наперакор выразнай дырэктыве ЦК КПП.

Таксама ў 1933 г., калі пасля выступленняў Марцінчыкаў і Стэцкевічаў за супрацоўніцтва ТБШ з фашысцкімі польскімі арганізацыямі, пасля іх контррэволюцыйных выступленняў на працэсе ТБШ, ЦК КПП даў выразныя ўказанні аб безадкладным разгортванні шырокай кампаніі дэмаскавання ў масах здрадніцкай работы членаў галоўнай управы ТБШ, сакратарыят ЦК КПЗБ не разгарнуў зараз-жа гэтай кампаніі, а адпісваўся супакойваючымі запэўніваннямі, што паводле атрыманых ім вестак становішча ў верхавіне ТБШ не настолькі дрэннае, як аб гэтым можна меркаваць па буржуазнай прэсе.

Усё гэта палягчала дзейнасць агентаў польскай дэфензівы і беларускага нацыянал-фашызма ў арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху, спрыяла іх папулярнасці ў масах, падымала іх аўтарытэт, давала ім магчымасць пралазіць у партыю і пранікаць у БССР з прызнанай маркай «заслужаных рэволюцыянераў» і нават комуністаў. І калі махінацыі класавага ворага ў канчатковым выніку ўсё-ж такі не ўдаліся, калі магутны нацыянальна-вызваленчы рух у Зах. Беларусі, не гледзячы на прысутнасць у яго верхавіне агентаў дэфензівы і заядлых контррэволюцыянераў, не гледзячы на прошукі гэтых агентаў, усё-ж **бурна развіваўся пад гегемоніяй пролетарыята,** як састаўная частка рэволюцыйнага руху ў Польшчы,—то гэтым мы абавязаны, з аднаго боку, **высокім баявым рэволюцыйным якасцям нашай партыі,** не гледзячы на яе ідэалагічныя недахопы, палітычныя і арганізацыйныя памылкі, а, з другога боку, аб'ектыўным прычынам, штурхаючым масы на шлях рэволюцыйнай барацьбы супроць польскай акупацыі. Мы гэта атрымалі ў выніку той цвёрдай волі стаць на большэвіцкі шлях, якою заўсёды былі прасякнуты асноўныя кадры партыі і якая зрабіла нашу партыю сапраўдным кіраўніком мас у іх барацьбе.

Гэтым-жа глыбокім імкненнем стаць большэвіцкай партыяй тлумачыцца той факт, што КПЗБ, не гледзячы на наўнасць у яе радах нацыянал-апартуністычных элементаў, ніколі не праяўляўся **арганізацыйны сепаратызм** адносна да КПП, як гэта мела месца ў КПЗУ. Гэта-ж спрыяла і таму, што пераважная частка кадраў КПЗБ **стала рашуча на бок былой меншасці ЦК КПП** у барацьбе за большэвізацыю ўсёй КПП.

**Уплыў на кіраўніцтва КПЗБ б. меншасці ЦК КПП** у час барацьбы супроць права-апартуністычнай групы Кастшэвы-Варскага быў **канчаткова рашаючым у працэсе большэвізацыі КПЗБ.** Іменна **ўплыў б. меншасці,** а пазней **большэвіцкае кіраўніцтва з боку ЦК КПП на чале з т. Ленскім,** пастаянная цесная сувязь паміж ЦК КПП і ЦК КПЗБ,

**забяспечылі перамогу большэвіцкай лініі ў КПЗБ.** Дзякуючы гэтаму КПЗБ заняла правільную лінію ў барацьбе з контррэволюцыйнай групай Васільківа-Тур'янскага ў КПЗУ і цалкам, без хістанняў, падтрымала ЦК КП(б)Б у барацьбе з нацдэмаўшчынай. Гэтаму ўплыву і кіраўніцтву абавязаны таксама паасобныя кіруючыя таварышы ў КПЗБ тым, што яны змаглі перамагчы спадчыну свайго нацыяналістычнага мінулага і разам з усёй партыяй ісці па шляху большэвізацыі.

Вельмі важным фактарам у справе большэвізацыі нашай партыі быў **прыклад і ідэалагічная дапамога брацкай КП(б)Б,** якая пад большэвіцкім кіраўніцтвам свайго ЦК праводзіла і праводзіць бязлітасную барацьбу з нацыянал-ухілістамі, контррэволюцыйнай нацдэмаўшчынай, выяўляючы і дэмаскуючы нацыянал-фашысцкіх агентаў, якія пралазяць з Зах. Беларусі ў БССР.

Аб поспехах у справе большэвізацыі нашай партыі сведчыць той факт, што выкрыццё і дэмаскаванне агентур польскай дэфензівы і беларускага нацыянал-фашызма ў арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху не выклікала сур'ёзных хістанняў і замяшання ў радах нашай партыі і што КПЗБ, не гледзячы на сур'ёзнае аслабленне тэмпаў, рашуча стала на шлях выпраўлення памылак, здолела мабілізаваць свае рады на барацьбу супроць нацiску буржуазнага нацыяналізма, на барацьбу супроць нацыянал-апартунізма ў сваіх уласных радах і што яна дабілася ўжо на гэтым участку пэўных поспехаў. Партыя павінна быць падрыхтавана і ўзброена, каб даць адпор націску і новым махінацыям нацыянал-фашызма.

Каб давесці да канца працэс большэвізацыі КПЗБ, вырваць канчаткова карэнні нацыянал-апартунізма, якія сядзяць глыбока ў мінулым нашай партыі, узброіць партыю большэвіцкай рэвалюцыйнай пільнасцю да праяўлення ўсякіх варожых большэвізму ўплываў, а таксама да прошукаў класавага ворага—патрэбна правесці яшчэ **велізарную работу па павышэнню ідэалагічнага ўзроўню партыі.** Патрэбна бязлітаснае выяўленне ўсякіх памылак, выяўленне іх карэнняў, паглыбленае высвятленне і крытычная ацэнка ўсёй гісторыі нашай партыі, крытычнае асвятленне ідэалагічнай спадчыны розных груп, якая засмечвала ідэйнае дастаянне КПЗБ. Толькі на падставе паглыбленай ідэалагічнай работы і адкрытай смелай самакрытыкі, узброеныя ленінізмам, мы зможам выхаваць у нашых радах большэвіцкую непахіснасць, чуласць і пільнасць, даць адпор усякім прошукам класавага ворага, зможам павесці масы па шляху пераможнай пралетарскай рэвалюцыі.

Ажгірэй

# Рашэнні XVII з'езда—у шырокія масы комсамольскай і беспартыйнай моладзі

XVII з'езд ВКП(б) намеціў верны шлях барацьбы за бяскласавае соцыялістычнае грамадства.

Класава-варожыя элементы будуць імкнуцца перашкодзіць нашай соцыялістычнай будоўлі, таму патрэбна самая шырокая мабілізацыя мас і агромная арганізацыйная работа, разгром настрояў самацёку і «спачывання на лаўрах», патрэбна мабілізацыя класавай пільнасці, энергічная вытворчая работа і павышэнне ідэйнай узброенасці радоў партыі і яе бліжэйшага памочніка—ленінскага комсамола.

ЦК ВЛКСМ у сваёй пастанове намеціў праграму вывучэння дакладаў тт. Сталіна, Молатава, Кагановіча і ўсіх рашэнняў з'езда. Задача ўсёй комсамольскай арганізацыі—дабіцца, каб кожны комсамолец правільна ўразумеў і вывучыў гэтыя даклады і рашэнні.

Як-жа беларуская комсамольская арганізацыя рэалізуе пастанову ЦК ВЛКСМ?

На аснове прапрацоўкі даклада тав. Сталіна і рашэнняў з'езда сетка комсамольскай палітасветы значна вырасла як за лік ахопу комсамольцаў, якія яшчэ не займаліся, так і ўцягнення вялікай колькасці беспартыйнай рабочай і калгаснай моладзі. Усяго ахоплена прапрацоўкай матэрыялаў XVII з'езда 28.253 комсамольцы і 7.187 чал. беспартыйнай моладзі [1]).

Арганізавана вялікая сетка дадатковых гурткоў па прапрацоўцы XVII з'езда. Так, напр., у Гомелі арганізавана на прадпрыемствах дадаткова каля 100 гурткоў. Такім чынам па гомельскай арганізацыі працуе 200 гурткоў, якімі поўнасцю ахоплены ўсе комсамольцы.

Таксама нядрэнна разгарнулася работа ў жлобінскай комсамольскай арганізацыі. Зараз там ахоплена 369 комсамольцаў і 111 чалавек беспартыйнай моладзі, г. зн. усе комсамольскія ячэйкі, у колькасці 41.

Аб масавым разгортванні прапрацоўкі даклада т. Сталіна і ўсіх матэрыялаў з'езда з усёй красамоўнасцю сведчыць і рад фактаў з Чэрвеньскага (ахоплена 353 комсамольцы і 182 чал. беспартыйнай моладзі), Менскага, Віцебскага, Стара-Дарожскага і інш. раёнаў.

З усёй сілай неабходна падкрэсліць станоўчы вопыт работы па распрацоўцы з'езда Барысаўскай, Гомельскай, Чэрвеньскай комсамольскімі арганізацыямі, які неабходна перанесці ва ўсе комсамольскія арганізацыі.

[1]) Весткі па 32 раёнах.

Распрацоўка матэрыялаў XVII партз'езда была пастаўлена імі ў цэнтр увагі: праведзен семінар кіраўнікоў комсамольскіх палітшкол і гурткоў, у дапамогу калгасным ячэйкам і прадпрыемствам камандыравалі праінструктаваны раённы комсамольскі актыў для арганізацыі прапаганды рашэнняў XVII з'езда, забяспечання літаратурай у патрэбнай колькасці, арганізацыі чытак на прадпрыемствах, індывідуальнага прымацавання палітычна падрыхтаваных да слабейшых таварышоў, арганізацыі радыё-пераклічак між калгаснымі ячэйкамі ў Чэрвеньскім раёне па пытанню распрацоўкі даклада т. Сталіна. Пачалі прапрацоўку матэрыялаў з'езда па вучэбнаму плану ЦК ВЛКСМ. Усе гэтыя канкрэтныя мерапрыемствы далі нядрэнны вынік, узнялі работу палітшкол на вышэйшую ступень.

Аднак, масавае разгортванне распрацоўкі рашэнняў XVII партз'езда не забяспечана яшчэ патрэбнай якасцю ўсваення. Неабходна забяспечыць высокі ідэйна-палітычны ўзровень кожнага комсамольца і ўсю ўвагу комсамольскай арганізацыі па-баявому накіраваць на сапраўдную рэалізацыю пастаўленых з'ездам задач.

У арганізацыі работы па вывучэнню рашэнняў з'езда як у ячэйках, так і ў раёне многа фармалізма, самацёку, неарганізаванасці.

Акрамя гэтых істотных недахопаў мела месца яўнае скажэнне і апашленне прапрацоўкі рашэнняў XVII з'езда ВКП(б). Глыбокае вывучэнне іх па сутнасці ў многіх комсамольскіх арганізацыях Смалявіцкага, Камарынскага, Слуцкага, Крычаўскага раёнаў падмянялася паказною шуміхай і фармальным зазубрываннем адказаў, бессэнснай балбатнёю па кантрольных пытаннях. Глыбокая прапаганда і дэтальная распрацоўка падмянялася арганізацыяй так званых «палітбаёў», «палітвудачак» і т. п. форм, якія нічога агульнага не маюць з большэвіцкімі выпрабаванымі формамі партыйнай асветы. Яркім фактам фармальнага зазубрывання з'яўляецца распрацоўка рашэнняў XVII з'езда камітэтам комсамола на Добрушскай папяровай фабрыцы, дзе група комсамольцаў магла адказваць на пытанні толькі ў чарговым парадку апытальніка, «палітвудачкі» на Крычаўскім цэментным заводзе (за дрэнныя адказы выцягвалі лапці, воблу і наадварот, за здавальняючыя—па кавалку туалетнага мыла, папяросы і т. д.), тым часам як глыбокае вывучэнне і рэалізацыя рашэнняў з'езда не арганізаваны.

Далей, узяць, хоць-бы такі яркі факт. Сакратар Смалявіцкага РК ЛКСМБ Левін і культпроп Яромухін па-свойму зразумелі распрацоўку рашэнняў з'езда. Правялі адзін палітбой і супакоіліся, прысланую літаратуру з дакладам тав. Сталіна, пры вялікім попыце на яе комсамольцаў і беспартыйнай моладзі, адправілі назад з рэзалюцыяй: **«Даклад распрацован, літаратура не патрэбна».** Такі рэзультат палітычнай слепаты гэтых кіраўнікоў, бюракратычнага фармальнага падыходу да прапаганды рашэнняў з'езда. Аналагічны выпадак быў у Дзержынскім РК: атрыманую літаратуру пратрымалі 8 дзён у райкомаўскай шафе, ячэйкі засталіся без літаратуры.

Нізкая аператыўнасць, агульны падыход райкомаў, палітшкол і гурткоў да кіраўніцтва прапрацоўкай рашэнняў з'езда, слабая практычная дапамога месцам, адсутнасць належнага ўліку прывялі к таму, што райкомы не ведаюць, колькі комсамольцаў забяспечана літаратурай, колькі арганізавана новых гурткоў, склад прапагандыстаў, якія ячэйкі адстаюць і патрабуюць неадкладнай дапамогі. А без гэтага райком не можа правільна, канкрэтна кіраваць вучобай комсамольцаў.

Увязкі тэорыі з практычнай работай па правядзенню ў жыццё рашэнняў партз'езда таксама не адчуваецца ў радзе комсамольскіх ячэек. На гэтым фоне асабліва ярка выдзяляецца Дубровенская комсамольская арганізацыя (сакратар РК—**Дзеравенскі,** культпроп **Целянчук).** Прапрацавалі рашэнні з'езда фармальна, не мабілізавалі ўвагу комсамольскай арганізацыі на большэвіцкую работу, на рашучы адпор класаваму ворагу, які не мала пастараўся, каб знішчыць пагалоўе жывёлы. Замест таго, каб арганізаваць комсамол на выкананне гэтай цэнтральнай у бліжэйшы час праблемы сельскай гаспадаркі, кіраўнікі заняліся банкетамі. Любаньскі, Полацкі, Бярэзінскі, Крычаўскі, Мазырскі раёны таксама фармальна аднесліся да распрацоўкі, не ўвязалі яе з канкрэтнымі задачамі комсамольскай ячэйкі.

Масавы грамадска-палітычны экзамен па ўсваенню рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) у комсамольскай арганізацыі павінен даць моцны штуршок у павышэнні ведаў марксісцка-ленінскай тэорыі. Гэту справу трэба арганізаваць па-большэвіцку.

Аднак, і тут мы бачым тэндэнцыі, якія па сутнасці скажаюць гэту вялікай каштоўнасці справу.

Пры здачы грамадска-палітычнага экзамена наглядаецца акадэмізм, зуброжка, начотніцтва, а не глыбокае і канкрэтнае ўсваенне.

Грамадска-палітычны экзамен у радзе раёнаў ператворан у звычайны «школьны» экзамен горшага тыпу, скажаючы яго сэнс. Факты апашлення ідэі грамадска-палітычнага экзамена былі ў мянскай комсамольскай арганізацыі (ф-ка «Окцябр»).

Перад комсамольскімі арганізацыямі з усёю сілай трэба выясніць гэтыя адмоўныя рысы, якія зніжаюць ролю і значэнне грамадска-палітычнага экзамена.

Аднак абмежавацца здачай грамадска-палітычнага экзамена ні ў якім разе нельга. Комсамольскія арганізацыі павінны скарыстаць вопыт перадавых комсамольскіх калектываў Гомеля («Спартак» і інш.), якія прымацавалі выдатнікаў да таварышоў, яшчэ не прымаўшых удзелу ў вучобе, або здаўшых на нездавальняюча.

Сваю задачу—здаць экзамен на **выдатна**—комсамольская арганізацыя выканае тады, калі райкомы, замест агульных «дырэктыў», замацуюць па ячэйках увесь комсамольскі актыў, ускладуць на яго адказнасць за высокаякасную прапрацоўку рашэнняў XVII з'езда, абавяжуць кожнага члена бюро райкома кіраваць палітшколай, арганізаваць семінар і кансультацыю для прапагандыстаў, узорныя заняткі для вопытных прапагандыстаў, наладзіць аператыўны ўлік, забяспечаць усіх комсамольцаў літаратурай. Раённы комсамольскі актыў сам павінен узначаліць гэту справу.

Нельга мірыцца з тым фактам, што, за рэдкім выключэннем, вучоба райактыва не наладжана. Асноўнаю формай вучобы актыва трэба раіць семінары, на якіх папярэдне глыбока распрацоўваюцца пасобныя праблемы социялістычнага будаўніцтва. Больш шырока неабходна выкарыстаць завочную форму вучобы праз ІМЗО.

Толькі паставіўшы распрацоўку рашэнняў з'езда на палітычную вышыню, цесна ўвязаўшы з практыкай работы, смела, па-большэвіцку ўскрываючы, жорстка крытыкуючы недахопы сваёй работы і па-ходу выпраўляючы іх згодна рашэнням XVII з'езда, прымяняючы разнастайныя апраўдаўшыя сябе метады,—комсамольская арганізацыя здолее ўзняць ідэйна-палітычны ўзровень комсамольцаў і работу палітшкол на вышэйшую ступень.

Аднак задачы комсамольскіх арганізацый па прапрацоўцы рашэнняў з'езда не павінны абмяжоўвацца работай толькі сярод комсамольскай моладзі.

Трэба рашуча звярнуць увагу РК комсамола на недапушчальна слабую работу комсамольскіх арганізацый сярод беспартыйнай моладзі як у галіне прапаганды рашэнняў з'езда, так і глыбокай, сістэматычнай работы па згуртаванню рабочай моладзі вакол пярвічных комсамольскіх арганізацый. Яркім фактам неразумення важнасці накіраваць іх творчую актыўнасць на рэалізацыю пастаўленых задач можа служыць тое, што, пры наяўнасці амаль тысячы чалавек беспартыйнай моладзі на папяровай фабрыцы ў Добрушы, у комсамольскую палітсетку не ўцягнут ні адзін чалавек, а комсамольскія сходы наведваюць адзінкі.

Трэба рашэнні з'езда давесці да беспартыйнай моладзі, трэба сістэматычна весці работу па прапагандзе рашэнняў з'езда сярод беспартыйных маладых рабочых, калгаснікаў і аднаасобнікаў—заўтрашніх калгаснікаў. За гэту работу комсамольскія арганізацыі павінны ўзяцца безадкладна, дабіўшыся ў найкарацейшы тэрмін масавай прапаганды рашэнняў з'езда сярод беспартыйнай моладзі.

Толькі на аснове глыбокай распрацоўкі рашэнняў з'езда, на аснове рашэнняў IX пленума ВЛКСМ аб перабудове ўсёй работы КСМ арганізацыі па сутнасці, а не па форме, шырока растлумачыўшы кожнаму комсамольцу значэнне гэтай перабудовы, замацаваўшы канкрэтныя аб'екты работы за кожным комсамольцам, арганізаваўшы работу з беспартыйнай моладдзю—мы зможам дасягнуць патрэбных вынікаў.

Пара перайсці ад слоў да канкрэтнага вывучэння і прапаганды рашэнняў XVII з'езда партыі сярод беспартыйнай моладзі. Правільная арганізацыя гэтай работы магчыма толькі пры рашучым выкарчоўванні фармалізма, самацёку і неарганізаванасці, пры правільнай арганізацыі праверкі выканання.

Большэвіцкая боездольнасць кожнай комсамольскай арганізацыі і кожнага комсамольца праверка правяраецца тым, як комсамолец вывучае рашэнні XVII з'езда, як ён перабудоўвае сваю работу, як ён на справе штодзенна ў сваёй практычнай рабоце рэалізуе гістарычныя рашэнні XVII з'езда ВКП(б).

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## РАШЭННІ XVII ПАРТЗ'ЕЗДА—У МАСЫ

*КУТОК ПРАПАГАНДЫСТА*

### Разгортванне таваразвароту—важнейшая задача дня[1])

XVII з'езд ВКП(б) падвёў вынікі грандыёзнай рабоце, праробленай за гады першай пяцгодкі. Гіганцкі ўзрасла прамысловасць. У параўнанні з 1913 г. тавараў вытварана ў 1932 г. амаль у 4 разы больш, у той-жа час ва ўсіх капіталістычных краінах вытворчасць тавараў у параўнанні з даваенным значна зменшылася.

У СССР толькі за апошнія чатыры гады колькасць вытвараных тавараў падвоілася, тым часам як у Амерыцы вытворчасць тавараў зменшылася на ⅓, ва Францыі—на ¼.

Павялічылася колькасць вытвараемых прадуктаў у сельскай гаспадарцы. Узраслі і загатоўкі. Пераход ад дробнай гаспадаркі к будаўніцтву калгасаў павялічыў таварнасць сельскай гаспадаркі. Калі ў 1927-28 г. з кожных 100 пуд. хлеба, вытвараных серадняцкай гаспадаркай, прадавалася для снабжэння горада толькі 13—14 пудоў, то зараз калгаснікі прадаюць каля 40 пудоў. У 1933 г. загатоўлена на 22,8 проц. больш хлеба, чым у 1932 г. План маслазагатовак перавыканан. Бульбы загатоўлена ў 1933 г. на 50 проц. больш, чым у 1932 г., цукровых буракоў—на 34 проц.

Тав. Сталін, падводзячы вынікі дасягненняў першай пяцігодкі, гаварыў на XVII партыйным з'ездзе:

> «Мы маем такім чынам:
>
> а) рост прадукцыі прамысловасці, у тым ліку прадукцыі па шырспажыву;
>
> б) рост прадукцыі сельскай гаспадаркі;
>
> в) рост патрэбнасцей і попыту на прадукты і вырабы з боку працоўных мас горада і вёскі».

Ці даволі гэтага, каб гаспадарка нашай краіны развівалася нармальна? На гэта пытанне з усёй рэзкасцю адказаў правадыр нашай партыі, кіраўнік нашай краіны тав. Сталін.

> «Некаторыя таварышы думаюць, што даволі наяўнасці гэтых умоў, каб эканамічнае жыццё краіны забіла крыніцай. Гэта глыбокае заблуджэнне. Можна ўявіць, што ёсць усе гэтыя ўмовы, але калі тавар не даходзіць да спажыўца, эканамічнае жыццё не толькі не можа забіць крыніцай, а, наадварот,—будзе расстроена і дэзарганізавана да асновы».

Практыка работы гандлюючых арганізацый у розных месцах нашай краіны штодзенна пацвярджае правільнасць гэтага ўказання.

---

1) пераапрацаван. радыёлекцыя.

Мы маем у адных раёнах лішак тавараў, а ў другіх—недахоп. У адзін раён завозіцца агромная колькасць бацінак буйных размераў, а ў другі раён—маленькіх. У адным раёне лішак пасуды, у другім раёне няма пасуды зусім. Усе гэтыя факты гавораць аб адным: мала арганізаваць добра вытворчасць тавараў у горадзе і вёсцы. Трэба яшчэ забяспечыць своечасовую іх дастаўку спажыўцу, арганізаваць такую дастаўку, якая-б забяспечыла кожнаму раёну сапраўды неабходныя яму тавары, у неабходнай колькасці і патрэбнай якасці.

Для таго, каб выканаць гэтую задачу, трэба ведаць патрэбнасці кожнага раёна, ведаць патрэбнасці паасобных груп спажыўцоў унутры кожнага раёна. Але мала ведаць патрэбнасці. Трэба яшчэ дабіцца, каб фабрыкі і заводы выраблялі іменна такія тавары, якія патрэбны. Трэба, каб гандлюючыя арганізацыі па-сапраўднаму былі звязаны з фабрыкамі і заводамі і аказвалі на іх штодзенны ўплыў і ўздзеянне.

Пры пераходзе к нэпу Ленін указваў, што задача гандлю збіраць распыленыя рэсурсы краіны і выклікаць да жыцця новыя. Але гэта не значыць, што задача гэтая зараз не стаіць перад гандлем. Дзяржава загатаўляе толькі частку прадуктаў, якія вырабляюцца ў вёсцы. Вялікія лішкі ёсць у калгасаў, у паасобных калгаснікаў, у аднаасобнікаў. Гэтыя лішкі трэба закупіць метадамі совецкага гандлю.

Такім чынам задача совецкага гандлю заключаецца, **па-першае**, у тым, каб забяспечыць вытворчасць іменна такіх тавараў, якія патрэбны паасобным групам спажыўцоў. Задача гэта вырашаецца шляхам заключэння дагавароў з прамысловасцю, шляхам дачы заказаў фабрыкам і заводам на вытворчасць тавараў пэўнай якасці і асартымента.

**Па-другое**, у тым, каб самой арганізацыяй гандлю дабіцца павелічэння вырабляемых тавараў, выкарыстоўваючы ў першую чаргу для гэтага мясцовую прамысловасць, прамысловую кааперацыю, калгасы.

**Па-трэцяе**, у тым, каб забяспечыць правільнае размеркаванне тавараў па асобных раёнах краіны, па асобных гарадах, вёсках, з улікам асаблівасцей кожнага раёна, асаблівасцей яго патрэбнасцей і попыту.

**Па-чацвертае**, у тым, каб самой арганізацыяй гандлю стымуляваць рост соцыялістычных адносін да працы—**прадаваць больш тавараў і лепшай якасці тым калгаснікам, якія лепш працуюць, якія паказваюць узоры соцыялістычных адносін да працы.**

На ўсе гэтыя задачы з асаблівай вострасцю звярнуў увагу партыі і ўсёй краіны тав. Сталін у сваім гістарычным дакладзе на XVII з'ездзе партыі.

> «Каб эканамічнае жыццё краіны магло забіць крыніцай, а прамысловасць і сельская гаспадарка мелі стымул к далейшаму росту сваёй прадукцыі, трэба мець яшчэ адну ўмову, а іменна—разгорнуты **тавараварот** паміж горадам і вёскай, паміж раёнамі і абласцямі краіны, паміж рознымі галінамі народнай гаспадаркі. Неабходна, каб краіна была пакрыта багатай сеццю гандлёвых баз, магазінаў, крам. Неабходна, каб па каналах гэтых баз, магазінаў, крам, безупынна, цыркулявалі тавары ад месц вытворчасці да спажыўца. Неабходна, каб у гэтую справу

былі ўцягнуты і дзяржаўная гандлёвая сець, і каапэрацыйная гандлёвая сець, і мясцовая прамысловасць, і калгасы і аднаасобныя сяляне.

Гэта і называецца ў нас разгорнутым **совецкім гандлем**, гандлем **без** капіталістаў, гандлем **без** спекулянтаў.

Як бачыце, разгортванне совецкага гандлю з'яўляецца той актуальнейшай задачай, без вырашэння якой немагчыма далей рухацца ўперад».

Падводзячы вынікі ў галіне тавараабароту за гады першай пяцігодкі, тав. Сталін у якасці важнейшай прычыны палепшанняў, што адбыліся ў гандлі, указаў на разгортванне **спаборніцтва** паміж каапэрацыяй і дзяржаўным гандлем.

«Прышлося ліквідаваць, далей, манапольнае становішча каапэрацыі на рынку, у сувязі з чым абавязалі ўсе наркаматы адкрыць гандаль уласнымі таварамі, а Наркамснаб—разгарнуць шырокі камерцыйны гандаль сельскагаспадарчымі прадуктамі, што прывяло, з аднаго боку, у парадку спаборніцтва, да палепшання гандлю ў каапэрацыі, а, з другога боку,—да зніжэння цэн на рынку, да аздараўлення рынка».

У нашай краіне жыве зараз 168 млн. чалавек. За гады першай пяцігодкі насельніцтва гарадоў павялічылася на 40 проц. Колькасць рабочых падвоілася. Умовы жыцця рабочых рэзка палепшыліся. За пяцігодку фонд зарплаты ўзрос у 4 разы, а сярэдні заработак аднаго рабочага—удвая. У капіталістычных краінах за гэты-ж перыяд рэальная заработная плата знізілася: у Германіі мулярам—на 42 проц., плотнікам—на 32 проц., будаўнічым рабочым—на 34 проц. **За перыяд з 1929 г. па 1933 г. даход працоўнага скараціўся на 47 проц.**

Палепшылася не толькі жыццё рабочых нашай краіны, але і жыццё сялян. Мільёны батракоў і беднякоў, уступіўшы ў калгас, забяспечылі рэзкае палепшанне свайго жыцця. Мільёны сялян становяцца заможнымі. Даходнасць калгаснага двара ў параўнанні з даходнасцю індывідуальнай серадняцкай гаспадаркі, узрасла больш як удвая.

Другая пяцігодка паставіла задачу павысіць рэальную зарплату рабочага ў 2 разы і зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі.

«Валавая прадукцыя і частка даходу на душу насельніцтва калгасаў у 1937 г. будзе на 12—15 проц. вышэй, чым на душу насельніцтва ў заможных гаспадарках у 1927 г.». **(Куйбышаў).**

У 1937 г. прамысловасць вытварыць у 2,1 разы больш тавараў, чым у 1932 г., а калі параўнаць з даваенным часам, то будзе вытварана ў 8 раз больш. Тавараў у краіне з кожным днём становіцца ўсё больш. Гэтыя тавары трэба ўмець своечасова прадаць. З гэтай задачай адна каапэрацыя справіцца не можа. Практыка паказала, што калі гандаль быў даручан адной каапэрацыі, каапэратары перасталі па-сапраўднаму гандляваць—яны перасталі думаць аб разгортванні сеці, аб тым, што трэба загатаўляць прадукты. Будавалі яны свае разлікі выключна на тыя тавары, якія давала дзяржава. Перасталі лічыць грошы, клапаціцца аб прыбытках. Так было ў 1929—30 гг. З сярэдзіны 1931 г. партыя адмовілася ад манаполіі каапэрацыі, разгарнула, побач з каапэрацыяй, гандаль дзяржаўных арганізацый, прамысловасці, разгарнула калгасны гандаль. Усё гэта забяспечыла рост гандлю, павелічэнне гандлёвай сеці і некаторае палепшанне абслугоўвання спажыўца

К XVII партз'езду мы маем вялікі разварот як кааперацыйнага, так і дзяржаўнага гандлю. Кааперацыя за гады першай пяцігодкі павялічыла свой тавараразварот больш як на 50 проц. У яшчэ большай меры ўзрос таваразварот дзяржаўнага гандлю. З усіх тавараў, **якія зараз прадаюцца, на долю кааперацыі падае 46 проц., дзяржаўнага гандлю—31,6 проц., ОРС—12 проц. і т. д.**

Шырокае разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва—асноўны метад палепшання работы і кааперацыі, і дзяржгандлю, ліквідацыі іх адставання ад задач, якія партыя перад намі паставіла.

За гады першай пяцігодкі прыватнік поўнасцю выцеснен з таваразвароту. З праданых у 1933 г. тавараў на 49 млрд. руб. на 18,3 млрд. прадала спажыўкааперацыя; 14,2 млрд.—дзяржаўны гандаль; 6,2 млрд.—ОРС і 6,1 млрд.—грамадскае харчаванне.

Праграма другой пяцігодкі ставіць перад гандлем яшчэ больш буйныя задачы. У другой пяцігодцы таваразварот павінен быць павялічан да 80 млрд. руб. ці ў 2,5 разы больш, чым было прадана тавараў у 1932 г. Колькасць крам павінна быць павялічана на 37 проц. Цэны павінны быць зніжаны на 35 проц. Нормы спажывання мяса, тлушчаў, рыбы, яек, цукру і промтавараў, у параўнанні з 1932 г., павінны быць павялічаны у $2^1/_2$ разы.

Другая пяцігодка будзе адрозніваецца ад першай не толькі тым, што рэзка павялічыцца колькасць тавараў, але і тым, што гандаль будзе праводзіцца па цэнах, якія ўвесь час будуць зніжацца. Зараз існуюць у нас дваякага роду крамы—крамы аддзелаў рабочага снабжэння і ЗРК, якія прадаюць тавары па нармаваных цэнах. І побач з гэтым існуюць адкрытыя, так званыя камерцыйныя крамы, дзе тавары прадаюць па больш павышаных цэнах усім грамадзянам без абмежавання. **Цэны закрытага гандлю ў бліжэйшыя гады застануцца без змен. Затое з года ў год будуць зніжацца цэны на тавары, прадаваемыя ў адкрытай сеці.** Толькі гэтымі днямі ўрад прыняў рашэнне аб зніжэнні цэн на ніткі, на грубыя суконна-шарсцяныя тканіны (на 15 проц.), хусткі (на 20 проц.), абутак на маналітнай падошве (на 20 проц.).

Зніжэнне цэн будзе прадаўжацца і ў далейшым. Хуткасць зніжэння будзе залежаць, па-першае, ад таго, як нашы прадпрыемствы будуць выконваць свой вытворчы план—не толькі колькасна, але і якасна. Чым вышэй будзе прадукцыйнасць працы, чым ніжэй будзе сабекошт, чым лепш будзе арганізавана праца, тым больш магчымасцей будзе для зніжэння цэн. Зараз цэны адкрытага гандлю значна вышэй цэн закрытага гандлю. Гэта розніца будзе паступова змяншацца. Ужо на працягу 1933 г. цана на хлеб зніжалася некалькі раз у бок усё большага набліжэння да цэн нармаваных. **На працягу ўсёй другой пяцігодкі будзе адбывацца паступовае зблiжэнне цэн адкрытага і закрытага гандлю.**

Такім чынам у другой пяцігодцы адбудзецца агромнае павелічэнне таваразвароту пры адначасовым значным зніжэнні цэн.

Гандаль у другой пяцігодцы будзе развівацца на падставе **сумеснай** работы ОРС, ЗРК і адкрытага гандлю. Няправільна думка паасобных таварышоў аб тым, што ОРС-ам хутка не будзе чаго рабіць. Аддзелы рабочага снабжэння створаны для таго, каб мацней звязаць снабжэнне з арганізацыяй вытворчасці, падпарадкаваць гандаль інтарэсам вытворчасці. ОРС-ы абавязаны так паставіць гандаль, каб дапамагчы росту прадукцыйнасці працы, заахвочваць лепшых ударнікаў, лепшых вытворчаснікаў.

За лік-жа якіх рэсурсаў будуць расці звароты ОРС? Даволі прывесці некалькі лічб, каб на гэта пытанне адказаць. Уласныя гаспадаркі заводаў і фабрык павінны павялічыць вытворчасць мяса ў 8 раз, вытворчасць малака і малочных прадуктаў у 3 разы, вытворчасць бульбы ў 4 разы, гародніны ў 3 разы. Гэта па лініі ўласных гаспадарак. Калі пры гэтым ўлічыць, што ў агромнай меры вырастуць рэсурсы калгаснага гандлю, магчымасці промкааперацыі, то ясны адказ—адкуль ОРС возьмуць тавары. Яны павінны іх браць з сваіх уласных гаспадарак. Яны іх павінны браць шляхам рэзкага павелічэння загатовак на сяле. Яны іх павінны браць шляхам расшырэння сувязей з арцелямі і прадпрыемствамі мясцовай прамысловасці.

У ОРС і ЗРК ёсць усе магчымасці для таго, каб гэтымі шляхамі **рэзка** павялічыць свой тавараразварот і тым самым дапамагчы палепшыць абслугоўванне рабочых і членаў іх сямей.

Мы разгортваем зараз адкрыты гандаль. Ёсць таварышы, якія лічаць, што ўжо зараз трэба раскрываць ОРС-ы, г. зн. даць ОРС-ам прадаваць тавары не толькі рабочым данага завода, але і іншым грамадзянам. Такі падыход няправільны. Дзяржава стварыла ОРС-ы для таго, каб забяспечыць лепшае снабжэнне рабочых пэўных прадпрыемстваў. Дзяржава адпускае ОРС-ам прадукты па вельмі нізкіх цэнах. Калі дазволіць ОРС-ам прадаваць тавары ўсім, то гэта немінуча прывядзе да пагоршання снабжэння рабочых данага прадпрыемства.

У ОРС-аў даволі клопатаў аб абслугоўванні спажыўца рабочага сваіх прадпрыемстваў, каб займацца зараз яшчэ абслугоўваннем іншых груп насельніцтва. Гэта зробіць дзяржаўны гандаль і адкрытыя прадпрыемствы спажыўкааперацыі.

За апошнія $2^1/_2$ гады было адкрыта новых 65 тыс. крам і 43 тыс. палатак. На працягу другой пяцігодкі гандлёвая сець павінна дадаткова ўзрасці на 37 проц., прычым гутарка ідзе не толькі аб павелічэнні колькасці крам і магазінаў, але і рэзкім палепшанні якасці іх работы. XVII партз'езд паставіў задачу рэканструяваць усю гандлёвую сець.

Барацьба за разгортванне совецкага гандлю—гэта перш за ўсё барацьба за палепшанне работы магазіна, склада, сельпо ў вёсцы. Тав. Кагановіч, дакладваючы на XVII з'ездзе аб мерапрыемствах, якія трэба правесці для палепшання справы тавараразвароту, гаварыў:

> «У арганізацыі тавараразвароту наша задача зводзіцца, папершае, к нармальнаму, хуткаму і культурнаму водпуску тавараў з магазінаў, і, па-другое, к правільнаму рэгуляванню і планаванню гандлю, к правільнай дастаўцы тавараў ў магазіны, улічваючы попыт спажыўцоў, неабходнасць першачарговага снабжэння тых груп спажыўцоў, якія маюць асабліва важнае значэнне ў народнай гаспадарцы».

Буйнейшыя недахопы совецкага гандлю—і дзяржаўнага і кааперацыйнага—рэзультат таго, што дагэтуль магазіну ўдзяляецца надта мала ўвагі. Магазін дагэтуль не карыстаецца неабходнымі правамі. Ён не можа купляць самастойна тавар. Загадчык магазіна не вольны набіраць работнікаў. Кожны яго крок вызначаецца зверху. Гэта

немінуча вядзе да паслаблення барацьбы за тавар і затрудняе палепшанне работы магазіна.

Сістэма кіраўніцтва гандлем надзвычай абюракрачана. Замест таго, каб у цэнтры увагі паставіць магазін, склад і выходзячы з гэтых патрэб арганізаваць кіраўніцтва,—мы маем фактычна адваротнае становішча. Магазінам не займаюцца, складам не займаюцца, але агромная ўвага і сілы ўдзяляюцца гандлёвай канцэлярыі. Гэта немінуча вядзе к таму, што работнікі прылаўка пастаўлены ў горшыя ўмовы, чым яны маглі-б быць пастаўлены.

«Прадавец атрымлівае недастаткова жалавання. Тым часам штаты абслугоўваючага персанала неймаверна раздуты, накладныя выдаткі агромны, дзякуючы таму, што канцэлярщчына, паперапісанне ўкараніліся ў тую галіну, дзе, здавалася-б, менш за ўсё ім месца—у гандаль, у магазіны» **(Л. Кагановіч).**

Партыя патрабавала ад усіх гандлюючых арганізацый, каб яны перабудавалі сваю работу такім чынам, каб магазін быў пастаўлен у цэнтры ўвагі. Магазіну павінна быць прадастаўлена права і магчымасць шукаць і знаходзіць тавар.

«Калі расшырыць правы загмага, то сваёй ініцыятывай ён знойдзе новыя крыніцы тавараў, будзе стымуляваць саматужныя арцелі, уплываць на якасць прадукцыі» **(Л. Кагановіч).**

У вёсцы цэнтр увагі трэба ўдзяліць сельпо.

«Зараз сельпо павінны стаць у цэнтры ўвагі Цэнтрасаюза. Усякі разумее тую агромную не толькі гаспадарчую, але і палітычную ролю, якую набывае зараз сельпо ў справе развіцця тавараразвароту і культурнага савецкага гандлю ў вёсцы. Сельпо павінны быць узняты на палітычную вышыню. Работа ў сельпо павінна лічыцца такой-жа ганаровай, як работа ў праўленні калгаса, у сельсовеце». **(Л. Кагановіч).**

Для таго, каб узняць работу сельпо, трэба прадаставіць сельпо больш правоў, даць ім магчымасць распараджацца сваімі сродкамі, шырока весці самастойныя закупкі. Трэба ўсяляк заахвочв. ь тыя сельпо, якія звязваюцца з арцелямі і дабіваюцца павелічэння колькасці вытвараемых тавараў. Трэба дапамагчы сельпо пашырыць сваю загатоўчую работу як для ОРС і ЗРК, так і для больш актыўнага ўдзелу ў рыначным гандлі ў раённых цэнтрах і гарадах.

Барацьба за ўмацаванне магазінаў і сельпо—важнейшая рашаючая задача. За выкананне гэтай задачы павінны ўзяцца ўсе партыйныя, комсамольскія, совецкія і гандлёвыя арганізацыі.

У другой пяцігодцы асабліва вялікі размах набывае калгасны гандаль. У той час як грамадскія загатоўкі хлеба павялічваюцца ў 1937 г. у параўнанні з 1932 г. усяго на 63 проц., калгасны гандаль хлебам павялічваецца больш як у 3 разы; па мясу дзяржаўныя паступленні ўзрастуць у 2, а калгасны гандаль у 4 з лішнім разы, па гароднінe дзяржаўныя паступленні застаюцца нязменнымі, а калгасны гандаль павялічыцца ўдвая.

Гэты вялікі рост калгаснага гандлю будзе, натуральна, звязан з далейшым сістэматычным зніжэннем цэн на прадукты, прадаваемыя на калгасных рынках і загатаўляемыя кааперацыяй і дзяржаўным гандлем. Увосень 1932 г. Цэнтральны Камітэт партыі прызнаў, што ўзровень калгасных цэн неймаверна высокі. ЦК указаў на тое, што задача ўсёй партыі, усіх гандлюючых арганізацый—дабіцца значнага

зніжэння цэн. Ужо ў 1933 г. удалося дабіцца значнага зніжэння цэн. Па даных Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага ўліку, (ЦУНХУ) цэны на калгасных рынках у 1933 г. далі вялікае зніжэнне. Калі прыняць цэны сакавіка за 100, то цэны лістапада па большасці буйнейшых прамысловых гарадоў знізіліся амаль удвая. Гэтае зніжэнне цэн адбылося ў рэзультаце разгорнутай барацьбы са спекулянтамі і спекуляцыяй, пашырэння і ўпарадквання самога калгаснага гандлю, павелічэння ўдзелу калгасаў у гэтым гандлі, разгортвання адкрытага гандлю дзяржаўных магазінаў прадуктамі харчавання. Асабліва вялікую ролю адыграла разгортванне адкрытага гандлю хлебам. Зараз больш чым у 500 гарадах свабодна гандлююць хлебам, прычым хлеб гэты адпускаецца без якога-небудзь абмежавання усім грамадзянам. Як толькі пачаўся адкрыты гандаль хлебам, адразу знізіліся рыначныя цэны на хлеб, а потым і на ўсе астатнія прадукты Зараз рыначныя цэны на большасць прадуктаў харчавання знаходзяцца на адным узроўні з цэнамі дзяржаўных магазінаў, якія вядуць адкрыты гандаль. Ёсць не мала выпадкаў, калі рыначныя цэны нават некалькі ніжэй дзяржаўных. Факты гэтыя маюць велізарнае значэнне. Яны ўказваюць на тое, што ў нашых руках ёсць даволі магутны рычаг для таго, каб дабівацца няўхільнага і сістэматычнага зніжэння рынычных цэн.

Калгасны гандаль пачаў шырока разгортвацца ў 1932 г. Значэнне рынычнага гандлю ў снабжэнні гарадоў расце з месяца ў месяц. Вось даныя па Маскве: за 1932 г. зварот рынкаў раўняўся 350 млн. руб. А за 1933 г. на рынках было прадана харчовых тавараў на 503 млн. р.. ці на 45 проц. больш як у 1932 г. Каб зразумець значэнне гэтых лічб, даволі ўказаць, што спажыўкаапрацыя і дзяржаўны гандаль у 1933 г. прадалі харчовых тавараў на 3 млн руб. Такім чынам разгортванне калгаснага гандлю дало дадаткова маскоўскім рабочым і служачым харчовых тавараў на суму, роўную 17 проц. таго, што было прадана з дзяржаўных запасаў і ўласных загатовак нашых гандлюючых арганізацый.

Снабжэнне горада прадуктамі харчавання зараз адбываецца на аснове спалучэння двух метадаў: цэнтралізаваных загатовак і калгаснага гандлю. Цэнтралізаваныя загатоўкі праводзяцца на аснове закона аб абавязковай здачы вызначанай колькасці прадуктаў дзяржаве. Нормы здачы ўстанаўляюцца загадзя. У 1934 г. пакінуты ў сіле нормы, устаноўленыя для 1933 г., гэта не гледзячы на тое, што ў 1934 г. колькасць прадуктаў у калгасах рэзка ўзрасце.

Размер паступленняў па падатку застаецца амаль нязменным. Ні для адной вобласці і края ён не павялічваецца, а для некаторых ён нават зніжаецца. Але затое ўзрастаюць паступленні ў парадку натураплаты. Што такое натураплата? МТС за работу, якую яна праводзіць ў калгасах, атрымлівае аплату натурай. Колькасць МТС к канцу пяцігодкі падвоіцца. Рэзка ўзрасце механізацыя. Колькасць трактароў у сельскай гаспадарцы павялічыцца больш чым утрая, камбайнаў будзе таксама больш, чым утрая. З кожным годам будуць мяняцца суадносіны паміж колькасцю атрымліваемых прадуктаў па налогу і за работу МТС.

Паколькі прадукты, здаваемыя дзяржаве ў парадку налога, застаюцца незменнымі, зусім відавочна, што з года ў год у агромнай меры будуць расці рэсурсы, якія калгасы і калгаснікі будуць прадаваць у парадку разгорнутага совецкага гандлю.

Такім чынам, для ўсёй другой пяцігодкі застаюцца ў сіле ўказанні партыі аб неабходнасці ўсямернага разгортвання калгаснага гандлю, як важнейшай формы арганізацыі таваразвароту, як аднаго са сродкаў мабілізацыі дадатковых рэсурсаў, выяўлення і выкарыстання скрытых магчымасцей, як адзін са шляхоў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў іператварэння калгаснікаў у заможных.

Перыяд паміж XVI і XVII з'ездамі партыі быў перыядам жорсткай барацьбы за ленінскія прынцыпы ў разгортванні совецкага гандлю. На XVI з'ездзе тав. Сталін указаў на нэпманскія скажэнні ў рабоце гандлю, на тое, што каапарацыя хоча гандляваць прыбытковымі таварамі і не хоча гандляваць таварамі менш прыбытковымі, але патрэбнымі для рабочага. Партыя змагалася супроць нэпманскіх скажэнняў, супроць спроб падмяніць совецкі гандаль гандлем нэпманскім. Партыя вяла барацьбу за такую арганізацыю гандлю, пры якой і каапэрацыя і дзяржаўны гандаль правільна і магчыма паўней абслугоўвалі-б патрэбы горада і вёскі, рабочых і калгаснікаў.

Барацьба з нэпманскімі скажэннямі затруднялася недаацэнкай гандлю з боку значнай часткі членаў партыі. Мы мелі справу з высокамернымі, пагардлівымі адносінамі да гандлю наогул, да совецкага гандлю ў прыватнасці. Было нямала камуністаў, якія разглядалі совецкі гандаль, «як другарадную, нявартую справу, а работнікаў гандлю—як канчаных людзей» **(І. Сталін).** Гэтых людзей, ігнаруючых совецкі гандаль, недаацэньваючых яго значэння, тав. Сталін ахарактарызаваў як людзей, выражаючых не бальшэвіцкія погляды, «а погляды захудалых дваран, маючых вялікую амбіцыю, але пазбаўленых усякай амуніцыі».

Тав. Сталін з усёй рашучасцю падкрэсліў, што «совецкі гандаль ёсць наша родная, бальшэвіцкая справа, а работнікі гандлю, у тым ліку работнікі прылаўка, калі толькі працуюць чэсна,—з'яўляюцца праваднікамі нашай, рэволюцыйнай, бальшэвіцкай справы» Партыя асудзіла барскія адносіны да совецкага гандлю і дабілася рэзкага ўзмацнення ўвагі з боку ўсіх партыйных арганізацый да разгортвання совецкага гандлю. Бясспрэчна, што тыя поспехі, якія ёсць за апошнія гады,—перш за ўсё рэзультат агромнай увагі, якую ўдзяляюць каапэрацыі і дзяржаўнаму гандлю большасць мясцовых партыйных арганізацый.

Партыі прышлося вытрымаць барацьбу за арганізацыю совецкага гандлю і са спробамі пераскочыць праз этап совецкага гандлю. Партыі прышлося вытрымаць барацьбу з лявацкай балбатнёю аб непатрэбнасці совецкага гандлю, аб магчымасці безадкладнага пераходу да социялістычнага тавараабмену. Людзі, займаўшыяся лявацкай балбатнёю, сцвярджалі, што

> «совецкі гандаль з'яўляецца нібы пройдзенай стадыяй, што нам трэба наладзіць прамы прадуктаабмен, што грошы будуць хутка адменены, бо яны ператварыліся нібы ў простыя разліковыя знакі, што непатрэбна развіваць гандаль, калі стукаецца ў дзверы прамы прадуктаабмен» **(І. Сталін).**

Гэтая лявацка-дробнабуржуазная балбатня стварыла ў 1930—31 г. значныя цяжкасці ў справе разгортвання таваразвароту. На складах скапілася агромная колькасць тавараў, якая не прасоўвалася ў раёны, правільна не выкарыстоўвалася. Гэтай балбатнёю аб непатрэбнасці совецкага гандлю, людзі, няздольныя арганізаваць гандаль, прыкры-

валі сваю бяздзейнасць, сваё нежаданне і няўменне наладзіць складаную справу совецкага гандлю.

Тав. Сталін у сваім выдатным дакладзе даў рашучы адпор гэтай лявацкай балбатні. Ён указаў:

> «Гэтыя людзі, якія так сама далёкі ад марксізма, як неба ад зямлі, відавочна, не разумеюць, што грошы застануцца ў нас яшчэ доўга, аж да завяршэння першай стадыі комунізма,—соцыялістычнай стадыі развіцця. Яны не разумеюць, што грошы з'яўляюцца тым інструментам буржуазнай эканомікі, які ўзяла ў свае рукі совецкая ўлада і прыстасавала да інтарэсаў соцыялізма для таго, каб разгарнуць ва-ўсю совецкі гандаль і падрыхтаваць тым самым умовы для прамога прадуктаабмену. Яны не разумеюць, што прадуктаабмен можа прыйсці толькі на змену і ў рэзультаце ідэальна наладжанага совецкага гандлю, чаго ў нас няма і ў паміне і што не скора будзе ў нас».

Партыя разграміла лявацкіх балбатуноў і дабілася значнага развароту совецкага гандлю. Аднак ,сучасны стан таваразвароту не можа задаволіць узросшыя запатрабаванні.

> «Задача заключаецца ў тым, каб разгарнуць далей совецкі гандаль, уцягнуць у гэтую справу мясцовую прамысловасць, узмацніць калгасна-сялянскі гандаль і дабіцца новых рашаючых поспехаў у галіне ўздыму совецкага гандлю».

Гэта ўказанне т. Сталіна з'яўляецца праграмай работы для ўсіх гандлюючых арганізацый, для ўсёй партыі. За выкананне гэтай праграмы, за ўсямернае разгортванне совецкага гандлю, за лепшае выкарыстанне вытвараемых у нашай краіне тавараў, за больш правільнае задаваленне патрэбнасцей рабочых і калгаснікаў, за ўсямерную дапамогу ў рэалізацыі лозунга партыі аб заможнасці ўсіх працоўных—павінны мабілізаваць свае сілы ўсе партыйныя арганізацыі, усе комуністы, усе комсамольцы і ў першую чаргу паўтарамільённая армія работнікаў совецкага гандлю.

# Правільна арганізаваць пасьбу жывёлы

На XVII з'ездзе ВКП(б) тав. Сталін указаў, што «1934 год павінен і можа стаць годам пералому к уздыму ва ўсёй жывёлагадоўчай гаспадарцы». Адна з умоў для таго, каб з найбольшым поспехам выканаць гэта ўказанне правадыра партыі і сусветнага пралетарыята—правільная арганізацыя пасьбы жывёлы. Абавязак кожнага калгаса і соўгаса—арганізаваць ва што-б там ні стала правільную пасьбу сваёй жывёлы на працягу ўсяго выпаснага перыяда.

## Арганізацыя працы

Правільная пасьба жывёлы немагчыма без узмацнення жывёлагадоўчай брыгады і палепшання яе працы. Таму кожны калгас і соўгас павінны безадкладна пераглядзець свае жывёлагадоўчыя брыгады з тым, каб канчаткова знішчыць цякучасць у іх, укамплектаваць іх найбольш адданымі сацыялістычнаму будаўніцтву, праверанымі рабочымі соўгасаў і калгаснікамі, якія любяць справу жывёлагадоўлі, стварыць у кожнай брыгадзе моцнае партыйна-камсамольскае ядро, а вакол яго—моцны актыў з лепшых калгаснікаў і рабочых соўгасаў.

Пад кіраўніцтвам мясцовай партарганізацыі, палітаддзелаў МТС і соўгасаў кожная брыгада павінна наладзіць у сябе сістэматычную палітычную і заатэхнічную вучобу. На занятках у першую чаргу добра прапрацаваць пастановы XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, асабліва пытанне аб жывёлагадоўлі, а таксама асноўныя правілы кармлення, догляду і ўтрымання жывёлы ў выпасны перыяд, правілы злучкі, прыёму і гадоўлі прыплоду і інш.

Кожны член брыгады павінен яшчэ больш павысіць сваю класавую пільнасць, каб у любы момант быць гатовым разграміць магчымыя вылазкі класавага ворага па падрыву нашага сацыялістычнага будаўніцтва і ў прыватнасці па зрыву выканання пастаноў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б аб жывёлагадоўлі.

Пад кіраўніцтвам партыі, праз сістэматычныя шырокія вытворчыя нарады і штодзенную вучобу, брыгады павінны выхаваць сярод сваіх членаў сапраўды сацыялістычныя адносіны да грамадскай маемасці, як асновы сацыялістычнага ладу, і да выканання сваіх абавязкаў. Яны павінны дабіцца найбольш правільнага выкарыстання выпасаў, кармоў, будынкаў і інвентара, найлепшага догляду і ўтрымання кожнай галавы даручанага пагалоўя і найбольш паспяховага выканання ўсіх колькасных і якасных паказчыкаў свайго плана.

У выпасны перыяд кожная брыгада, як правіла, даглядае тое-ж пагалоўе, што і ў стойлавы перыяд. Скотніцы-даяркі абслугоўваюць тых-жа кароў, што і ў стойлавы перыяд. Што датычыць скотнікаў і падвозчыкаў кармоў і вады, то частка іх па-ранейшаму выконвае

свае абавязкі, частка выдзяляецца ў якасці пастухоў, а астатнія на час выпаснога перыяда пераключаюцца на пабудову і рамонт будынкаў для жывёлы, сілосных веж і траншэй і на кормаздабыванне. У свінаводных брыгадах адзін з членаў брыгады даглядае і корміць супаросных матак, другі—падсосных, а трэці—астатняе пагалоўе. Пры ўтрыманні свіней у лагерах часам бывае патрэбна прызначыць у дапамогу трэцяму члену брыгады падпаска.

У якасці пастуха выдзяляецца найбольш вопытны член брыгады. Пастух мае важнейшае значэнне ў правільным утрыманні жывёлы ўлетку. Своечасовае паенне жывёлы, выкананне плана злучкі, аказанне першай дапамогі захварэўшай жывёле, правільнае скарыстанне выпасаў залежыць ад пастуха амаль ў такой-жа меры, як і ад брыгадзіра. Праўленні калгасаў і дырэктары соўгасаў павінны арганізаваць кароткатэрміновыя курсы, каб даць магчымасць выдзеленым пастухам добра навучыцца як лепш арганізаваць пасьбу жывёлы, як дапамагаць ёй пры магчымых захворваннях, забяспечыць найбольш паспяховае выкананне плана злучкі і інш.

Уся праца брыгады павінна праводзіцца на аснове вытворчага планавага задання, па строгаму ўнутранаму распарадку. У брыгадзе павінен быць дакладнейшы ўлік працы, прадукцыі і кармоў. Без уліку немагчыма скласці правільны план злучкі, ацёлаў, апаросаў і ажаробаў, правільна наладзіць кармленне жывёлы, нельга забяспечыць своечасовае выкананне плана здачы дзяржаве жывёлагадоўчай прадукцыі і разлічыць аплату працы калгаснікаў і рабочых соўгасаў.

Умацаваннем брыгады і чоткім размеркаваннем абавязкаў паміж яе членамі неабходна поўнасцю выкарчаваць астаткі падзёншчыны на фермах і абязлічку ў доглядзе за жывёлай, увесці сапраўдную здзельшчыну па колькасці і якасці прадукцыі, а таксама грашовае і натуральнае прэміяванне лепшых брыгад і паасобных членаў брыгад.

Апошняя пастанова партыі і ўрада ўносіць далейшае палепшанне ў аплату працы чэсна працуючых па жывёлагадоўлі калгаснікаў і калгасніц. Так, за кожную пакрытую карову даярцы-скотніцы дадаткова налічваецца 2 працадні, скотніку-пастуху і брыгадзіру па 0,5 працадні. За кожную здаровую і прыгодную для расплоду ялавую карову з даяркі-скотніцы спісваецца 5 працадзён, а са скотніка-пастуха і брыгадзіра—па працадню.

Апрача таго, у калгасах за кожную своечасовую злучку і добры расцёл выплачваецца грашыма даярцы-скотніцы 5 рублёў і скотніку-бычніку 1 рубель. За паспяховае правядзенне злучкі матачнага пагалоўя жывёлы калгаснікаў і аднаасобнікаў загадчыкі ферм ці старшыні праўленняў, а таксама скотнікі-бычнікі ці пастухі прэміруюцца за кошт выручанай платы за злучку.

За кожны нармальны расцёл дадаткова налічваецца даярцы-скотніцы 4 працадні і скотніку-пастуху 1 працадзень. За кожнае загінуўшае цяля, якое нарадзілася жывым, з даяркі-скотніцы спісваецца 10 працадзён, са скотніка-пастуха 3 працадні.

Цялятніцам за кожнае добра выгадаванае да 3-х месяцаў цяля налічваецца 6—7 працадзён, а ад 3-х да 12 месяцаў—8—10 працадзён. Брыгадзіру за кожнае да 12 месяцаў цяля налічваецца 1 працадзень. За паўшае да 3-х месячнага ўзросту цяля з цялятніцы спісваецца: за першае цяля 5 працадзён, за другое—10, за трэцяе—20; з брыгадзіра за кожнае паўшае цяля спісвецца 10 працадзён

За кожную своечасова і добраякасна злучаную кабылу конюху налічваецца прэміі 1 працадзень, а за кожную непакрытую прыгодную

для расплоду кабылу з яго спісваецца 5 працадзён. За кожную нармальную выжарабку конюху налічваецца прэміі 5 працадзён. За кожную абартаваўшую кабылу спісваецца з калгасніка, па віне якога адбыўся аборт, 20 працадзён. За кожнае добра выгадаванае да аб'ёму жарабя конюху налічваецца прэміі 10 працадзён. За кожнае паўшае па віне конюха жарабя спісваецца 20 працадзён, а за жарабя, паўшае па віне конюха пасля ад'ёму—30 працадзён.

Кожны член жывёлагадоўчай брыгады павінен ведаць, што толькі на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва можна з найбольшым поспехам выканаць вытворчы план, а разам з тым палепшыць свой дабрабыт.

Усе выпадкі нядбайных ці нядобрасумленных адносін да сваіх абавязкаў павінны быць своечасова абгавораны на вытворчых нарадах брыгад і ліквідаваны. Вінаватыя ў парушэнні ўстаноўленых правіл кармлення, утрымання і выкарыстання жывёлы павінны падвяргацца грамадскаму ганьбаванню, занясенню на чорную дошку, а ў асоба злосных выпадках перадавацца пролетарскаму суду. Члены брыгад і цэлыя брыгады, якія найбольш добрасумленна выконваюць свае абавязкі і вытворчыя планы, павінны заносіцца на чырвоную дошку і прэміявацца.

## Пасьбу жывёлы арганізаваць па плану

Правільная арганізацыя пасьбы магчыма толькі на аснове добра распрацаванага плана, што з'яўляецца першачарговай задачай кожнай фермы і кожнай жывёлагадоўчай брыгады.

У гэтым плане неабходна: а) вызначыць патрэбнасць для кожнага віду жывёлы ў выпасным корме; б) улічыць усе выпасныя ўжыткоўнасці данага калгаса ці соўгаса і магчымую іх прадукцыйнасць; в) вызначыць парадак пасьбы жывёлы на кожнай з гэтых ужыткоўнасцей.

Коні рабочыя і свінні павінны пасвіцца асобна ад іншых відаў жывёлы. Буйная рагатая жывёла і авечкі могуць пасвіцца разам, вытворнікі, жаробныя і падсосныя кабылы, сцельныя і дойныя каровы, супаросныя і падсосныя свінаматкі і маладняк павінны падзяляцца для пасьбы ў асобныя групы.

Колькасць зялёнай травы на галаву жывёлы залежыць ад жывой вагі і ўкормленасці жывёлы, ад якасці травы і размеру падкормкі іншымі кармамі.

Каровам добрай зялёнай травы ў якасці падтрымліваючага корму на натуральных выпасах даецца прыблізна 16-20 кгр. і на ўтварэнне малака па 2,5 кгр. на кожны кгр. малака. Маладняку да 1 года даецца 16-20 кгр. зялёнай травы, маладняку больш года і адкармліваемаму пагалоўю—38-42 кгр.

Свінаматцы дарослай даецца 8-10 кгр. зялёнай травы, кныру—5-8 кгр., адкормачнікам і рамонтным падсвінкам 4-6 кгр., парасятам—2-6 кгр. Дарослы конь з'ядае да 50 кгр. зялёнай травы, авечка—да 6 кгр.

Плошча выпасу на 1 галаву жывёлы таксама залежыць ад якасці выпасу, віду жывёлы і яе падкормкі. Натуральнага выпасу ў сярэднім на дарослую галаву жывёлы патрэбна 0,5—2 га, а на адну авечку—каля 0,5 га. Штучных выпасаў на свінаматку з прыплодам ад яе трэба 0,5-1 га.

Але гэта вельмі арыентовачныя даныя. Кожны калгас і соўгас павінен удакладніць іх, выходзячы са сваіх мясцовых умоў, вызна-

чыць патрэбную колькасць зялёных кармоў для сваіх груп жывёлы і падлічыць агульную колькасць зялёных кармоў для ўсёй сваёй жывёлагадоўлі. З гэтай-жа вясны дакладна ўлічваць, колькі галоў і ў які час выпаснага перыяда пасвілася на кожным участку выпасу.

Асноўнымі для жывёлы служаць натуральныя выпасы калгаса і соўгаса, а таксама спецыяльныя выпасы ў палявых і прыфермавых севазваротах. У многіх калгасах і соўгасах для пашы выкарыстоўваюцца таксама лясы мясцовага значэння. Для свінаферм важнейшае значэнне маюць штучныя выпасы—пасевы канюшыны, віка-аўсянай мешанкі, кораньплодаў і інш. На вывадным кліне добра пасеяць для свіней некалькі гектараў тапінамбура, які ранняй вясною дае надзвычай добры сакавіты корм. Задача калгасаў і соўгасаў—дакладна ўлічыць усе свае ўжыткоўнасці і іх прадукцыйнасць.

Па кожнаму ўчастку выпасу неабходна ўстанавіць плошчу, час пасьбы жывёлы і магчымую ўраджайнасць зялёнай травы з гектара і ўсяго ўчастка.

Ураджайнасць зялёнай травы з гектара вызначаецца некалькімі спосабамі. Найбольш просты з іх—параўнанне выпасу з суседнім участкам луга, блізкага па сваіх прыродных умовах з выпасам, лічачы 1 цнт. сена роўным 4-5 цэнт. зялёнай травы. У залежнасці ад якасці выпасу ўраджайнасць яго бярэцца роўнай, меншай, або большай за ўраджайнасць адпаведнага луга. Гэты спосаб—асноўны пры першапачатковых разліках прадукцыйнасці выпасаў. Атрыманыя вывады неабходна ў далейшым дапоўніць данымі другога спосабу вызначэння ўраджайнасці выпасаў.

Другі спосаб. У розных месцах кожнага загона бярэцца некалькі пляцовак па 50-100 кв. метраў. Перад кожным страўліваннем загона траву з гэтых пляцовак скашваюць, важаць і ў зялёным выглядзе скармліваюць жывёле. Агульная колькасць травы з усіх пляцовак загона за ўвесь выпасны перыяд у пераводзе на адзін гектар і прымаецца арыентавачна за ўраджайнасць данага загона.

Аднак і першы і другі спосаб груба прыблізныя. Таму кожны калгас і соўгас для канчатковых разлікаў павінен устанавіць ураджайнасць травы на сваіх выпасах пасля праверкі і параўнання вынікаў абодвух гэтых спосабаў, а не прымаць за канчатковую ўраджайнасць першую атрыманую лічбу. Ураджайнасць зялёнай травы па кожнаму выпасу неабходна браць не наогул за ўвесь выпасны перыяд, а ... асобных месяцах. За май-чэрвень нарастае прыблізна да 50 проц. усёй зялёнай масы на нашых выпасах, за ліпень-жнівень—да 40 проц. і за верасень да 10 проц.

Улічыўшы выпасныя ўжыткоўнасці і іх прадукцыйнасць, неабходна ўстанавіць парадак пасьбы жывёлы. Для гэтага найперш вызначаецца для кожнай вытворчай групы і віду жывёлы пэўны ўчастак і час пасьбы, каб кожная галава жывёлы была ўдоваль забяспечана добрай пашай.

Для вытворнікаў, падсосных кабыл і свінаматак, дойных кароў і маладняка патрэбны лепшыя выпасы. На нізкія забалочаныя выпасы нельга пускаць свіней, маладняк буйнай рагатай жывёлы, коняй і авечак, бо такія выпасы моцна заражаны зародкамі глісных хвароб, ад якіх часта гіне багата авечак, цялят, парасят і жарабят. Нельга дапускаць таксама пасьбу маладняка па кустарнікавых выпасах,—там шмат кляшчэй, якія прычыняюць маладняку крывавую мачу, ліхаманку і іншыя хваробы.

Далей вызначаецца нагрузка выпасу, ці інакш кажучы: колькі гектараў выпасу адвесці на ўвесь перыяд пашы для адной галавы кожнага віду жывёлы.

Вызначэнне нагрузкі—вельмі важны момант, бо пры перагрузцы выпасу жывёла моцна вытаптвае яго, і лепшыя травы выпадаюць з травастою; пры недагрузцы-ж застаецца няз'едзенай шмат каштоўнай травы і ўся малакаштоўная расліннасць, якая абнасеньваецца і вельмі засмечвае выпасы.

Больш правільна вызначаць нагрузку выпасу па сярэдня-месячнаму прыросту травы за ўвесь перыяд пашы. Пры разліках па такому спосабу магчым некаторы астатак зялёнай масы ў першай палове выпаснага перыяда, але яе можна скрыстаць на сена ці сілос. Невялікі-ж недахоп травы ў другой палове лёгка можна пакрыць зялёнаю падкормкай. Калі будзе заўважана, што нагрузка выпасу вызначана няправільна, трэба безадкладна паменшыць ці павялічыць яе.

Не менш важнае пытанне—сістэма пасьбы. Зараз у многіх калгасах і соўгасах жывёла ходзіць па ўсяму выпасу. Найбольш смачныя травы вышчыпваюцца, большасць травы вытаптваецца, каштоўныя травы паступова знікаюць з травастою, а іх месца займаюць малакаштоўныя.

Ёсць сродак унікнуць няправільнага скарыстання выпасаў—гэта арганізаваць загонную сістэму. Пры загоннай сістэме выпас дзеліцца на некалькі ўчасткаў. У той час як адзін участак страўліваецца жывёлай, на другім трава адрастае. Пры такім парадку пасьбы жывёлы паўней выкарыстоўваецца трава на ўсім выпасе, застаючыся маладой і свежай. А гэта забяспечвае большую колькасць мяса і малака з аднаго гектара выпасу.

Спыняецца пасьба жывёлы на кожным загоне не пазней таго часу, калі вышыня астаткаў травы будзе 5—6 см. Далейшая пасьба на такім загоне аслабіць травастой. Буйнай рагатай жывёлай, коньмі і авечкамі на працягу выпаснага перыяда страўліванне аднаго і таго-ж загону дапушчальна не больш як 3—4 разы. Свіней можна зварочваць на той самы загон для страўлівання той-жа культуры на працягу выпаснага перыяду толькі ў тым выпадку, калі выпасы калгаса ці соўгаса не заражаны глістамі. У сувязі з гэтым страўліванне свіннямі атавы на адным і тым самым загоне дапушчальна толькі з дазволу ветурача.

Колькасць загонаў вызначаецца ў залежнасці ад размераў і якасці кожнага ўчастку выпасу, а таксама ад размеру стада. Увогуле колькасць загонаў трэба ўстанаўляць з такім разлікам, каб пэўную групу жывёлы можна было пасвіць на кожным загоне 5—7 дзён і выпускаць на яго зноў, як адрасце трава.

Прыблізны размер загону залежыць ад якасці выпасу, віду жывёлы і размеру стада. Напрыклад, для стада, буйнай рагатай жывёлы ў 100 галоў загон павінен раўняцца 10—20 гектарам. Страўліваемыя загоны пажадана абгароджваць некалькімі жэрдкамі, якія пераносяцца з аднаго загона на другі. Загоны наразаць так, каб даўжыня іх была у 2—3 разы больш шырыні. Усе загоны неабходна звязваць дарогай, каб забяспечыць вольны праход жывёлы з загону на загон, а таксама да вадапою, на стойла (месца адпачынку жывёлы на пашы) і на ферму.

Пры першым страўліванні выпасу, каб не дапускаць агрубення травы на загонах, яе мэтазгодна часткова падкасіць, на сена, але з та-

кім разлікам, каб яна паспела адрасці к пачатку пасьбы да патрэбных размераў.

Даныя доследаў паказваюць, што для правільнага выкарыстання нашых выпасаў мэтазгодна кожнаму загону даваць адпачынак прыблізна праз кожныя 3 гады. У год адпачынку трава на такім загоне падсейваецца дзе трэба і скарыстоўваецца на сена.

Пускаць жывёлу на пашу ўвесну можна толькі тады, калі глеба на выпасе даволі прасохне і трава дасягне 15 см вышыні. Інакш жывёла, пушчаная на непрасохшы выпас з празмерна вільготнаю глебай, вытапча траву капытамі, што аслабіць травастой і знізіць ураджайнасць выпасу.

Спасванне канюшыны неабходна арганізаваць да пачатку яе цвіцення, а віка-аўсянай мешанкі—да выкідання мяцёлак аўсом. Але травастой у пачатку спасвання гэтых культур павінен быць таксама не ніжэй 10 см.

Спазненне з пачаткам пасьбы таксама немэтазгодна: трава трубее і неахвотна паядаецца жывёлай. Увосень пасьба спыняецца да пачатку сталых замаразкаў. Каб забяспечыць нармальны рост травы на выпасе, пасьбу жывёлы кожны год трэба пачынаць з розных загонаў.

Нармальны стан здароўя жывёлы і правільнае скарыстанне выпасу магчымы толькі пры строга ўстаноўленым парадку пашы, які складаецца брыгадзірам і зацвярджаецца праўленнем калгаса. Для розных відаў і груп жывёлы і на розных выпасах парадак гэты неаднолькавы, але ён павінен забяспечыць жывёле найлепшую пашу і адпачынак у дзень і ўночы, прадугледзець—калі выганяць і прыганяць жывёлу з кожнага выпасу, калі і дзе паіць, чым і ў якім размеры падкармліваць і т. д. Прыблізныя тэрміны пасьбы для свіней: ад 4 да 8—9 раніцы і з 3 да 6—7 гадзіны ўвечары.

## Падрыхтоўка жывёлы на пашу

У падрыхтоўчы перыяд да выпасу кармленне і догляд жывёлы не павінны пагоршыцца ў параўнанні са стойлавым. Буйнай рагатай жывёле карысна даваць у гэты час добры сілос і караняплоды.

Перад пераводам на выпас неабходна правесці ветсанітарны агляд усяго пагалоўя. Хворую і падазроную ў захворванні жывёлу трэба выдзеліць у асобую групу і паставіць на адпаведнае лячэнне. Пасвіць такую жывёлу асобна ад астатняга пагалоўя.

Адначасова ўсяму пагалоўю неабходна падрэзаць і расчысціць капыты, бо зімой яны няроўнамерна разрастаюцца, і жывёла часам кульгае. Лепш, каб гэта зрабіў ветработнік, калі-ж яго няма, то даручыць гэта вопытнаму кавалю, даўшы ў дапамогу яму брыгадзіра. У бадлівых кароў трэба абрэзаць на 1—2 см. кончыкі рагоў. У авечак абстрыгчы шэрсць каля вачэй, на хвасце і на ляжках паміж задніх ног.

Уся жывёла павінна быць ачышчана ад лічынак аваднях. Гэту работу лепш праводзіць сіламі знішчальнай станцыі, а дзе гэта немагчыма—сіламі саміх калгасаў і соўгасаў.

З гэтай мэтай у першую чаргу неабходна ўважліва агледзець кожную галаву буйнай рагатай жывёлы. Маленькія бугаркі на целе жывёлы—гэта месцы, дзе знаходзяцца лічынкі (чарвякі), з якіх пазней разаўюцца авадні. Абстрыгшы вакол такіх бугаркоў шэрсць, асцярожна пальцамі выдаўліваюць на паверхню скуры лічынак, выцягваюць іх з бугаркоў пры дапамозе пінцэта і, сабраўшы ў кучу, абліваюць керасінам і спальваюць. Але ні ў якім разе нельга раздаўліваць

лічынак авадня ў целе жывёлы: ад гэтага ў жывёлы будуць вялікія нарывы. Бугаркі, з якіх выціснуты лічынкі, абавязкова абмыць растворам крэаліна і змазаць ёдам ці дзёгцем.

У гэты-ж час кожны від жывёлы разбіваецца на групы для пашы. Размер стада ў асноўным вызначаецца колькасцю пагалоўя калгаса ці соўгаса, плошчай і характарам выпасу. Пры арганізацыі стада трэба мець на ўвазе, што вялікае стада цяжка праганяць на пашу і назад, для яго патрэбны вялікія загоны на выпасах, што ва многіх калгасах зрабіць немагчыма, пры малых-жа загонах выпас хутка будзе папсаваны. Вялікае стада цяжка трымаць на выпасе і забяспечыць яму роўнамернае напасванне. Таму ў калгасах і соўгасах з вялікай колькасцю жывёлы мэтазгодна дзяліць яе на некалькі стад. Прыблізны размер стада для буйнай рагатай жывёлы—каля 100 галоў дарослага пагалоўя. К гэтаму-ж стаду можна дадаць 20—30 авечак, дзе практыкуецца паша іх сумесна з буйнай рагатай жывёлай.

Свінні, пры вялікай колькасці іх у калгасе ці соўгасе, падзяляюцца для пашы на вытворчыя групы. Там-жа, дзе стада 80—100 галоў, яго можна падзяліць на 2 групы: у першую групу выдзеліць супаросных і падсосных матак і маладняк да 4-х месяцаў, у другую—халастых матак, адкормачнікаў і рамонтных свінак.

На кожную галаву жывёлы трэба завесці спецыяльны пашпарт, дзе гэта яшчэ не зроблена. У пашпарце ўказаць узрост і жывую вагу жывёлы, для матачнага пагалоўя ўказаць колькасць ацёлаў, апаросаў, ажаробаў, акотаў, для сцельных кароў указаць час ацёлу, для свінаматак час апаросу, для жаробных кабыл час ажаробу; для падсоснага матачнага пагалоўя—прыблізны тэрмін ад'ёму маладняка; для дойных кароў паказаць велічыню ўдою, а для адкормачнікаў пачатак і канец адкорму і час здачы дзяржаве.

Без такіх вестак нельга забяспечыць своечасовую падрыхтоўку да злучкі матачнага пагалоўя, своечасова выдзеліць у асобную групу сцельных кароў, жаробных кабыл, супаросных матак, правільна прыняць маладняк, своечасова і добраякасна выканаць план здачы дзяржаве жывёлагадоўчай прадукцыі. Без гэтых звестак немагчыма арганізаваць перыядычную праверку выканання колькасных і якасных паказчыкаў плана кожнай брыгадай і паасобнымі яе членамі.

Жывёла замацоўваецца за пэўнай вытворчай брыгадай і здаецца ёй пад распіску яшчэ з восені; а там, дзе гэтага ў свой час не было зроблена,—зрабіць зараз. Пастуху жывёла таксама здаецца пад распіску. Перад выганам на пашу пастух кожны раз абавязан уважліва агледзець сваё пагалоўе. Захварэўшую ці падазроную ў захворванні жывёлу безадкладна выдзеліць з агульнага стада і паставіць на лячэнне, а ўсё астатняе пагалоўе, пералічыўшы, гнаць на пашу. Пасля пашы брыгадзір таксама павінен пераглядзець разам з пастухом усё пагалоўе і прыняць яго ад пастуха па падліку.

Пастух павінен пільна сачыць за выяўленнем цечкі (ахвоты) у халастых і падсосных матак. Пра кожную выяўленую ў ахвоце матку паведамляць брыгадзіра ці загадчыка фермы, каб забяспечыць своечасовую злучку. Пастух-жа павінен весці дакладны ўлік злучак і паведамляць аб іх брыгадзіру ці загадчыку фермы.

Пераводзіць жывёлу са стойлавага ўтрымання на пашу і наадварот трэба паступова—інакш жывёла можа захварэць паносам, уздуццем трыбуха і т. д. Першыя дні жывёла выпускаецца на пашу на 1-2 гадзіны, прычым лепш у другую палову дня, чым зранку.

Коням грубыя і канцэнтраваныя кармы даюцца таксама і ў першыя 10—15 дзён пасьбы і (па меры патрэбнасці) ў перыяд найбольш напружаных работ. Перад выпускам на канюшыну і на пашу, пакрытую расой і інеем, коняй неабходна трохі падкарміць грубым кормам.

Буйная рагатая жывёла пераводзіцца на пашу на працягу 7—10 дзён. Дача стойлавых кармоў паступова змяншаецца з 3—4 дня пашы. Аднак падкормка грубым кормам захоўваецца на працягу ўсяго пераходнага перыяда і ў далейшым па меры патрэбнасці, асабліва перад выпускам жывёлы на канюшыну. Першыя дні пасвіць жывёлу па канюшыне не больш 2—3 гадзін. Сцельных кароў і цялят выпускаць на пашу толькі пасля таго, як абсохне зямля і ўстановіцца добрае надвор'е.

Свінні пераводзяцца на пашу на працягу 4—6 дзён. Пры мокрым надвор'і свінням даецца зялёная трава ў лагерах ці на ферме. Апрача зялёнай травы свінні павінны падкармлівацца канцэнтратам. НКЗ СССР раіць наступныя прыблізныя нормы падкормкі канцэнтратамі на адну галаву ў дзень: кныру 1—2 кгр., матцы халастой—0,5—1 кгр., матцы супароснай 1—1,5 кгр., матцы падсоснай 2—3 кгр., парасятам 0,3—0,5 кгр., парасятам ад 3—4 месяцаў 0,5—1 кгр.; адкормачнікам ад 4 да 5 месяцаў 1—1,5 кгр., ад 5 да 6 месяцаў 1,5—2 кгр., ад 6 да 7 месяцаў 2—2,5 кгр.; ад 7 да 8 месяцаў 2—2,8 кгр.; рамонтным падсвінкам ад 4 да 5 месяцаў 0,6—1,2 кгр., ад 5 да 6 месяцаў 0,8—1,5 кгр., ад 6 да 7 месяцаў 1—1,8 кгр., ад 7 да 8 месяцаў 1,2—2 кгр. Парасятам за час падсоснага перыяда і за першыя 20 дзён пасля ад'ёму неабходна даць да 8 літраў цэльнага і да 12 знятага малака.

Мінеральная падкормка для ўсіх груп свіней абавязкова. Прыблізныя нормы мінеральнай падкормкі на адну галаву: падсосным маткам 40 грам у дзень, кныру, халастым і супаросным маткам 30 грам, маладняку і адкормачнікам 20 грам. Састаў мінеральнай падкормкі: 4 часткі молатага вапняка ці крэйды і 2 часткі солі, або 4 часткі молатага вапняка ці крэйды, 4 часткі касцяной мукі і 2 часткі солі. Падкормка канцэнтратамі, грубым і зялёным кормам і мінеральнымі матэрыямі павінна быць забяспечана таксама для конскага пагалоўя і буйнай рагатай жывёлы. Прычым вытворнікі, высокаўдойныя каровы і падсосныя кабылы павінны падкармлівацца на працягу ўсяго выпаснага перыяда.

Авечкі пераводзяцца на пашу на працягу 7—10 дзён. Падсосныя свінаматкі і авечкі выпускаюцца на пашу толькі пасля таго, як настане цёплае надвор'е.

Для лепшага скарыстання выпасаў кожны дзень пачынаць пашу не з новых участкаў загону, а з тых самых, на якіх жывёла ўжо пасвілася ўчора. На лепшыя ўчасткі ў першую чаргу пускаецца больш прадукцыйная жывёла, маладняк, вытворнікі.

Пасвіць жывёлу на загонах трэба не ўразброд, а паступова, з-пад нагі. Перасоўвацца па выпасу жывёла павінна таксама паступова, інакш яна не зможа як след напасвіцца. Папасам жывёла перасоўваецца к вадапою, на стойла, на ферму. У праціўным выпадку яна вельмі стамляецца і зніжае сваю прадукцыйнасць.

Паіць жывёлу з незаражаных рэчак, калодзежаў, крыніц не менш 2—3 раз у дзень. Вадапой на рэчках і азёрах трэба агарадзіць, каб прад загародку пралазіла толькі галава жывёлы. Пры атсутнасці загародкі жывёла будзе забруджваць вадапой. Каля калодзежа зрабіць з пяску ўзвышша, без чаго вакол калодзежа заўжды будзе лужа бруднай вады. На вадапоі і блізка каля яго нельга мыць бялізну, мачыць лён,

пяньку і т. д., каб не забрудзіць і не заразіць ваду. Усе канавы, копанкі на выпасах з дрэннай вадою абавязкова абгарадзіць. Калі-ж яны для гаспадаркі не патрэбны, то лепш зусім засыпаць іх зямлёю, інакш жывёла будзе піць з іх ваду і захварэе. Калі жывёла п'е ваду з агульнай калоды, то калоду перад кожным паеннем трэба добра вымываць.

Адлегласць вадапою ад выпасу для дойных кароў і авечак не больш 2-х кілометраў, для маладняка—не больш 1,5 клм. Для свіней вада дастаўляецца ў лагер ці на ферму, а таксама і на пашу ў бочках.

Стойла арганізуецца не далей як за 0,5 кілометра ад вадапою. Для стойла і лагераў для свіней павінна быць выбрана ўзвышанае, сухое, зацішнае месца. Добра, каб на стойле былі буйныя дрэвы для ацянення жывёлы. Рабіць стойла на паніжаных месцах нельга, бо пры дажджлівым надвор'і там заўсёды будзе мокра. Таксама недапушчальна скарыстоўваць для стойла кустарнікі, бо там шмат кляшчэй.

Плошча стойла на галаву буйнай рагатай жывёлы 5—7 кв. метраў. На стойле павінна быць павець для дойкі кароў. Лёгкая павець неабходна таксама і на выпасе для цялят.

Плошча лагера для супароснай і падсоснай маткі—16 кв. метраў, для халастой маткі і рамонтнага маладняка пры групавым утрыманні—5 кв. метраў, для адкормачнікаў—3 кв. метра і ад'ёмышаў—2 кв. метра. Каля 30 проц. усяго лагера павінна мець крышу, каб захаваць свіней ад мокрага і гарачага надвор'я.

У найбольш жаркія перыяды лета жывёла дрэнна адчувае сябе на пашы: сонца пячэ, авадні, сляпні і іншыя насякомыя вельмі кусаюць, жывёла непакоіцца, каровы зніжаюць удой і часта худзеюць. Унікнуць гэтага можна толькі шляхам арганізацыі кругласутачнай пасьбы, якая заключаецца ў тым, што жывёла пасвіцца ўначы, звечару і зранку, а ў найбольш жаркія гадзіны дня адпачывае. Выганяецца буйная рагатая жывёла на пашу гадзіне а 7—8 увечары і пасвіцца да 9—10 раніцы. Каровы з 2—3 гадзіны ўночы дояцца і зноў пускаюцца на пашу. Зранку каровы дояцца, падкармліваюцца зялёнай травою і потым адпачываюць. А 5—6 гадзіне ўвечары зноў дояць кароў і выганяюць на пашу.

Для начной пасьбы трэба выбіраць роўныя і найбольш сухія месцы. На сырых забалочаных выпасах часта бывае вельмі росна і туманна. Жывёла, асабліва маладняк, на такіх выпасах уночы прастужваецца і захворвае.

Начная паша патрабуе асабліва пільнай аховы пагалоўя ад ваўкоў, зладзеяў і т. д.

У гарачыя дні лета пасля абеду неабходна арганізаваць купанне жывёлы ў рэчках і азёрах з добрай незаражанай вадою. Але пускаць у купанне можна толькі неразгарачаную жывёлу. Матак у апошні перыяд цяжарнасці і ў першы перыяд падсоснасці замест купання неабходна абліваць падагрэтай на сонцы вадою. Штодзенна трэба чысціць усё пагалоўе і па меры патрэбнасці расчышчаць капыты.

## Выканаць план злучкі

Партыя і ўрад надаюць злучной кампаніі такое-ж значэнне як і веснавой сяўбе. Рашэнні XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б аб жывёлагадоўлі патрабуюць, каб ужо з 1934 года ні адна прыгодная ў расплод дарослая і маладая матка не засталася ялавай. Устаноўлены план злучкі павінен быць даведзен да кожнага калгаса, соўгаса, пасе-

лішча і абавязкова выканан. У калгасах і соўгасах план даводзіцца да кожнай брыгады, у паселішчах—да кожнага двара.

Каб з найбольшым поспехам выканаць план злучкі, неабходна перагледзець кожную дарослую і маладую матку і ўстанавіць для прыгодных у расплод прыблізны тэрмін злучкі. Адначасова трэба правесці дакладны ўлік усіх вытворнікаў. У кожным раёне і сельсовеце арганізаваць сетку злучных пунктаў.

Усім вытворнікам і прыгодным у расплод маткам палепшыць кармленне і догляд; без гэтага немагчыма нармальнае правядзенне злучкі. Для догляду за быкамі на злучных пунктах выдзеліць спецыяльных скотнікаў-бычнікаў, якія адказваюць за правільнае кармленне, догляд, выкарыстанне вытворнікаў і за ўлік злучак.

Злучка, як правіла, павінна быць ручная. Прычым лепшых матак трэба злучаць з лепшымі вытворнікамі. У конегадоўлі «ва ўсіх калгасах, маючых звыш 20 кабыл, за выключэннем конетаварных ферм, з наяўнай колькасці матак выдзеліць 30 проц. лепшых кабыл у асобы конеплпадовы табун калгасаў, прымацаваць да яго лепшую брыгаду на чале з брыгадзірам. Да гэтай групы матак далучыць для выхавання і вырошчвання ўвесь маладняк калгаса і выдзеліць лепшага вытворніка. Конеплпадовы табун лепшых кабыл калгаса скарыстоўваць на больш лёгкіх работах (з пастановы НКЗБ ад 28/II 1934 г.).

Каб папярэдзіць заражэнне вытворнікаў і матак у час злучкі, кожнага вытворніка і матку перад злучкай павінен абавязкова агледзець ветработнік.

Кожная жывёлагадоўчая брыгада, кожны пастух і конюх абавязаны своечасова выяўляць цечку. У кабыл на злучных пунктах цечка выяўляецца пры дапамозе спецыяльных жарабкоў-пробнікаў. Для выяўлення цечкі ў свінаматак неабходна штодзенна зранку праганяць кныра па калідоры свінарніка. У кароў, а таксама і ў астатніх матак, цечка распазнаецца па напуханню і пачырваненню знешніх палавых органаў, па выцячэнню слізі і т. д. За пропуск цечкі і несвоечасовае пакрыццё матак вінаватыя пастухі і конюхі падвяргаюцца штрафу.

Першая цечка ў падсосных матак наступае пасля родаў: у кабыл праз 7—14 дзён, у кароў праз 21—28 дзён, у свінаматак праз 28—35 дзён і ў авечак пасля ад'ёму. Працягваецца цечка 2—4 сутак. Магчымы выпадкі, што пры першым пакрыцці матка застаецца неабсемененай. Таму за злучанай маткай брыгада павінна пільна наглядаць і пасля злучкі, пробаваць яе вытворнікам, як і пры выяўленні першай цечкі, пакуль матка не пачне зусім адбіваць вытворніка. Цечка паўтараецца ў кабыл праз 7—10 дзён, у кароў праз 20—25 дзён, у свінаматак праз 21—28 дзён, у авечак праз 14—21 дзень. Усё матачнае пагалоўе неабходна падрыхтаваць да злучкі палепшаным кармленнем і доглядам. Схудалым кабылам перад злучкаю даць некалькі дзён адпачынку.

## Папярэдзіць і знішчыць хваробы жывёлы

Правільнага догляду, кармлення і ўтрымання жывёлы нельга арганізаваць там, дзе брыгада, асабліва брыгадзір і пастух, не ведаюць, як папярэдзіць захворванне, як распазнаць галоўныя хваробы і чым дапамагчы пры гэтым жывёле.

Усе хваробы жывёлы падзяляюцца на заразныя і незаразныя. Заразныя хваробы перадаюцца ад захварэўшай жывёлы здаровай пры

паенні з аднаго вадапою, карыта ці вядра, пры пасьбе на агульных выпасах, пры ўтрыманні ў агульных памяшканнях і іншымі спосабамі.

Узбуджальнікі заразных хвароб—рознага роду дробныя арганізмы—мікробы, якіх можна бачыць толькі пры дапамозе мікраскопа, а таксама глісты, кляшчы, лічынкі (чэрві). Мікробы знаходзяцца ў паветры, у вадзе і глебе. Найлепшыя ўмовы для быстрага і паспяховага развіцця мікробаў—сырыя памяшканні, недахоп святла і цяпла, бруд. Глісты найлепш размнажаюцца на мокрых выпасах. Месцам паспяховага размнажэння кляшчэй служаць кустарнікі, асабліва мокрыя.

Да незаразных хвароб адносяцца рознага роду вывіхі, раненні і інш.

Аднак галоўная прычына амаль усіх захворванняў і падзежу—дрэнная арганізацыя працы, кармлення і ўтрымання жывёлы.

У калгасах і соўгасах, дзе добра арганізавана праца і строга выконваюцца запатрабаванні зоатэхнікі, няма хворай жывёлы, усё прыгоднае ў расплод матачнае пагалоўе дае здаровы прыплод, зусім не бывае падзежу.

Таму барацьба з захворваннем жывёлы павінна зводзіцца ў першую чаргу да своечасовага папярэджвання хваробы.

Для гэтага патрэбна:

1. Даручыць догляд і кармленне жывёлы людзям, найбольш адданым сацыялістычнаму будаўніцтву і найбольш любячым справу жывёлагадоўлі, бо толькі такія людзі змогуць забяспечыць найлепшыя ўмовы кармлення, догляду і ўтрымання жывёлы.

2. Забяспечыць жывёлу чыстым, светлым, цёплым памяшканьнем. Карміць і даглядаць па строга ўстаноўленаму парадку. Не даваць жывёле папсаваных, дрэнных кармоў. Добра падрыхтоўваць кармы і правільна іх скармліваць. Не пасвіць жывёлу на заражаных выпасах. Не паіць яе бруднай і заражанай вадою.

Кожны выпас і вадапой калгаса і соўгаса перад карыстаннем абавязкова павінна агледзець ветсанітарная камісія. Яна павінна даваць указанні, як абеззаразіць выпас ці вадапой, каб папярэдзіць захворванне жывёлы.

3. Захварэўшую ці падазроную ў захворванні жывёлу безадкладна выдзеліць з агульнага стада ў ізалятар. Таксама і ўсю жывёлу, якая толькі што паступіла ў калгас ці соўгас, трэба ставіць у спецыяльнае памяшканне на карантын (праверку). Ва ўсіх падазроных выпадках выклікаць ветработніка. Ізалятар і карантыннае памяшканне павінны быць у кожным калгасе і соўгасе.

4. Памяшканне для жывёлы і інвентар фермы абавязкова дэзінфекцыяваць некалькі раз у год. Спачатку абмыць памяшканне і інвентар кіпячым шчолакам, потым добра ачысціць іх жорсткаю шчоткай ці венікам і нарэшце абмыць дэзінфекцыруючым растворам нягашанай вапны, крэалінам, карболкай.

5. Не менш разу ў месяц ветсанітарная камісія з ветработніка, брыгадзіра, загадчыка фермы павінна агледзець кожную галаву жывёлы, а таксама памяшканні, выпасы, вадапоі.

6. Кожная галава паўшай і прырэзанай жывёлы павінна быць агледжана ветработнікам. Па яго ўказанню труп жывёлы здаецца на раённую салатопку, або глыбока (на 1,5—2 метры) закапваецца ў зямлю на спецыяльных добра абгароджаных скоцкіх могілках, якія павінны быць у кожным калгасе і соўгасе. Ні ў якім разе не кідаць дзе папала трупы, трыбухі і іншыя часткі паўшай і прырэзанай жы-

вёлы. Выкінутыя на зямлю ці неглыбока закапаныя, яны паядаюцца сабакамі, праз якіх зараза распаўсюджваецца далей, на глебу, ваду, паветра.

7. Крыс, мышэй і брадзячых сабак трэба абавязкова знішчаць. Дамашніх сабак некалькі раз у год, асабліва ў выпасны перыяд, ачышчаць ад глістоў па ўказанню ветурача. Прычым у гэты час трымаць сабак на прывязі, кал іх збіраць і спальваць.

8. Рабочых коняй забяспечыць добра падагнанай збруяй. Не перагружаць іх у працы, даючы пры гэтым кароткі адпачынак. Потных коняй паіць пасля таго, як яны ахалодаюць (праз 1—2 гадзіны). А калі прыходзіцца паіць коняй у час працы, то пасля паення працягваць працу каля ½—1 гадзіны. У час адпачынку паіць коняй толькі пасля некаторай падкормкі грубым кормам. Грубыя кармы даваць коням лепш адначасова з пойлам, маючы для гэтага пры кожнай кармушцы невялікае карыцца.

## Узмацніць і палепшыць кармавую базу

Правільная арганізацыя пашы, а таксама стойлавага ўтрымання жывёлы патрабуе максімальнага ўзмацнення і палепшання кармавой базы. З гэтай мэтай кожны калгас і соўгас павінен асушыць свае лугі і выпасы, ачысціць іх ад кустоў, куп'я, карчоў і камення. Своечасовай уборкаю лугоў, перыядычным падкашваннем і выкапкай пустазелля трэба пазбавіцца шкоднай расліннасці, якая часта выклікае хваробы і нават смерць жывёлы. Забяспечыць нармальнае ўгнаенне лугоў і выпасаў. Максімальна пашырыць плошчу штучных лугоў і выпасаў. Забяспечыць далейшае павышэнне ўраджайнасці зерневых, бульбы і другіх палявых культур. Поўнасцю выканаць план сіласавання, правільна скармліваць сілос на працягу ўсяго стойлавага перыяда.

Адна з важнейшых задач жывёлагадоўчай гаспадаркі—выкананне дзяржаўнага плана па пагалоўю і прадукцыі. Правільнай арганізацыяй пашы калгасы, соўгасы і працоўныя аднаасобнікі павінны забяспечыць найбольш паспяховае выкананне сваіх планаў па пагалоўю і прадукцыі.

## Дапамога калгаснікам і працоўным аднаасобнікам

Партыя і ўрад зрабілі ўсё неабходнае для таго, каб кожны калгаснік, рабочы соўгаса і МТС меў сваю карову, дробную жывёлу, птушку. У калгасах, дзе яшчэ не ўсе калгаснікі маюць сваіх кароў ці цялят, павінна быць поўнасцю ліквідавана бескароўнасць у гэтым-жа годзе. Для выканання пастаноў партыі і ўрада кожны калгас і соўгас павінны павысіць прадукцыйнасць сваёй жывёлы, а таксама дапамагчы ў барацьбе супроць разбазарвання і драпежніцкага знішчэння жывёлы калгаснікаў.

Калгасы, соўгасы і МТС павінны прыняць актыўнейшы ўдзел у правільнай арганізацыі пашы для жывёлы працоўных аднаасобнікаў, якая таксама павінна быць забяспечана добрым выпасам. Догляд жывёлы неабходна даручыць найбольш умелым у гэтай справе і адданым сацыялістычнаму будаўніцтву працоўным аднаасобнікам. План злучкі па ўсіх відах жывёлы аднаасобнікаў павінен быць выканан.

Каб забяспечыць поўнае пакрыццё кароў і другога матачнага пагалоўя жывёлы калгаснікаў і аднаасобнікаў, у кожным раёне неабходна арганізаваць правільную расстаноўку вытворнікаў на час злучкі.

Задачы пашыранага ўзнаўлення стада патрабуюць безадкладна і ў максімальнай меры павялічыць пагалоўе калгаснай і соўгаснай жывёлы, у прыватнасці буйнай рагатай. Партыя і ўрад пастанавілі, каб «да канца 1934 года не засталося ні аднаго калгаса, які не меў-бы абагуленага стада буйнай рагатай жывёлы». Шлях для выканання гэтай пастановы—пакупка цялят у калгаснікаў і аднаасобнікаў, абмен калгасных бычкоў на цёлак у калгаснікаў і аднаасобнікаў і кантрактацыя ў іх цялят.

Раённыя партыйныя і савецкія арганізацыі, старшыні сельсоветаў і калгасаў павінны поўнасцю выканаць планы пакупкі, абмену і кантрактацыі цялят у калгаснікаў і аднаасобнікаў. За купленых цялят калгасы плоцяць як грашыма, так і натурай. На кантрактацыю цялят павінен быць выкарыстан увесь крэдыт.

За кожнае добра выгадаванае да 3-х месячнага ўзросту і праданае на калгасную ферму цяля калгасніку, апрача грашовай аплаты, налічваецца дадаткова 20—30 працадзён. За кожнае цяля, купленае і знятае з кантрактацыі ў калгаснікаў і аднаасобнікаў, старшыня праўлення калгаса атрымлівае грашовую даплату ў 5 р., загадчык фермы—3 руб.

Задача ўсёй нашай грамадскасці пад кіраўніцтвам раённых партыйных арганізацый, палітаддзелаў МТС і соўгасаў—разгарнуць сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў шырокую работу, каб з найбольшым поспехам выканаць план злучкі і гадоўлі цялят, шырока практыкуючы пры гэтым сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў соцабавязацельствы імя XVII партз'езда—гадаваць цялят як для рамонту свайго стада, так і для прадажы калгасам.

Праз арганізацыю злётаў, выставак, наведванне лепшых калгасаў і калгасных таварных ферм, праз арганізацыю грамадскай інспекцыі па якасці працы ў жывёлагадоўлі, праз насценны, раённы, палітаддзельскі і цэнтральны друк—забяспечым шырокі абмен вопытам,—як паўней і найлепш выканаць планы злучкі, гадоўлі маладняка і ўсяго пагалоўя жывёлы, своечасова выкрыем і разгромім кулацкія спробы сарваць пастановы партыі і ўрада аб жывёлагадоўлі.

За нядбайныя адносіны да жывёлы, за драпежніцкае яе знішчэнне вінаватыя калгаснікі і аднаасобнікі павінны падвяргацца грамадскаму ганьбаванню заносіцца на чорную дошку, а асоба злосныя парушальнікі—аддавацца пад суд. Лепшыя калгаснікі і аднаасобнікі, якія добрасумленна захоўваюць сваю жывёлу і прыплод, прэміруюцца калгасамі і райвыканкомамі.

Кожны калгас, кожная ферма і брыгада безадкладна павінны ўключыцца ва ўсесаюзны конкурс калгасных таварных ферм на поўнае выкананне ў вызначаныя тэрміны плана здачы дзяржаве прадукцыі і плана аднаўлення стада, на ліквідацыю ялавасці, захаванне маладняка і атрыманне найбольшай колькасці прыплоду, павелічэнне ўдояў, настрыгаў воўны, прыросту вагі жывёлы, палепшанне якасці прадукцыі, аказанне дапамогі калгаснікам у набыцці жывёлы. Не павінна быць ні аднаго калгаса, фермы і брыгады, якія-б не выканалі сваіх абавязкаў па конкурсу.

**Гарэлікаў.**

# Піроплазмоз коняй

*(«Клешчавая ліхаманка коняй»)*

На XVII з'ездзе ВКП(б) тав. Сталін сказаў: «1934 год павінен і можа стаць годам пералому к уздыму ва ўсёй жывёлагадоўчай гаспадарцы». З'езд паставіў перад усімі партыйнымі і совецкімі арганізацыямі задачу—беражна адносіцца да каня, бо жывая цягавая сіла, і ў прыватнасці конь, на даным этапе соцбудаўніцтва адыгрывае рашучую ролю ў цягавым балансе сельскай гаспадаркі.

Правільнаму і бесперабойнаму развіццю і захаванню каня ў Беларусі перашкаджае цэлы рад хвароб. Сярод іх адно з першых месц займае так званы піроплазмоз коняй. Кожны год ад гэтай хваробы падае вялікая колькасць жывёлы. Так, напр., па статыстыцы Ветэрынарнага кіраўніцтва НКЗБ, у 1933 г. піроплазмоз коняй зарэгістрован у 16 паўднёвых раёнах Беларусі: Брагінскім, Веткаўскім, Гомельскім, Камарынскім, Нараўлянскім, Рэчыцкім, Тэрэхаўскім, Увараўіцкім, Хойніцкім, Буда-Кашалёўскім, Жлобінскм, Мозырскім, Горацкім, Пухавіцкім, Чырвонапольскім і Жыткавіцкім.

Вопыт веснавой пасеўнай кампаніі 1933 г. вучыць нас з выключнай увагай і пільнасцю аднесціся да піроплазмоза коняй, бо ў самы адказны момант ва ўказаных раёнах мы мелі 178 нядобрых пунктаў, дзе захварэла 896 коняй і пала 258, астатнія з захварэўшых былі непрацаздольны тэрмінам да 2-3 дэкад і больш. У адносінах да прыводных коняй падзеж даходзіць да 90—100 проц. (Гомельскі раён).

Нельга закрываць вочы на тую акалічнасць, што недаацэнка гэтага захворвання і непадрыхтаванасць раённых ветэрынарных работнікаў спрыяла ў сярэднім 28,8 проц. адыходу сярод захварэўшых коняй.

Піроплазмозам коні звычайна заражаюцца з паловы красавіка і больш як да паловы чэрвеня. Пад назвай піроплазмоз разумеецца захворванне жывёлы, выклікаемае асобымі паразітамі крыві. Паразітаў гэтых можна заўважыць толькі пад мікраскопам пры сільным павелічэнні. Жывуць і размнажаюцца яны ў чырвоных цельцах крыві (эрытрацытах). Адна з важных асаблівасцей піроплазмоза ў тым, што жывёла заражаецца ім праз укусы клешчаў, якія жывуць на папаравых палях, лугах і па кустарніках. Адсюль і шырока распаўсюджаная назва гэтай хваробы—«клешчавая ліхаманка коняй». Клешчы спачатку заражаюцца самі, калі напіваюцца крыві ад хворай піроплазмозам жывёлы. Піроплазмоз на коняй можа перанесці толькі полаваспелая форма кляшча. Праз сваё заражанае патомства клешчы прывіваюць заразу здаровай жывёле, калі нападаюць на яе, каб напіцца крыві. Іншым спосабам заразіцца коні не могуць. Здаровая жывёла можа знаходзіцца ў адным памяшканні з хворай, есці і піць з адной пасуды і не заразіцца.

Піроплазмозам коні не могуць захварэць ад такіх прычын, як прастуда, ператамленне, дрэнная яда, дрэнны корм і т. д. Гэтыя прычыны пагаршаюць цячэнне хваробы, але не выклікаюць яе. Калі на

захварэўшай жывёле не знойдзена клешчаў, то значыць, што яны, напіўшыся крыві і заразіўшы каня, ужо паспелі адпасці ад яго. Гэтую хваробу важна своечасова захапіць, разведаць яе і не даць ёй развіцца.

Трапіўшыя са смакай ад клешчаў у арганізм жывёлы зародкі піроплазм укараняюцца ў чырвоных крывяных цельцах, дзе растуць, развіваюцца і размнажаюцца. Паступова паразіты разрушаюць крывяныя цельцы, колькасць іх у крыві становіцца ніжэй нармальнага, у сувязі з чым развіваецца малакроўе. У рэзультаце сваёй жыццедзейнасці ў арганізме каня піроплазмозы выдзяляюць асобую атруту, ад дзеяння якой у каня развіваецца ліхаманка і паражаюцца розныя важныя органы.

Пры піроплазмозе захворваюць сэрца, печань, почкі, селязёнка, кровеносныя сасуды, лімфатычныя жэлезы, косны мозг, кішачнік і іншыя органы і ткані. Між іншым, ад разрушэння эрытрацытаў аслабаняецца вялікая колькасць уваходзячай у іх склад фарбуючай матэрыі—гемаглабіна, які і выдзяляецца з мачою, часта афарбоўваючы яе ў чырвоны колер.

Для лячэння піроплазмоза коняй ветперсанал мае ў сваім распараджэнні даволі надзейны сродак так званы трыпонбляу, прымяненне якога абавязкова, бо можна выратаваць многіх коняй ад смерці. Трыпонбляу мае выгляд парашка ці крышталяў сіняга колеру. Прэпарат гэты ўводзіцца непасрэдна ў кроў каня (у шыйную вену) па 1-2 грама на 100—200 куб. см. вады ці фізіялагічнага раствору кухоннай солі. Разам з уліваннем неабходна даваць розныя медыкаменты для падтрымання сэрца, лячэння страўніка, кішак і іншых органаў, Лячыць хворых коняй трэба на месцы захворвання, бо вялікія пераходы для такіх коняй пагубны. Ні ў якім разе нельга стамляць хворага каня, садзіцца вярхом ці запрагаць, а даць яму поўны адпачынак.

Пасля выздараўлення нельга пускаць каня адразу ў работу, а тыдні два даць яму ўмацавацца.

Трэба сказаць, што барацьба з піроплазмозам вельмі складаная і цяжкая. Прадукцыйная барацьба з піроплазмозам магчыма толькі пры правядзенні комплекса планавых мерапрыемстваў і прытым адначасова на вялікай тэрыторыі.

Усе меры барацьбы з піроплазмозам можна падраздзяліць на 2 групы:

1. Меры першай групы датычаць непасрэдна арганізма каня, каб зрабіць яго ўстойлівым супроць заражэння. Дасягаецца гэта ўліваннем трыпонбляу з прафілактычнаю мэтай на 5-6 дзень пасля пашнага ўтрымання каня.

2. Другая група мер датычыць клешчаў. Барацьба з клешчамі праводзіцца наступным чынам:

а) барацьба з дарослымі клешчамі ў час паразітавання іх на хатняй жывёле: дасканалы механічны збор, процікляшчавыя ванны, апрысканне і абціранне растворам мыш'яковіста-кіслага натрыя (мы тут не спыняемся на апісанні хімічнай барацьбы пры дапамозе раствораў з мыш'яковіста-кіслым натрыем, бо гэта пытанне чыста тэхнічнае і добра асветленае ў спецыяльных інструкцыях);

б) барацьба з клешчамі на пашы, у полі і т. д.: суцэльныя распашкі, барацьба з пустазеллем, расчыстка хмызняка, зрэзка кочак, меліярацыя, баранаванне і ўгнаенне з падсевам ці без падсеву траў,

залужэнне, выкарыстанне сухадолаў, прызначаных для пашы, выкарыстанне жніва і інш.;

в) барацьба з лічынкамі і німфамі клешчаў, якія водзяцца на дзікім зверы і птушцы—прамежных гаспадарках клешчаў.

У барацьбе з дзікім зверам і птушкай не трэба ставіць пытання аб пагалоўным знішчэнні іх. На гэты конт па лініі паляўнічых саюзаў ёсць вычэрпваючыя меры для знішчэння жывёлін-шкоднікаў сельскай гаспадаркі: хамякоў, суслікаў, тушканчыкаў, мышэй, крыс і інш.

У якасці дадатковага і вельмі добрага метада барацьбы з кляшчамі і ачышчэння выпасаў ад іх рэкамендуецца разбіваць выпасы на 5 участкаў з пачарговым выпасам на іх жывёлы на працягу 20—25 дзён. Гэтыя тэрміны ўвязваюцца з цыклам развіцця кляшча і спрыяюць пагібелі няполаваспелых форм (лічынкі, німфы), г. зн. фактычна прыводзяць к пагібелі патомства.

Для папярэджання піроплазмоза коняй у веснавую пасеўную кампанію гэтага года, акрамя барацьбы з клешчамі пры дапамозе прасцейшых мерапрыемстваў (расчыстка кустарніка, зрэзка кочак, знішчэнне пустазелля, меліярацыя і т. д.), якія апрача таго павышаюць ураджайнасць пашы мінімум на 15—20 проц., НКЗ БССР прапанаваў райветперсаналу з 10 па 31 красавіка правесці з прафілактычнаю мэтай уліванне трыпанбляу ўсім рабочым коням у гаспадарках стацыянарнага піроплазмоза і ўсім коням, прыведзеным з іншых раёнаў, дзе гэта хвароба не пашырана. Мерапрыемствы гэтыя забяспечваюць здароўе коняй у рабочы час, асабліва ў перыяд веснавой пасеўнай кампаніі.

З мэтай палегчыць барацьбу з піроплазмозам і вывучэння яго, протазоалагічны аддзел НІВІ прапануе бясплатную дапамогу па тэрміноваму вызначэнню паразітаў у мазках крыві з вуха і па вызначэнню відаў клешчаў—пераносчыкаў захворванняў.

Матар'ял дасылаць на адрас: г. Віцебск, Юр'ева Горка, Ветэрынарны навукова-даследчы інстытут, протазоалагічны аддзел.

**Гусеў.**

# Кніжная паліца

**В. І. ЛЕНІН.—Аб прадавольственым налогу**

**Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 44, ц. 25 к.**

Напісаная ў красавіку 1921 г. гэтая брашура Леніна з'яўляецца бліскучым тэарэтычным абгрунтаваннем новай эканамічнай палітыкі, пацверджанай цалкам і поўнасцю практыкай соцыялістычнага будаўніцтва. Брашура ні ў якой ступені не страціла сваёй актуальнасці на сёння. Наадварот, без самага грунтоўнага вывучэння гэтай выключнай па сваёй глыбіні работы, нельга правільна зразумець палітыкі партыі на даным этапе будаўніцтва соцыялізма.

У дадатку змешчан план і канспект брашуры «Аб прадавольственым налогу» і ўвагі да тэкста.

**В. І. ЛЕНІН—Ваенная праграма пролетарскай рэволюцыі. Аб лозунгу раззбраення**

**Менск, Партвыдавецтва, 1934, ст. 24, ц. 20 к.**

Гэтыя два артыкулы, напісаныя ўвосень 1916 г., накіраваны супроць лозунга апартуністаў аб народным раззбраенні, якое нібы з'яўляецца самым паслядоўным выражэннем барацьбы супроць усякага мілітарызма, **усякай вайны.** Паказваючы ўсю фальш і буржуазную сутнасць гэтага лозунга, які раззбройвае народныя масы і адцягвае іх ад рэволюцыйнай барацьбы, В. І. абгрунтоўвае магчымасць прагрэсіўных нацыянальных войн пры імперыялізме, немінучасць грамадзянскіх войн і рэволюцый, нарэшце, неабходнасць абароны краіны, дзе перамог ужо соцыялізм, ад нападу знешняй буржуазіі. Усё гэта вымагае **ўзбраення** пролетарыята для перамогі над буржуазіяй. Тав. Ленін падкрэслівае, што, не здраджваючы сваёй сусветна-гістарычнай задачы, пролетарыят зможа толькі пасля канчатковай перамогі над сусветным капіталам выкінуць на злом усякую зброю.

Перакл. з XIX т. твораў 3-га руск. выд.

**В. І. ЛЕНІН. Аб брашуры Юніус.**

**Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., ст. 19, ц. 16 к.**

Аналізуючы брашуру Юніуса (псеўдонім Р. Люксембург)—«Крызіс соцыял-дэмакратыі»—В. І. знаходзіць, што яна абвяргае легенду аб нацыянал-вызваленчым характары імперыялістычнай вайны, ускрывае класавую сутнасць апошняй і падвяргае рэволюцыйнай крытыцы паводзіны былой с.-д. партыі, якая перашла на бок буржуазіі і юнкероў.

Але, адзначаючы ўвогуле марксісцкі характар брашуры Юніуса, т. Ленін ускрывае рад недахопаў і памылак аўтара, якія з'яўляюцца

рэзультатам слабасці нямецкіх левых, аблытаных ганебнай сеццю каўцкіянскага ліцамер'я.

Галоўнымі з гэтых памылак з'яўляюцца: умоўчанне аб здрадніцкай ролі каўцкіянства і сувязі соцыял-шавінізма з апартунізмам, неразуменне розніцы паміж імперыялістычнай і нацыянальна-вызваленчай вайной і «процістаўленне» нацыянальнай праграмы імперыялістычнай вайне. Даны артыкул з'яўляецца адной з асноўных работ Леніна, прысвечаных крытыцы люксембургіянства ў нацыянальным пытанні.

### В. І. ЛЕНІН—Імперыялізм і раскол соцыялізма

**Менск, Партвыдавецтва, 1934, ст. 16, ц. 15 к.**

У гэтай брашуры, напісанай увосень 1916 г., Уладзімір Ільіч устанаўляе прамую сувязь паміж імперыялістычнай буржуазіяй і перамогшым у той час рабочы рух апартунізмам.

Аналізуючы асаблівасці імперыялізма, як паразітычнага, манапалістычнага, паміраючага капіталізма, тав. Ленін ускрывае прадажніцкую сутнасць соцыял-згоднікаў Каўцкага, Гільфердынга і К°, подкуп і змыканне верхніх праслоек рабочага класа з імперыялістычнай буржуазіяй. У растлумачэнні масам немінучасці і неабходнасці расколу з апартунізмам, выхаванні іх к рэвалюцыі, шляхам бязлітаснай барацьбы з апартунізмам, уліку вопыту вайны для ўскрыцця здрадніцтва нацыянал-ліберальнай рабочай палітыкі,—бачыць В. І. адзіную марксісцкую лінію ў міжнародным рабочым руху.

Пераклад зроблен з XIX т. 3-га рус. выд.

### В. І. ЛЕНІН—Тэзісы аб асноўных задачах Комуністычнага Інтэрнацыянала

**Менск, Партыдавецтва, 1934, ст. 20, ц. 20 к.**

Гэтыя тэзісы, напісаныя В. І. Леніным 4 ліпеня 1920 г., былі прыняты без паправак у выглядзе рэзалюцыі па дакладу Леніна—«Аб міжнародным становішчы і задачах Комінтэрна».

У аснову тэзісаў пакладзена задача—ва ўмовах пашырэння сярод рэволюцыйнага пролетарыята асноўных прынцыпаў Комінтэрна, росту спачування гэтым прынцыпам з боку шырокіх мас працоўных, небяспекі фармальнага далучэння часткі партый ІІ інтэрнацыянала да Комінтэрна, хваробы «левізны»—вызначыць на падставе практычнага вопыту змест паняццяў «дыктатура пролетарыята» і «совецкая ўлада», указаць, у чым павінна заключацца неадкладная работа па ажыццяўленню гэтых лозунгаў, шляхі і спосабы выпраўлення недахопаў міжнароднага комуністычнага руху.

Тэзісы складаюцца з трох раздзелаў: 1. Сутнасць дыктатуры пролетарыята і совецкай улады. 2. У чым павінна заключацца неадкладная і паўсямесная падрыхтоўка к дыктатуры пролетарыята. 3. Выпраўленне лініі—часткай састава партый, прымыкаючых і жадаючых прымкнуць да Комуністычнага Інтэрнацыянала.

### І. СТАЛІН—Гутарка з першай амерыканскай рабочай дэлегацыяй

**Менск, Партвыдавецтва, 1934, ст. 32, ц. 25 к.**

9 верасня 1927 г. т. Сталін прыняў дэлегацыю амерыканскіх рабочых, з якой правёў гутарку аб міжнародным і ўнутраным становішчы СССР. У сваіх адказах на пытанні дэлегатаў т. Сталін сцісла, у яснай форме асвятляе значэнне Леніна, як выканаўца і прадаў-

жальніка вучэння Маркса, паказвае тое новае, чым Ленін узбагаціў марксізм у эпоху імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый, падкрэслівае недапушчальнасць ні аддзялення, ні тым больш процістаўлення марксізма ленінізму.

Далей тав. Сталін асвятляе кіруючую ролю партыі ў нашай краіне, ролю ВКП(б) у Комінтэрне, прынцыпы часовых згод СССР з капіталістычнымі краінамі і нацыянальную палітыку совецкага ўрада, адносіны комуністаў да рэлігіі, вызначае асноўныя рысы комуністычнага грамадства і т. д. Акрамя таго, у брашуры змешчаны адказы дэлегатаў на пытанні т. Сталіна аб прафесіянальным руху і становішчы рабочага класа ў ПАЗШ.

**Ленін—вялікі асновапаложнік соцыялістычнага будаўніцтва**

**Менск, Партвыдавецтва, 1934, ст. 32, ц. 25 к.**

Тэзісы інстытута Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВКП(б) к дзесяцігоддзю смерці Леніна. Тэзісы даюць у сціслай форме памяцце аб асновах вучэння Леніна пра пролетарскую рэволюцыю, дыктатуру пролетарыята і комунізм, знаёмяць з ленінскім планам пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. Дан таксама кароткі агляд дасягненняў соцыялістычнага будаўніцтва за дзесяцігоддзе пасля смерці Леніна—дзесяцігоддзе вялікай сусветнай перамогі ленінізма.

**П. САХАРАВА, І. ЛЫЧОЎ, В. КОНІК—Да ітогаў чысткі КП(б)Б**

**Менск, Партвыдавецтва, 1934, ст. 39, ц. 35 к.**

У брашуры змешчаны прамовы на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б 20/XII—33 г.: т. **Сахаравай**—«КП(б)Б прышла к XVII з'езду ВКП(б) з новымі перамогамі», т. **Лычова**—«Па-большэвіцку перабудуем сваю работу», **т. Коніка**—«Мабілізуем партыйныя арганізацыі і кожнага комуніста на рэалізацыю вывадаў камісіі па чыстцы».

У прамовах падан багаты фактычны матэрыял па чыстцы КП(б)Б. Аўтары паказваюць недахопы ў рабоце партыйных арганізацый Беларусі, спыняюцца на вялікім ідэйна-выхаваўчым значэнні чысткі, якая ачысціла рады КП(б)Б ад чуждых элементаў, яшчэ больш згуртавала ўсю КП(б)Б вакол ЦК ВКП(б) і правадыра партыі т. Сталіна, падняла боездольнасць усіх партарганізацый і кожнага комуніста ў барацьбе за генеральную лінію партыі.

**Брыгада Бібліяграфічнага інстытута БССР імя Леніна**

# ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б

## Аб прапрацоўцы рашэнняў XVII з'езда партыі

### Пастанова ЦК ВКП(б)

ЦК ВКП(б) устанаўляе, што ў некаторых краях і абласцях глыбокае вывучэнне рашэнняў XVII партз'езда падмяняецца паказной шуміхай і фармальным зазубрываннем паасобных палажэнняў. Сур'ёзная вучоба падмяняецца спартыўным азартам, арганізацыяй «палітбаёў», «палітаблаў», «палітвіктарын», «палітлатарэй», «палітвудачак», і т. п. Распаўсюджваюцца стандартныя пытанні для правядзення «палітбаёў», падчас абсалютна безграматныя, выпускаемыя «партгабінетамі», без прагляду і зацверджання, культпропамі і парткомамі. Партыйцаў прывучаюць даваць шаблонныя адказы на загадзя распаўсюджваемыя шаблонныя пытанні, а культпропы, абвязаныя кантраляваць гэту справу, астаюцца ў баку.

Тым самым жывая большэвіцкая справа вывучэння рашэнняў XVII з'езда партыі апашляецца, ператвараецца ў мёртвую схаластыку, у беззмястоўную балбатню.

**ЦК ВКП(б) пастанаўляе:**

1. Прапанаваць партарганізацыі неадкладна ўстраніць адзначаныя вышэй скажэнні і адмяніць правядзенне «палітбаёў», «палітлатарэй», «палітвудачак» і т. п. форм прапаганды, якія не ўласцівы большэвізму.

2. Даручыць камісіі ў складзе тт. Жданава (старшыня), Стэцкага, Мехліса, Когана, Радыёнава, Кіллерога і Буліна ў 10-дзённы тэрмін, улічыўшы адбыўшыйся на пасяджэнні абмен думкамі, прадставіць практычныя прапановы аб формах палітвучобы ў сувязі з прапрацоўкай рашэнняў XVII партз'езда, а таксама аб парадку правядзення партпалітмінімума для членаў партыі, кандыдатаў і спачуваючых, адпаведна іх узроўню развіцця і тэарэтычнай падрыхтоўкі.

**ЦК ВКП(б)**

# Аб ходзе вывучэння рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і становішчы работы сеткі партасветы

### Пастанова ЦК КП(б)Б ад 21 красавіка 1934 г.

**ЦК КП(б)Б канстатуе:**

1. Што рад партарганізацый (Клічаў, Жлобін, Рэчыца, Лёзна, Талачын, не гледзячы на рашэнне Бюро ЦК КП(б)Б ад 11 сакавіка, яшчэ да гэтага часу не разгарнулі паглыбленай работы па вывучэнню рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) сярод комуністаў, комсамольцаў, беспартыйных рабочых і калгаснікаў. Сетка партасветы ў Клічаве, Талачыне, Жлобіне, Лёзне ў сувязі з наступленнем летняга перыяду амаль згарнула сваю работу. Школы і гурткі ў большасці распаліся.

2. Магілеўскі РК КП(б)Б не вынес урокаў з рашэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 11 сакавіка. Кіраўніцтва ходам прапаганды рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) усклаў на інструктара РК—быўшага загадчыка культпрападдзелам.

3. У паасобных партарганізацыях (Крычаў, Бабруйск, Магілеў) паглыбленае вывучэнне рашэнняў з'езда падмяняецца фармальным зазубрываннем паасобных пытанняў. Комуністаў, комсамольцаў, беспартыйных прывучаюць даваць шаблонныя адказы на загадзя распаўсюджваемыя шаблонныя пытанні па апытальніках.

4. Апраўдаўшая сябе форма вучобы—здача грамадска-палітычных залікаў у паасобных партарганізацыях бюракратычна рэгламентуецца зверху замест арганізацыі гэтай работы знізу на аснове мабілізацыі грамадскасці.

5. Мае месца зусім недапушчальная, прыніжаючая ўсё аграмаднае значэнне рашэнняў з'езда і даклада тав. Сталіна, практыка грашовага прэміравання (Сенненскі раён) за ўсваенне рашэнняў з'езда і даклада т. Сталіна, вульгарызацыя метадаў прапрацоўкі рашэнняў з'езда—арганізацыя палітвудачак (Крычаўскі раён).

6. ЦК КП(б)Б адзначае, што яшчэ да гэтага часу ў радзе раёнаў (Жыткавічы, Талачын, Смалявічы) матэрыялы з'езда, у прыватнасці даклад т. **Сталіна** і **Кагановіча**, не даведзены да пярвічных партарганізацый і калгасаў.

**ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

Прызнаць прапрацоўку рашэнняў з'езда партыі і прамовы т. Сталіна з боку РК—Клічаў, Жлобін, Рэчыца, Лёзна, Талачын—нездавальняючай.

За зусім нездавальняючую работу па прапагандзе рашэнняў з'езда, адсутнасць кіраўніцтва работай сеткі партасветы сакратарам Клічаўскага, Рэчыцкага, Талачынскага РК КП(б)Б паставіць на від.

Рашэнне пленума Магілеўскага РК КП(б)Б аб выдзяленні адказным за кіраўніцтва ходам прапаганды рашэнняў XVII з'езда па раёну—інструктара райкома быўшага загадчыка культпропаддзелам, як нявернае, адмяніць.

Указаць сакратару Сенненскага РК тав. Ленцнеру, Крычаўскага РК т. Кулінковічу аб нерэагаванні на зусім недапушчальныя формы прапрацоўкі рашэнняў XVII з'езда.

Папярэдзіць усе партарганізацыі аб недапушчальнасці згортвання работы сеткі партасветы ў сувязі з наступленнем летняга перыяду.

Прапанаваць усім ГК і РК КП(б)Б, палітаддзелам МТС і соўгасаў забяспечыць бесперабойную работу па партасвеце на працягу ўсяго летняга перыяду.

ЦК КП(б)Б падкрэслівае неабходнасць шырокага разгортвання ва ўсіх партарганізацыях здачы грамадска-палітычных залікаў, па сутнасці ўважліва правяраючы ўсваенне рашэнняў з'езда партыі, гэтым самым дапамагаючы членам і кандыдатам партыі найбольш паглыблена ўсвоіць рашэнні з'езда.

Прапанаваць ДВБ і БАКТ прыняць тэрміновыя меры да прасоўвання з'ездаўскай літаратуры непасрэдна да пярвічных партарганізацый і калгаснікаў.

Партвыдату паскорыць дадатковы выпуск даклада тав. Сталіна ў 30 тыс. экз., забяспечыўшы таксама выпуск яго прамовы на літоўскай мове.

Указаць тав. Верашу на зусім нездавальняючую работу па забяспечанню з'ездаўскай літаратурай на яўрэйскай і польскай мовах.

Даручыць аддзелу культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б арганізаваць праверку выканання данага рашэння.

# Аб ходзе сяўбы

## Пастанова бюро ЦК КП(б)Б ад 4 мая 1934 года

Рэзультаты сяўбы на 1 мая сведчаць, што ў той час, як цэлы рад раёнаў—Барысаўскі, Слуцкі, Оршанскі, Чырвонаслабодскі, Менскі і інш.,—падхапіўшы ўказанні ЦК аб арганізацыі ранняй сяўбы, здолелі дабіцца большэвіцкіх тэмпаў і якасці сяўбы; такія раёны як Суражскі, Гарадокскі, Расонскі, Лепельскі і Чашніцкі цягнуцца ў хвасце, выканаўшы на 1 мая 29—30 проц. пры сярэднерэспубліканскім—45,5 проц. усёй яравой сяўбы. Дырэктыва ЦК аб скончэнні сяўбы аўса на 20 красавіка і самае позняе 25 красавіка—не выканана, і скончэнне да 1 мая сяўбы ранніх зернавых таксама сарвана.

Зусім недапушчальна таксама зацягваюць сяўбу паўднёвыя раёны: Тэрахоўка, Ветка, Нароўля, Лельчыцы, Лоеў і Камарын, кіраўніцтва якіх зусім упускае з-пад увагі, што па ўсіх умовах іх раёны павінны падыходзіць ужо к завяршэнню сяўбы.

ЦК папярэджвае сакратароў РК і старшынь РВК гэтых раёнаў, што далей цярпець такое ганебнае адставанне іх раёнаў немагчыма і па рэзультатах пяцідневкі на 5 мая ЦК вымушан будзе ў адносінах прадаўжаючых адставаць паставіць пытанне аб здольнасці выконваць дырэктывы ЦК і ўзятыя на сябе абавязацельствы.

ЦК адзначае, што побач з МТС, добра ідучымі па сяўбе, як Рагачоўская, Хойніцкая, Любаньская і Тураўская, калгасы якіх з'яўляюцца вядучымі па сяўбе ў раёне і самі раёны ідуць у ліку перадавых раёнаў рэспублікі, такія МТС, як Плешчаніцкая, Гарадокская, Лагойская, Путчынская, Горацкая, Талачынская, Полацкая і рад іншых, зрываюць тэрміны сяўбы з пяцідневкі ў пяцідневку, ідуць у хвасце выканання плана сяўбы нават па свайму рёну, а дырэктары і начпалітаддзелы гэтых МТС спасыланнямі на сырую глебу, дрэннае надвор'е і інш. аб'ектыўна прыкрываюць сваю няздольнасць па-большэвіцку арганізаваць справу сяўбы.

Асноўная прычына ў адставанні заключаецца ў няўмелай арганізацыі і выкарыстанні як з боку дырэкцыі МТС, так і палітаддзелаў усіх магчымасцей МТС; зусім недастатковым аператыўным кіраўніцтве сяўбой; зусім нездавальняючым выкарыстанні трактарных і конных сеялак; дагэтуль не зламана кулацкае супраціўленне выкарыстанню машын і ранніх тэрмінам сяўбы.

ЦК абвяшчае вымову дырэктарам Плешчаніцкай, Полацкай, Путчынскай і Лагойскай МТС і папярэджвае начальнікаў палітаддзелаў гэтых МТС, што далейшае адставанне работы па сяўбе калгасаў зоны дзейнасці МТС пацягне за сабой больш суровыя меры ўздзеяння.

ЦК абавязвае начальнікаў палітаддзелаў усіх адстаючых па сяўбе МТС неадкладна выправіць становішча з сяўбой у калгасах зоны

дзейнасці МТС, рашуча ўстараніўшы факты процістаўлення ў радзе МТС якасці работы, тэмпам сяўбы, няўменння спалучаць работу трактара з выкарыстаннем конскай цягі і рашуча ўстараніць супраціўленне радковай сяўбе з боку нават некаторых кіруючых работнікаў калгасаў. Неабходна арганізаваць работу ўнутры брыгады, рашуча дабіваючыся выканання і перавыканання ўстаноўленых норм. Неабходна ў бліжэйшую-ж пяцідненўку дабіцца не толькі ліквідацыі адставання МТС, але і зрабіць калгасы зоны дзейнасці МТС вядучымі ў раёне.

Поўнасцю выкарыстоўваючы тэхнічныя магчымасці МТС, асабліва звярнуць увагу на поўнае выкарыстанне трактарных і конных сеялак.

Перабудаваць сваю работу ў бок чоткага, аператыўнага кіраўніцтва трактарнымі атрадамі і калгасамі, аказваючы канкрэтную дапамогу адстаючым у сяўбе калгасам.

Прыняць прапанову Сельгасаддзела ЦК аб неадкладным выездзе ў найбольш адстаючыя раёны членаў Бюро ЦК і членаў ЦК тэрмінам на 5—7 дзён.

Галоўлітбел №А 3575.
Тыраж 8.100.
301.600 друк. зн. (5 арк.)
Здана ў набор 23/IV—34 г.
Падпісана да друку 11/V—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. { *А. Мацкевіч*, *А. Жук.*



Друкарня імя Сталіна. Зак. № 627.




**ЦАНА 25 кап.**

ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“

Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой 105.

ЧАСОПІС

# „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

ОРГАН ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** асвятляе асноўныя пытанні марксізма-ленінізма, тэарэтычныя і практычныя пытанні партыйнай, савецкай, гаспадарчай, прафесіянальнай работы і вядзе рашучую барацьбу за генеральную лінію партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** асвятляе пытанні нацыянальнай палітыкі партыі і вядзе рашучую барацьбу з буржуазна-нацыяналістычнымі скажэннямі лініі партыі ў нацыянальным пытанні.

**Б. Б.** асвятляе ўсе пытанні тэорыі і практыкі культурнага будаўніцтва і марксісцка-ленінскага выхавання.

**Б. Б.** шырока асвятляе работу палітаддзелаў МТС і соўгасаў, іх барацьбу за соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

**Б. Б.** асвятляе работу палітаддзелаў транспарта ў справе выканання задач, пастаўленых перад імі партыяй.

**Б. Б.** шырока асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва, пытанні перабудовы партыйнай работы ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** у абагуленым парадку асвятляе вопыт работы раёнаў, прадпрыемстваў, паасобных парт'ячэек на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, работу соўгасаў, калгасаў, МТС, транспарта і іх барацьбу за рэалізацыю чарговых задач, высунутых партыяй.

**Б. Б.** уваў аддзел кансультацыі па розных пытаннях: палітыка-эканомічных, агратэхнічных і інш.

**Б. Б.** разлічан на кіруючы і нізавы партактыў, які вядзе работу ў розных галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** з'яўляецца часопісам абсалютна неабходным у штодзённай рабоце партарганізацый, кіруючым часопісам па пытаннях партбудаўніцтва як для парткомаў і ячэек, так і для паасобных членаў партыі.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на час. „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ на 1934 год

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

| | На год | | На 6 м-цаў | | На 1 м-ц | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | |
| 24 нумары у год | 6 | — | 3 | — | — | 50 | КОШТ АДНАГО НУМАРА 25 к. |

Падпіска прымаецца штомесяц усімі райбюро Саюздруку, паасобнымі упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі.